УДК 929.52
ББК 63.3(4БЕИ)
Ч90

*Фундатар выдання – зямляк Руслан Генюш*

**Чыгрын, С. М.**

Ч90 Вяртанне да Ларысы Геніюш. Літаратурна-краязнаўчыя артыкулы / С.М. Чыгрын. – Гродна : ЮрСаПрынт, 2020. – 114 с.

ISBN 978-985-7134-87-8

У кнігу ўключаны літаратурна-краязнаўчыя артыкулы, прысвечаныя жыццю і творчасці вялікай беларускай паэткі Ларысы Геніюш (1910-1983), а таксама тым людзям, з якімі яна была знаёмая і сябравала.

Адрасуецца шырокаму колу чытачоў.

**УДК 929.52**
**ББК 63.3(4БЕИ)**

**ISBN 978-985-7134-87-8**

## Янка і Ларыса Генікошы



*Ларыса Геніюш*

Пачну з радкоў з пісьма Ларысы Геніюш да Сакрата Яновіча ад 3 красавіка 1969 года (Ларыса Геніюш. Каб вы ведалі... Мн., 2005. С.235): “Дарагі сябра Сакрат! Цяжка паэту пісаць прозаю, але вельмі хочацца мне паслаць Вам гэты кусочак успамінаў са старых Крынак. Калі б з гэтага нешта надавалася для друку, а імя маё не было дзеля гэтага перашкодай, дык, калі ласка, пакланецеся і ад мяне старому гарадку маяго роду...”.

Ларыса Геніюш нарадзілася ў 1910 годзе на Ваўкавышчыне ў фальварку Жлобаўцы, як яна сама пісала, на зямлі “з дзядоў і бацькоў беларусаў”. А дзед яе



*Хата ў Зэльве, дзе жылі Генюшы. Сучасны здымак*

Павел Міклашэвіч быў родам з Крынак. Ларыса Генюш аб гэтым успамінае і ў артыкуле “Крынкі” (“Маладосць”, 1997, № 1): “Казаў мой дзед Павел, што некалі прыйшлі туды ў пушчу два браты Мікалай і Міхал, якія і залажылі Крынкі. Ад Мікалая пайшлі Міклашэвічы, а ад Міхала – Міхайлоўскія – два старыя, адвечныя роды ў Крынках”.

Будучы муж паэткі – Янка Генюш нарадзіўся ў 1902 годзе ў саміх Крынках. І калі Ларыса Антонаўна Міклашэвіч выйшла замуж за Янку Генюша, то запыталася жартам у яго: “А дзе ж ты нарадзіўся?” – “Гдзе? У Крынках!” – адказаў Янка. І, сапраўды, дзе ж яшчэ можна нарадзіцца на Беласточчыне, як не ў славутых Крынках.

Калі пра Ларысу Генюш у Беларусі і за яе межамі напісана і пішацца шмат, то пра Янку Генюша зусім мала. Згадваецца зрэд часу, што ён быў мужам вялікай паэткі. Таму хочацца пра Янку



*Янка і Ларыса Геніюшы*

Геніюша распавесці больш, але спачатку ўсё ж прыгадаю яшчэ раз Ларысу Геніюш – сапраўды, геніяльную паэтку, мужную жанчыну і шчырую беларуску.

З лютага 1935 года Ларыса Міклашэвіч узяла шлюб са студэнтам медычнага факультэта Карлава ўніверсітэта (Прага) Янкам Геніюшам у Воўпенскай царкве, што на Ваўкавышчыне. Пасля шлюбу пераехала ў Зэльву, дзе хутка нарадзіўся ў маладой сям'і сын Юрка. У 1937 годзе маці з сынам перабраліся ў Прагу да мужа і бацькі, дзе ён працаваў лекарам.

У 1942 годзе ў Празе выходзіць першы зборнік паэзіі "Ад родных ніў". Там паэтка актыўна займаецца літаратурнай і грамадскай дзейнасцю, уваходзіць у Беларускі камітэт самапомачы, працуе сакратаром Беларускай Народнай Рэспублікі. 5 сакавіка 1948 года Ларысу Геніюш разам з мужам Янкам арыштоўваюць у г.Вімпэрк, пазбаўляюць чэхаславацкага грамадзянства, выдаюць савецкім спецслужбам і пад канвоем дастаўляюць у Мінск, дзе паэтку асабіста дапытваў тагачасны міністр МДБ БССР Лаўрэн-



*Янка Геніюш*



*Ларыса і Янка Геніюшы, 1970-я гады*

цій Цанава, патрабуючы аддаць архіў БНР.

7 лютага 1949 года Вярхоўны суд БССР прыгаварыў Ларысу і Янку Геніюшаў да 25 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Пакаранне яны адбывалі далёка на Поўначы былога СССР. У Зэльву вярнуліся ў 1956 годзе, бо былі вызвалены, як несавецкія грамадзяне. У Зэльве жылі да самай смерці на Савецкай вуліцы, 7а.

Цяпер пра Янку Геніюша. Васіль Быкаў у сваёй кнізе "Доўгая дарога дадому" пра Янку Геніюша сказаў, што "увогуле ён мне падабаўся сваёй непадробнай беларускай шчырасцю". А калі Янка Геніюш заязджаў да Васіля Быкава ў Гародню, то яны вялі доўгія гутаркі пра ўсё на свеце, але найперш пра Беларусь і лёс беларусаў. З іх вялікі пісьменнік "пазнаў нямала новага і нават неспадзяванага з жыцця на акупацыйнай тэрыторыі, пад немцамі, а таксама ў Празе. Факты, пра якія распавядаў Геніюш, не надта ўлагоджваліся з тымі, што мы засвоілі з савецкай прапаганды...". Так згадваў Васіль Быкаў Янку Геніюша.

Па характару Іван Пятровіч быў розны – то спакойны, то занадта рэзкі і гарачы ў выка-

званнях, то чулліва-лагодны, то вясёлы. Але найперш да канца сваіх дзён (памёр 19 лютага 1979 года, а Ларысы Геніюш не стала 7 красавіка 1983 года, пахаваны ў Зэльве на мясцовых могілках. – С.Ч.) Янка быў і застаўся шчырым беларусам, патрыётам сваёй Бацькаўшчыны. Дый іншым ён быць не мог. Тым больш, што побач, нягледзячы на ўсе пакуты, цяжкія і шматгадовыя ростані, была слынная паэтка Беларусі Ларыса Геніюш. Яны разам дзялілі свае гора і радасці, здзекі і хваляванні, трывогу і неспакой. На надмагільным помнічку ў Зэльве, які пры жыцці ставіла яму сама Ларыса Антонаўна (цяпер ім дваім стаіць помнік на Зэльвенскіх гарадскіх могілках), былі выбіты такія радкі:

*Па сонца асветы ўзлятаў, нібы птах,*
*З палоскі сялянскае, вузкае.*
*Адзін толькі ведаў у жыцці сваім шлях*
*Пачэсны, цяжкі, беларускі.*

А калі да Ларысы Геніюш прыязджалі сябры і яны прыходзілі на зэльвенскія могілкі да магілы Янкі Геніюша, паэтка казала:”Вось тут спіць мой Янка, на мяккай пярынцы. Каторы гадочак спіць Янечка, адбегаў сваё, адгараваў...”

З Крынак шлях ляжаў у Прагу, куды Янка Геніюш прыехаў вучыцца. Ён паступіў у Карлаўскі ўніверсітэт, а пасля яго заканчэння атрымаў медыцынскую адукацыю, стаў урачом-венеролагам.

Жыццё ў Празе было вельмі цікавым і разнастайным. Тут жылі дзеячы Беларускай Народнай Рэспублікі, беларускія спевакі, кампазітары, мастакі, пісьменнікі. З імі ўсімі быў знаёмы Янка Геніюш, з многімі шчыра сябраваў. А яшчэ ён быў актыўным сябрам пражскага камітэта Беларускай народнай самапомачы.

Падчас акупацыі Прагі нямецкімі войскамі, кіраўнік Беларускай народнай самапомачы (БНС) Іван Ермачэнка адправіў Янку Геніюша ў Беларусь, а менавіта ў Слонім на лекарскую працу. Пры жыцці доктар філалагічных навук, прафесар Алег Лойка расказаў мне адзін цікавы эпізод з жыцця Янкі Геніюша ў акупіраваным немцамі Слоніме: “Падчас акупацыі ў

1943-1944 гадах мой бацька быў намеснікам слонімскага гебітартца (слонімскага райздрава), а гебіткамісаратрцам быў ні хто іншы, як дзядзька Янка, спадар Іван Пятровіч Геніюш. Толькі па рэцэптах за подпісам майго бацькі выдаваліся ў слонімскай аптэцы лякарствы. Тыя лекі ішлі да партызанаў, і спадар Геніюш не мог таго не ведаць. А яшчэ Іван Пятровіч стаў героем у вачах майго бацькі, калі ён не ўскінуў руку дзеля прывітання слонімскага гебіткамісара Эрэна, п'ючы піва пры рэстараннай стойцы, калі ў рэстаран зайшоў Эрэн. Эрэн зрабіў на тое заўвагу, на якую дзядзька Янка зрэагаваў імгненна: "А хто тут гаспадар, мы ці вы?!" Праз некалькі дзён слонімскі арцтгэбіт узначальваў ужо не Геніюш: Эрэн прагнаў яго ў Баранавічы. Іншай меры пакарання Эрэн не дабіўся, бо за Геніюшам стаяла слава тых, хто падпісаў з Прагі ліст самому Гітлеру...". Што датычыць ліста Гітлеру, дык пра гэта добра расказала Ларыса Геніюш у сваёй "Споведзі" і ўсе тыя махінацыі, якія вытвараў у акупацыйнай Празе Іван Ермачэнка. Пра рэпліку Янкі Геніюша ў адрас гебіткамісара Эрэна, сказаную Алегам Лойкам, аспрэчыў Барыс Данілюк (1923-2011), які ў час акупацыі жыў у Слоніме. У адным з лістоў пры жыцці да аўтара гэтай кнігі спадар Барыс пісаў: "У Слоніме пры немцах не было ніякага рэстарану, апрача харчоўні Самапомачы. У ёй піва не прадавалі, ды і ў такую харчоўню гэбіткамісар ніколі не пайшоў бы. Піва, магчыма, было ў "Soldatenheim", але туды для "Einhemishe", у тым ліку і для доктара Геніюша, не было доступу". Хто з іх меў рацыю – цяжка сказаць, але ж ад смелага і рызыкоўнага Янкі Геніюша, які моцна любіў Беларусь, можна было чакаць і такой рэплікі ў адрас чужынцаў.

Вярнуўшыся са сталінскіх лагераў Іван Пятровіч уладкаваўся працаваць доктарам у мясцовай Зэльвенскай бальніцы. Пісьменнік Уладзімір Арлоў прыгадвае: "Янка Геніюш быў добрым лекарам, што маглі б засведчыць і ягоныя чэшскія пацыенты, і хворыя Зэльвенскай раённай бальніцы, начальства якой прыніжала былога гулагаўскага вязьня, не прызнаючы замежны Янкаў дыплом...".

Янка Геніюш вельмі любіў беларускія кнігі. Ён іх купляў у крамах, прасіў сяброў, каб высылалі яму новыя выданні з Мін-

ска, з абласных гарадоў. Некалі ён першы даў сваёй нарачонай Ларысе пачытаць вершы Янкі Купалы, расказваў ёй пра гісторыю Беларусі, пра вялікіх людзей Бацькаўшчыны. Ці не Іван Пятровіч адкрыў жонцы – будучай паэтцы Ларысе Геніюш свет на беларускасць, натхніў на паэзію?!. Бо ведаў ён шмат. Пісьменнік Уладзімір Ягоўдзік нядаўна прыгадаў, як ён быў яшчэ школьнікам, а Іван Пятровіч натхніў яго падпісацца на Беларускую Савецкую Энцыклапедыю. “Іван Пятровіч фанатычна любіў беларускія кнігі: купляў усе, якія выдаваліся, нават па некалькі паасобнікаў, купляў тыя, якія трэба было купляць і тыя, якія яму былі нават не патрэбныя”, – успамінае Уладзімір Ягоўдзік.

Калі не стала Янкі і Ларысы Геніюшаў, я пабываў у іх доме разам з настаўнікам з Дзярэчына Пятром Марціноўскім. Тады якраз з Беластока Валянціна Геніюш – нявестка Геніюшаў, прыехала, каб вырашыць пытанне з домам Геніюшаў у Зэльве. “Усю бібліятэку Янкі і Ларысы Геніюшаў абяцала купіць Нацыянальная бібліятэка Беларусі, але ў апошні момант адміністрацыя бібліятэкі адказалася ад кніг, – уздыхнула Валянціна. – Бярыце, хлопчыкі, што-небудзь сабе з гэтых выданняў...”

Кніг у хаце Геніюшаў сапраўды было шмат: у адным пакойчыку яны стаялі на паліцах ад падлогі да столі. Вялікая гара выданняў па медыцыне ляжала проста на падлозе. Мы ад убачанага проста разгубіліся. У гэтым доме можна было зрабіць музей Геніюшаў, куды прыязджалі б штогод тысячы турыстаў, бо Зэльву сёння ведаюць толькі таму, што там жылі і пахаваны Янка і Ларыса Геніюшы. Але, на вялі жаль, ніякага музея там няма, нават на 100-годдзе паэткі не дазволілі мясцовыя ўлады ўстанавіць на доме мемарыяльную шыльду. Яе сарвалі і шыльда знаходзілася ў міліцыі. Праўда, мне і Міхасю Скоблу ўсё ж яе вярнулі, але ўстанавіць на доме, дзе жылі Геніюшы, зэльвенскія чыноўнікі так і не дазволілі.

Уладзімір Арлоў у сваёй кнізе “Імёны свабоды” згадвае: “Калі Іван Пятровіч цяжка захварэў, “дабрадзеі” пусцілі чутку, нібыта ён ужо сканаў, і ў дом Геніюшаў пачалі прыходзіць людзі з жалобнымі вянкамі. Ён памёр на жончыных руках. Ларыса Антонаўна



*Паўліна Мядзёлка, Ларыса і Янка Геніюшы, Ніна Лойка. Зэльва, 1968 г.*

сама яго мыла і апранала. “Пахавалі са слязьмі, ціха, без палкіх прамоў. Не ўсё было добра, аднак нельга аб гэтым...”

Пры жыцці ў іх хаце часта гасцілі беларускія пісьменнікі, мастакі, кампазітары, палітыкі. Па-рознаму яны адносіліся найперш да Івана Пятровіча, які пасля сталінскіх лагераў страшна ненавідзеў камуністаў і савецкую ўладу, а яшчэ мацней любіў Беларусь і ўсё жыццё марыў аб яе незалежнасці ад Расіі. Пакуль мара Янкі Геніюша не споўнілася. Не збылася і светлая мара Ларысы Геніюш, пра якую яна пісала ў сваіх вершах:

*І будзем верыць мы ў кайданах,*
*Узняўшы сэрцы ўгару,*
*Што так, як Бог укрыжаваны,*
*Васкросне й наша Беларусь!*



## Ларыса Геніюш і Жыровічы

*Жыровічы, славутая мясціна,*
*Здаўна пралажаны для нас дзядамі шлях.*
*Малітвы боль у нялёгкаю хвіліну*
*Мы на тваіх складаем алтарах.*

Гэтыя радкі з верша Ларысы Геніюш, які быў напісаны паэткай на схіле жыцця, не толькі пра Жыровічы, але і пра яе ўласны шлях – пакутлівы і светлы.

У 1956 годзе Ларысу Геніюш разам з мужам вызвалілі паводле пастановы ААН. Геніюшы прыехалі ў Зэльву, дзе і пражылі да канца свайго жыцця на вуліцы Савецкай, 7а, былой Царкоўнай. Насупраць іх дома стаяла і па сёння стаіць Троіцкая царква, верніцай якой была Ларыса Антонаўна. У царкве цяпер знаходзіцца невялічкі пакой-музей, прысвечаны ёй, мемарыяльная шыльда, а побач з царквой – помнік. "Божа, барані Беларусь" – гэтыя тры словы адлітыя ў метале.

Пры жыцці і пасля смерці паэткі з друку выйшлі шмат кніг яе вершаў, прозы і эпісталярнай спадчыны. Тысячы паэтычных радкоў і пісем паэткі яшчэ знаходзяцца ў розных архівах і прыватных бібліятэках.



*Жыровічы сёння*

Жывучы ў Зэльве на былой Царкоўнай вуліцы (сказаць на Савецкай, у мяне не паварочваецца язык), Ларыса Антонаўна амаль штодня бывала ў Троіцкай царкве. Але самым шчаслівым момантам у яе жыцці быў той час, калі паэтка наведвала Жыровічы. Жырава – як яна казала і як заўсёды казалі і кажуць старэйшыя людзі Слонімскага, Івацэвіцкага, Пружанскага і Зэльвенскага раёнаў-суседзяў. Жырава Ларыса Геніюш любіла, любіла, як і Беларусь, – моцна і шчыра, заўсёды спяшалася туды, асабліва 20 мая, калі адзначаецца свята Жыровіцкага абраза Маці Божай.

Упершыню Ларыса, яшчэ Міклашэвіч, даведалася пра Жыровічы, калі яе родны брат Расціслаў вучыўся ў мясцовай сельскагаспадарчай школе. Гэта быў, як згадвае ў сваёй "Споведзі" Ларыса Геніюш, высокі, прыгожы і паслухмяны хлопец. Пазней ён загіне на фронце Другой сусветнай вайны. Паэтка прысвеціць яму некалькі сваіх вершаў. У адным з іх яна напіша:

*Ты казаў калісьці: не сумуй, сястронка,*
*Над пакутным Краем злітуецца Бог.*
*Барані і цеш ты родную старонку,*
*А я буду бацькаў сцерагчы парог.*

Дзед Ларысы Геніюш Павел Міклашэвіч ажаніўся ў 18 гадоў на 16-гадовай Марфе з вёскі Чамяры Слонімскага павета. Юная Ларыса вельмі часта бывала ў Чамярах, якія знаходзяцца побач са Слонімам. Ну, а быць у бабулінай вёсцы і не завітаць у Жыровічы, быў бы для яе грэх. Таму дзяўчынка разам з бабуляй Марфай і з маці спяшаліся на вялікія святы ў Жыровічы.

Ці не Успенскі сабор і Крыжаўзвіжанская царква натхнялі паэтку на вершы, многія з якіх прысвечаны рэлігійным падзеям, а духоўнасць скразною лініяй праходзіць праз яе паэзію. У сваіх вершах паэтка ўвесь час звяртаецца да Бога, просіць у яго дапамогі, бласлаўлення, дазволу.

А верш "Святы вечар" – калядная беларуская класіка, гімн Калядам. Ну, скажыце, калі ласка, хто ў беларускай літаратуры мацней і прыгажэй напісаў пра Каляды? Ды ніхто. Бо многія нават ведаюць альбо часта чулі яе калядныя радкі:

*Каляда, Каляда, на зямлі – Святы Вечар,*
*Нарадзіўся у яслях Збавіцель і Бог.*
*І пасталі бярозаў танклявыя свечкі*
*Паабапал заснежаных, белых дарог...*
*Каляда, Каляда... Нават зорам трывожна.*
*Па заблытаных сцежках крутога жыцця*
*Да сваіх ў гэты вечар спяшаецца кожны,*
*Дзе ў сям'і за сталом нас чакае куцця...*

У 2008 годзе, калі творчая інтэлігенцыя Беларусі сабралася ў Троіцкай царкве ў Зэльве адзначыць 98 гадоў з дня нараджэння Ларысы Антонаўны, святар царквы, які праводзіў службу, сказаў пра тое, што ў Жыровіцкай духоўнай семінарыі яны вывучалі творчасць і вершы Ларысы Геніюш. А яшчэ святар нагадаў, што Жыровічам Ларыса Геніюш прысвяціла адзін верш. Святар памыліўся. Жыровічам Ларыса Геніюш пры жыцці прысвяціла тры вершы. Адзін з іх пачынаецца радкамі:

*Жыровічы – святы для нас куточак,*
*Дзе цэрквы ў неба вежы узнялі.*
*На дрэве Маці Божай абразочак –*
*Благаславенне для маёй зямлі...*

Упершыню гэты верш апублікавала газета “Звязда” 6 красавіка 1993 года. Публікацыю верша да 10-годдзя смерці паэткі падрыхтаваў пісьменнік Уладзімір Ягоўдзік. Дарэчы, пазней верш пра Жыровічы друкаваўся ў многіх выданнях, у тым ліку і на старонках буклета “Свято-Успенский Жировичский Ставропигиальный мужской монастырь” (Мн., 2006). І хоць буклет выйшаў з друку на рускай мове, на яго старонках знайшлося месца і для чатырох строф выдатнага верша Ларысы Геніюш пра Жыровічы.

Другі верш пра Жыровічы, які апублікаваны ў «Зборы твораў у 2 тамах» (Мн., 2010) і ў іншых выданнях Ларысы Геніюш, адшукаў у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (ф.31, воп.1, спр.16) пісьменнік Міхась Скобла. Верш складаецца з 9 строф па 4 радкі:

*Прыехаць у Жырава лёс мне выпаў,*
*Дождж хрысціць голаў грэшную маю.*
*І я пад голлем шматвяковай ліпы*
*Пілігрымам сціплым сцішана стаю.*
*Святыні побач белыя, як дзіва,*
*Ў абдымках хмараў і высокіх дрэў.*
*Ідзе святар, як галубочак сівы,*
*Стаміўшыся, на лаўку хтось прысеў.*
*Сюды травой, аброшанай і мяккай,*
*На цудатворны пераможны кліч*
*Прыходзяць людзі з горам і падзякай.*
*Людскія душы ачышчае зніч.*
*Перада мной зямля мая святая,*
*Тут у паклоне дрэвы над вадой,*
*Дзе галубы бясшумна пралятаюць,*
*Ступала Маці Божая па ёй.*
*Не знатныя, а пастушкі віталі.*
*Да нас прыйшла ў вясняны дзень знарок*
*І Краю міламу, каб лепшымі мы сталі,*
*Пакінула на дрэве абразок.*
*Над намі храм, туманныя нябёсы.*
*Крынічанька пад храмам б’е з зямлі.*
*Як пастушок у світцы белай, босы,*
*Стаю, і слёзы твар мой залілі.*

*Адданасцю стукочуць нашы сэрцы*
*З крыніц благаславенных праўду піць.*
*Мінуласці святой з зямлі не сцерці*
*І веры ў Бога ў сэрцы не спыніць.*
*Жыровічы, славутая мясціна,*
*Здаўна праложаны для нас дзядамі шлях.*
*Малітвы боль ў нялёгкую хвіліну*
*Мы на тваіх складаем алтарах.*
*Хай будзе мір, і згода будзе ўсюды.*
*Ды калі грозьбай азарыцца сінь, –*
*Нашай зямлі, дастойнай Тваіх цудаў,*
*Ў сваёй апецы, Божа, не пакінь!*

Гэты верш пра Жыровічы нібы з'яўляецца працягам папярэдняга верша. Абодва былі напісаны паэткай у 1981 годзе. У тым годзе зэльвенскі святар Васіль Чыкіда, з якім Ларыса Антонаўна шчыра сябравала, узяў яе з сабой у Жыровічы на свята Жыровіцкага абраза Маці Божай. Ад той паездкі паэтка атрымала вялікае задавальненне. Яна так была ўзрушана і шчаслівая вандроўкай у Жырава, што пра гэта ў пісьмах пісала многім сваім сябрам. 23 чэрвеня 1981 года паэтка паведамляла Язэпу Найдзюку ў Польшчу: "Жывецца мне па-ранейшаму. Справа кніжкі нейк заглохла. Не вельмі гэтым праймаюся. Усё пакідаю часу. Тым часам наш святар узяў мяне з сабою ў Жыровічы. Быў дождж, але белыя вежы святыняў аж свяціліся на цемені хмараў і зелені дрэў. Пастаяла каля шырачэзнай ліпы, якой, кажуць, што ўжо многа соцень гадоў. Барадатыя Айцы паказалі мне святыні і іх цудоўныя скарбы. Сярод гэтай, духоўнай нейкай, цішыні я адчувала сябе, як у сярэднявеччы. І яшчэ я пад гэтым уражаннем.

*Доля мая ў Яго Божых руках,*
*Мілей за харомы, карону,*
*Пакутны, цярнёвы жыцця Яго шлях*
*І храм, гдзе прыбытак ягоны".*

Пра паездку ў Жырава 29 чэрвеня 1981 года Ларыса Антонаўна напісала таксама Ліліі і Ігару Чарняўскім: "Дні мае то паўзуць, то ляцяць. Айцец Васіль завёз мяне днямі ў Жыровічы. Некаль-

кі стагоддзяў, як там з’явіўся пастушкам абразок Маці Божай на грушы. Кажуць, што аддалі яны пану той абразочак, і ён схаваў яго ў куфар. Але абразочак знік з куфра. Яго знайшлі на той самай грушы, на якой ён з’явіўся. На тым самым месцы выпырснула з зямлі крынічка, і цяпер стаяць там храмы з белымі, натхнёна выцягнутымі ў неба вежамі. Ёсць там велічэзная старая ліпа…”

І Алесю Белакозу ў Гудзевічы пра паездку ў Жыровічы таксама згадала 30 чэрвеня 1981 года: “Нядаўна завезлі мяне ў Жыровічы. Там – храмы белыя, натхнёныя і звонку, і ў сярэдзіне. Ёсць там шырачэзная ліпа, некалькі стагоддзяў ёй, і тая цудоўная легенда-быль. Усё гэта робіць уражанне на беларускую душу”.

Ларыса і Янка Генюшы любілі ў Зэльве сустракаць гасцей. У іх доме былі беларускія пісьменнікі, мастакі, кампазітары, палітыкі. Вядома, не забывалі паэтку і праваслаўныя святары. А ў верасні 1982 года Ларыса Генюш пісала Валянціне Трыгубовіч, што да яе “ў госці прыйшлі тры маладыя, харошыя манашанькі з Жырава. Яшчэ паслушніцы, дык апранутыя больш-менш нармальна. Як птушаняты, нешта ўсё шчабяталі. Добра, што было пудэлка цукеркаў у хаце. Хварэла, дык спечанага не было нічога. Папрасілі мой “Чабарок” (маецца на ўвазе зборнік вершаў паэткі “На чабары настоена” – С.Ч.) для манахаў”.

Некалькі гадоў таму экскурсавод з Мінска Ірына Коваль даслала мне яшчэ адзін верш пра Жыровічы Ларысы Генюш. Гэты верш называецца “У Жыровічы”. Ён гучыць так:

*Ляцяць з выраю птушкі, гамонячы,*
*Прыпадаюць крылом да бяроз.*
*Завязіце мяне у Жыровічы,*
*Гдзе ўладарыць Марыя з нябёс.*
*Там святымі малітвамі, спевамі*
*Дзень вітаюць у храмах святых.*
*Галубы пралятаюць над дрэвамі,*
*Ззяюць промні з крыжоў залатых.*
*Маці Божая, Багародзіца,*
*З дабрыні ўся і са святла,*
*Ты з’явілася у Жыровічах,*
*Калі груша бела цвіла.*
*Твая з’ява – святая спадчына,*

*Ты прыйшла да нас ў час цяжкі.*
*Абразок Твой першымі ўбачылі*
*Басаногія пастушкі.*
*Прастадушныя і сардэчныя,*
*На аблічча Тваё глядзяць,*
*Вось такія, як у яслі з авечкамі*
*Прыйшлі Сына Твайго вітаць.*
*Калі цяжка ў жыцці становіцца,*
*У час пакутны для нас і круты,*
*Мы ідзем да Цябе ў Жыровічы,*
*Ў Твой прыпынак Божы, святы.*
*За любоў к Табе ўсюды гнаныя,*
*Па праз цемрадзь, што навакол,*
*Йдзем к Табе са сваімі ранамі,*
*Нясём крыўды з забытых сёл.*
*Сэрца Божае, сэрца матчына,*
*Літасцівае да людзей,*
*Нясём просьбы к Табе гарачыя,*
*Дапамогі просім у бядзе.*
*Ў нашых храмах дзверы зачынены,*
*Не пускаюць нат на парог,*
*Цемрадзь глуміцца над святынямі,*
*Топча душы, ў каторых БОГ.*
*О, Прачыстая, непераможная,*
*Дорыш людзям святло і любоў.*
*З намі вечна будзь, маці Божая,*
*Што прыйшла калісць да пастушкоў.*
*Нас зрачыся Цябе не прымусілі,*
*Нам не страшна цярпенняў, нягод.*
*Маці нашая, Беларуская,*
*Сцеражы наш пакутны народ.*
*Ў дні ліхія, у дні трывожныя,*
*Калі здзеку столькі і зла,*
*Ты вядзі нас сцежкаю Божаю,*
*Да дабра вядзі, да святла.*
*Сілу ўлі Ты ў сэрцы нашыя,*
*Каб нас ворагі не змаглі,*
*Каб маглі мы ў хвіліну цяжкую*

*Быць людзьмі на сваёй зямлі.*
*Прад Табой на каленях стоячы,*
*Бачым свет, калі ўсюды цьма.*
*Ласкі, праўды шукаем ў Жыровічах,*
*Бо навокал яе няма.*

Летам 2010 года, да 100-годдзя з дня нараджэння слыннай беларускай паэткі, інак Мікалай (Бембель) з Жыровіцкага манастыра выдаў у Слонімскай друкарні накладам 300 асобнікаў паштоўку-партрэт маладой Ларысы Геніюш. З другога боку паштоўкі брат Мікалай надрукаваў свае паэтычныя радкі, прысвечаныя ёй:

*… не паланілі хімеры…*
*І не скарыў цябе час…*
*… чайка, спаведніца веры, –*
*Вымалі ў Госпада нас!..*

Калі я прыязджаю ў Жыровічы, каля Успенскага сабора мне заўсёды ўяўляецца постаць гэтай мужнай і таленавітай беларускі і прыгадваюцца яе вялікія радкі:

*Мудрасць спелую сівых вякоў*
*П'ю з народных жывых крыніцаў.*
*Паважаю чужых багоў,*
*Ды прывыкла сваім маліцца.*



*Жыровіцкая Ікона Божай Маці*

## Ларыса Геніюш і Яўгенія Урублеўская



*Яўгенія Урублеўская*

Ларыса і Янка Геніюшы у 1948 годзе былі арыштаваныя органамі МДБ. Пакаранне паэтка адбывае ў лагерах Інта і Абедзе (Комі АССР). Там жанчына смела паказвала прыклад фенаменальнай духоўнай трываласці, яднала вакол сябе не толькі беларусаў, але і вязняў іншых нацыянальнасцей, а таксама пісала вершы. Сярод вязняў Ларысу Геніюш клікалі Маці, яе вершы называлі глюкозай, завучвалі іх на памяць, як малітвы.

З Ларысай Геніюш у Інце і Абезе знаходзіліся тысячы людзей. З многімі паэтка моцна сябравала, з іншымі проста адбывала тэрмін да лепшых часоў. Шмат прозвішчаў тых людзей, якія прайшлі сталінскі ГУЛАГ, прыгадвае паэтка ў сваёй кнізе ўспамінаў “Споведзь”. Сярод іх – і Яўгенію Урублеўскую, якая перадавала “ксівы”

тым, каму яны былі адрасаваны.  У “Споведзі” Ларыса Геніюш успамінае: “Пачалася перапіска. Тоненькія запісачкі насілі дзяўчаты, якія хадзілі на бліжэйшыя аб’екты. Насіць запіскі было небяспечна, але жыць без іх было немагчыма зусім, і кожная з нас гэта разумела. Цярпелі дзяўчаты БУР, і голад, і гора, але спагадалі адна адной. Мне запіскі насіла пераважна нейкая Жэня Врублеўская з Варшавы. Была гэта маладая прыгожая дзяўчына, расейка...”

Я памятаю гэту жанчыну, бо быў некалькі разоў на яе сустрэчах у Слоніме ў 1990-х гадах. Была яна па нацыянальнасці беларуска, а родам з Беласточчыны. Вязень сталінскіх лагераў сустракалася тады шмат са сваімі землякамі, да яе прыязджалі сябры па сталінскіх лагерах, яна перапісвалася, ёй пастаянна тэлефанавалі журналісты з Беларусі, Польшчы і Расіі. Гэту жанчыну звалі Яўгенія Урублеўская (1923-1996). У маім Слоніме яна пасялілася ўжо пад старасць. Тут і пражыла апошнія гады, дзе і памерла, і пахавана.

А жыццё Яўгеніі Урублеўскай было цяжкім і пакутлівым. Спачатку тры гады няволі ў гітлераўскіх лагерах і турмах, а потым дзесяць – у сталінскіх. У Інце Яўгенію Урублеўскую пад канец тэрміну зняволення пачалі зваць “бунтаркай Урублеўскай”. У нямецкім канцлагеры “Равенсбрук” і ў сталінскіх лагерах у самых цяжкіх умовах яна знаходзіла магчымасць увязвацца ў самыя розныя справы. Ёй заўсёды хацелася нечага высокага і ідэальнага, справядлівасці і дабра. А іх там было мала. Дзеля гэтага ў 1941 годзе Яўгенія Урублеўская ўступіла ў камсамол, а будучы ў нямецкім палоне – у антыфашысцкую арганізацыю “Чырвоная капэла”, у сталінскіх лагерах арганізавала перасылку лістоў.

У нямецкім канцлагеры Яўгенія Урублеўская пазнаёмілася і пасябравала з жонкай Юліуса Фучыка, у савецкім   –  з жонкай кампазітара Сяргея Пракоф’ева, а таксама з Ларысай Геніюш...

Якія нечалавечыя ўмовы ні стварала лагернае начальства ГУЛАГу, людзі імкнуліся там жыць і тварыць, думаць і марыць, любіць і кахаць, змагаліся за сваё выжыванне. Хаця зэкам забаранялася перадаваць адзін аднаму”ксівы”, запіскі”, пісьмы, паштоўкі – нелегальна лагерная пошта дзейнічала пастаянна.

Не баяліся арыштаваныя людзі ні карцэраў, ні буры (барак узмоцненага рэжыму), ні бязлітасных допытаў.

Падчас нелегальнай лагернай пошты і пазнаёмілася ў Інце Ларыса Геніюш з Яўгеніяй Урублеўскай. А пазнаёміла іх Зося Андрушкевіч з-пад Шчучына. Зося працавала ў лагернай пральні прачкаю. Ларыса Геніюш у той час шукала дзяўчыну, якая выходзіла б з зоны і змагла б перадаваць "ксівы". Зося сказала, што яна ведае адну дзяўчыну па прозвішчу Урублеўская і якая ўсё гэта зробіць акуратна і надзейна.

Неяк Ларыса Геніюш зайшла ў барак да дзяўчат і спытала Жэню Урублеўскую. Жэня, седзячы на нарах, сказала, што гэта яна. Паэтка падыйшла да яе бліжэй і ціха паведаміла, што яе прыслала Зося Андрушкевіч. А потым удакладніла: "Вы ходзіце на док?". "Хажу", – адказала Жэня. "Вы зможаце перадаваць пошту ад мяне?" – зноў спыталася шэптам Ларыса Геніюш. "Вядома ж змагу, чаму не", – адказала Урублеўская.

Яўгенія Урублеўская зрабіла спецыяльны пояс, а ў ім непрыкметную шчыліну. Туды і клала запісачкі. А калі яе ахоўнікі правяралі, аглядалі, то ніхто нават і не змог здагадацца, што там у поясе ляжаць "ксівы", ды і сам пояс не чапалі. Так Жэня Ўрублеўская і насіла пошту з зону на зону.

З Ларысай Геніюш Яўгенія сустракалася даволі часта. Шмат размаўляла з ёй, спрачалася. Урублеўскай была шчымліва знаёмая беларуская мова, а калі паэтка размаўляла па-руску, то вельмі выразна адчуваўся заходнебеларускі акцэнт. Пры жыцці Яўгенія Урублеўская ўспамінала і казала, што ў ГУЛАГу Ларыса Антонаўна заўсёды хвалявалася за свайго сына Юрку, які заставаўся ў Празе, і перажывала за яго далейшы лёс.

Лагерная пошта запрацавала даволі актыўна, што нават ахова пачала нешта нядобрае прыкмячаць. Ахоўнікі пачалі правяраць мужчынскі лагер і знайшлі запіскі і вершы Ларысы Геніюш. Выклікалі на допыт Урублеўскую. І Ўрублеўская прызналася, што гэта яна насіла пошту.

– Што ты ў мужчынскі лагер насіла яшчэ? – пыталася начальства.

– Любоўныя запіскі і лірычныя вершы, – казала Жэня. –

Яна – паэтка. Яна не магла і не можа не пісаць, разумееце. А яе вершы людзей цікавяць, іх усе чытаюць.

– А што яшчэ насіла? – не супакойваліся ўпаўнаважаныя.

– Адзін раз прынесла кісет для тытуню.

– Што гэта Геніюш за чалавек? – пыталіся зноў.

– Яна жыве вершамі і будзе пісаць іх усё жыццё. Больш паэтка нічым не цікавіцца, – сказала Урублеўская.

Пасля допыту Урублеўскую адпусцілі і не пакаралі. І Ларысу Геніюш не чапалі. Бо і мужчыны ў сваёй зоне таксама нічога не сказалі, акрамя вершаў.

Свае запіскі Ларыса Геніюш перадавала Сымону Раманчуку (1916-1952?). Гэта ён пазней арганізуе ў Інце паўстанне і будзе расстраляны. Яўгенія Урублеўская сустракалася з ім часта, а калі яго не прыводзілі на док, перадавала для яго запіскі праз іншых зэкаў. Ларыса Геніюш пра Сымона Раманчука напісала ў "Споведзі", што "гэта наш светлы герой, які ведаў адно толькі – сваю Радзіму й жыў толькі для яе і ёю".

Сама Яўгенія Урублеўская, як піша далей Ларыса Геніюш у "Споведзі" ёй не падабалася, бо "яна не была дружнаю й часта цвердзіла, што каб выжыць, дык кожны павінен глядзець толькі сябе і йсці напралом праз лагер, не звяртаючы ўвагі на рэшту зняволеных...".

Але не ведала, а можа і ведала Ларыса Антонаўна, што Яўгенія Урублеўская да сталінскіх лагераў была сябрам Берлінскай антыфашысцкай падпольнай арганізацыяй "Чырвоная капэла". А аднойчы гестапа даведалася пра сувязь дзяўчыны з антыфашысцкай арганізацыяй. Яе арыштавалі. І пачалося жыццё за кратамі. Сядзела ў пяці турмах, у тым ліку і ў Маабіце, дзе яе кінулі ў камеру-адзіночку. Там дзяўчына прачытала на сцяне прозвішча Мусы Джаліля (1906-1944) – татарскага паэта і журналіста. Яна таксама лацінскімі літарамі напісала сваё імя. Толькі потым, праз шмат гадоў, Яўгенія Урублеўская даведалася нарэшце, хто такі быў Муса Джаліль. І яна таксама пісала вершы, але на расійскай і часам на польскай мовах. Вось так гучыць яе адна страфа па-беларуску:

*Я ведаю ад, была я ў ім,*
*Спазнала ада мукі.*
*Пад сінім небам, на зямлі*
*Ў фашысцкім Равенсбруку...*

30 красавіка 1945 года Яўгенія Урублеўская аказалася на волі. Праўда, ненадоўга...

Яўгенію Урублеўскую арыштавалі асабісты ў Ваўкавыску. Дапытваў дзяўчыну следчы Бяляеў шмат гадзін, біў яе, замыкаў у халодны каменны мех памерам 1,5х1,5 метры. Выбіваў з яе тое, чаго не было. Праз тыдзень яна не змагла падняцца. І толькі дзякуючы сумленнасці доктара Васільевай, яе вылечылі і праз некалькі тydняў адправілі на ўсход у спецлагер, а потым у Інту. На яе робе быў нумар Щ-270. Просты падлік паказваў, што там знаходзілася каля 40 тысяч арыштаваных.

У апошнія гады свайго жыцця мужная жанчына жыла ў Слоніме. Прымала ўдзел у грамадскім жыцці Слонімшчыны, нават узнагароджвалася граматамі Слонімскага гарсавета.



*Яўгенія Урублеўская ў сталым узросце*

## Адзін з сяброў Беларускай незалежніцкай партыі

Андрэй Піліпавіч Вайтовіч (1920-2008) жыў у Слоніме на вуліцы Касманаўтаў. Я яго ў канцы 1980-х гадоў часта сустракаў на гэтай вуліцы, бо вадзіў дачку ў дзіцячы садок, які якраз знаходзіўся недалёка ад дома Андрэя Піліпавіча. Нават звяртаў на яго ўвагу, бо чалавек быў ва ўзросце, заўсёды акуратна апрануты і некуды спяшаўся з кіёчкам у руках. Сустракаў яго і ў цэнтры горада, хадзіў ён заўсёды пешшу і ніколі не ездзіў на гарадскім транспарце.

А бліжэй пазнаёміў мяне з Андрэем Вайтовічам мой зямляк гісторык Сяргей Ёрш у 1996 годзе. Пасля знаёмства я часта бываў ў яго гасцінным, утульным і светлым, як і сам гаспадар з гаспадыняю, доме. Мы гутарылі пра жыццё, пра родны край і яго знакамітых землякоў.

Тады ад Андрэя Піліпавіча я даведаўся, што ён нарадзіўся ў 1920 годзе ў вёсцы Залозкі на Навагрудчыне. Скончыў сем класаў у Любчы і паступіў у Віленскую электрамеханічную гімназію, але закончыць яе не паспеў, бо пачалася Другая сусветная вайна.



*Ларыса Генюш з сям'ёй Андрэя Вайтовіча*

## *У БНП*

Падчас акупацыі Андрэй Вайтовіч вучыўся ў Навагрудскай настаўніцкай семінарыі. У 1943 годзе ўступіў у беларускі батальён Барыса Рагулі, летам 1944 года выехаў у Польшчу. Там трапіў у вядомы батальён „Дальвіц". Пасля падрыхтоўкі, вярнуўся на Беларусь для арганізацыі падполля Беларускай незалежніцкай партыі. Яго дэсантавалі ў верасні 1944 года на Дзятлаўшчыне, хаця па планах ён павінен быў апынуцца ў іншым месцы. Тым не менш праз пэўны час Андрэй Вайтовіч пад мянушкай Андрук зноў апынуўся на Радзіме. Перад адпраўкай быў прызначаны кіраўніком Беларускай незалежніцкай партыі (БНП) у Баранавіцкай вобласці. Ён павінен быў вербаваць сяброў БНП, збіраць звесткі пра сітуацыю ў Беларусі, рыхтаваць лясную пляцоўку для прыёму самалёта і г.д.

Спачатку ўсё ішло даволі добра. Андрэй Вайтовіч ведаў родныя мясціны, людзей, хутка збіраў інфармацыю. Але не здагадваўся ён, што за ім пільна сочаць агенты дзяржбяспекі і яго сябра па вучобе ў Навагрудку Павел Турайкевіч. Той самы Павел з якім яны разам уступалі ў БНП. Менавіта ён і выдаў Андрэя Вай-



*Андрэй Вайтовіч у апошнія гады свайго жыцця*

товіча НКУС. Яго арыштавалі ў канцы верасня 1944 года. Доўга дапытвалі, катавалі. 64 дні ён правёў у камеры-адзіночцы мінскай “амерыканкі”, а потым у карцэры. Пасля тыднёвай галадоўкі яго прывялі на допыт да міністра дзяржбяспекі Цанавы. Допыт у Цанавы згадвае Сяргей Ёрш у сваёй кнізе ”Вяртаньне БНП” (Мінск-Слонім, 1998. С.36.): “Цанава пачаў здалёк: “Мы знаем, что ты не советский человек, но вот что тебя заставило вести борьбу с советской властью?..”. Пасля Цанава не вытрымаў і запытаўся пра галоўнае: “Так ты всё-таки скажешь ЦК своей партии?”. “Гражданін начальнік, што знаў, я вам сказаў”, – адказаў Андрэй Вайтовіч. “Нет, нет! Ты пойдёшь в камеру, подумаешь. Мы с тобой ещё встретимся”, – крычаў Цанава...”

Яны болей не сустрэліся. Андрэю Вайтовічу пасля допытаў далі восем гадоў лагераў, якія адбываў у Казахстане і ў Сібіры. У канцы 1952 года яго выслалі на пасяленне ў Паўночнаенісейск. Там пазнаёміўся і ажаніўся на рускай дзяўчыне з сям’і, якая таксама была выслана на поўнач. А ў 1958 годзе вярнуўся на зямлю роднай Беларусі, пасяліўся і жыў у Слоніме, працаваў на мэблевай фабрыцы, будаўніком.

Усё жыццё падтрымліваў сувязі з былымі байцамі “Дальвіца”, у тым ліку і з Барысам Рагулем. А летам 1997 года прымаў удзел у сустрэчы “рагулёўцаў” у Вільні.

Сёння часта перачытваю кнігу ўспамінаў „Лёс аднаго пакалення”, якая выйшла з друку ў Беластоку ў 1996 годзе. Янка Жамойцін у сваіх успамінах „З перажытага” прыгадвае некалькі разоў Андрэя Вайтовіча: „Асабліваю ўвагаю, аднак, абдзялілі

мяне два блізкія мне сябры: гаваркі, упэўнены ў сваіх здольнасцях і дасягненнях Філя Давідчык і маўклівы, працавіты, салідны і скромны Андрэй Вайтовіч. Абодва яны ахвотна завязвалі ў інтэрнаце гутарку на грамадскія тэмы, цікавіліся маімі поглядамі і ацэнкай актуальных падзей. Стараліся папоўніць недахопы ў харчаванні, балазе абодва былі нядрэнна забяспечаны прадуктамі" (С. 79). І яшчэ: „Па-другое, у яго (маёра Вінакурава – С. Ч.) распараджэнні былі пратаколы з допытаў маіх, раней спомненых, сяброў Філі Давідчыка і Андрэя Вайтовіча, якія былі ўжо зняволеныя..." (С. 145).

*Сяброўства з Ларысай Геніюш*

Прайшоўшы ўсе жыццёвыя нягоды і сталінскія катаванні, Андрэй Піліпавіч Вайтовіч часта ўспамінаў пра Ларысу Геніюш, з якою шмат гадоў сябраваў. А адбылося ў яго знаёмства са слыннай беларускай паэткай з дапамогай сяброў па сталінскіх лагерах. У 1972 годзе Андрэй Вайтовіч наведаў свайго сябра па рэпрэсіях Казіміра Гінца ў Вроцлаве, які быў знаёмы з Ларысай Геніюш. Той папрасіў Вайтовіча наведаць паэтку ў Зэльве і перадаць ёй прывітанне, а таксама даў Андрэю хусцінку, якую некалі ў лагерах падаравала яму паэтка. Вярнуўшыся з Вроцлава, Андрэй Вайтовіч паехаў у Зэльву да Ларысы Геніюш...

Так яны пазнаёміліся і да апошніх дзён жыцця паэткі шчыра сябравалі. Гэта Андрэй Вайтовіч дапамог ёй зрабіць помнік на магіле Янкі Геніюша і прывёз яго з Навагрудка ў Зэльву. То свежанінкі прывязе, то мёду – ні ў чым і ніколі не адмовіла сям'я Вайтовічаў мужнай і таленавітай жанчыне з Зэльвы. Захаваўся ў маім хатнім архіве і арыгінал пісьма да Вайтовічаў ад Ларысы Геніюш. Гэты ліст пры жыцці мне перадаў Андрэй Піліпапіч. "Ты даследуеш творчасць Ларысы Антонаўны, няхай гэта пісьмо будзе ў цябе", – сказаў Андрэй Піліпавіч. Вось што пісала Ларыса Геніюш да Вайтовічаў 3 ліпеня 1981 года: "Даражэнькія! Як магла выканала Вашую просьбу (напісала верш для маладых – сына і яго нявесты Вайтовічаў. – С.Ч.). Шчыра вітаю маладых і жадаю шчасця і доўгіх год жыцця! У мяне па-ранейшаму былі ня-

добрыя весткі з Польшчы. Пачынаюць ужо чапляцца да Міхася (унука Ларысы Геніюш. – С.Ч.). Цяпер няма ні лістоў, нічога, і сэрца маё замірае, калі пра іх думаю. Айцец Васілій (Васіль Чыкіда (1937-2000) – святар, настаяцель зэльвенскай Свята-Троіцкай царквы. – С.Ч.) – на два прыходы і рэдка цяпер яго бачу. Ён многа абяцае, але не ў сілах усё выканаць. Таму я прыехаць да Вас не змагу. Ды і здароўе няважнае. Пагоршала з сэрцам. Бядую, што няма з кім пад'ехаць па ягады, па суніцы. Пару дзён быў у мяне Коля Канаш (Мікола Канаш (1926-2006) – сябра Ларысы і Янкі Геніюшаў. Пазнаёміўся з паэткай у сталінскіх лагерах у Інце. Жыў у Жлобіне. – С.Ч.).Вельмі бадзёры, добра выглядае і чуецца. Заязджалі праездам з Навагрудка і нашыя слаўныя беларускія мастакі. Адзін быў з жонкаю. Фатаграфавалі і мяне, і хату з усіх бакоў. Пісаць мне ўжо нейк крыху цяжка, бо не тыя гады. Харошыя Вы людзі і я Вам вельмі ўдзячная за ўсё, асабліва за дапамогу з пахаваннем с.п.мужа і з помнікам яму. Цукеркамі Вашымі пачаставала знакамітых мастакоў. Прыдаліся яны мне як ніколі. Буду рада бачыць Вас абоіх зноў у сваёй хаце, бо чуюся вельмі адзінока. Сын і Міхась у Беластоку вельмі просяць выклікаў, а іх не даюць тут. Усяго Вам добрага. Са шчырасцю да Вас – Ларыса Геніюш, Зэльва".

Аднойчы Андрэй Вайтовіч паказаў мне свой сямейны альбом. О, гэта быў незвычайны альбом! Справа ў тым, што пры сустрэчах з Ларысай Геніюш Андрэй Піліпавіч расказваў ёй пра сваіх бацькоў, сясцёр, братоў, пляменнікаў. Паэтка ўважліва слухала і затым перапраўляла пачутае ў вершаваныя радкі: некалькі соцень іх ён занатаваў у свой сямейны альбом са здымкамі сваякоў. А бывала папросіць паэтку напісаць верш для сына, для суседа, у якога юбілей, ці нейкая іншая нагода – і яна пісала. Вось так і захавалася ў Андрэя Вайтовіча невядомая нікому асабістая літаратурная спадчына Ларысы Геніюш, прысвечаная ягоным сваякам. Усе гэтыя вершаваныя радкі пры жыцці спадар Вайтовіч перадаў мне. У іх – любоў да сваіх сяброў, да беларускай зямлі і яе працавітых і мужных людзей, пачуццё нацыянальнай годнасці і гонару. Прывяду толькі некалькі строфаў з гэтых твораў:

*****
*Так раны людскія дабром сваім гоячы,*
*Часам ва ўмовах даволі цяжкіх,*
*Роду свайму памагаюць Вайтовічы,*
*Ў дастойныя людзі выводзяць сваіх.*
*****
*...Родам з поля, і з лесу, і з бору мы,*
*Усе мы родзічы, усе сябры,*
*Дык будзьма мужныя і непакорныя*
*Й пушчам верныя, як зубры.*
*****
*Каб згода, каб радасць аж праз берагі,*
*З вачэй каб слязіны ніводнай.*
*А ў сэрцах хай вечна жыве дарагі*
*Наш край наднямонскі і родны...*

Бывала сям'я Вайтовічаў у Зэльве вельмі часта, ды і Ларыса Антонаўна наведвала Вайтовічаў у Слоніме.

### *Развітанне*

7 красавіка 1983 года Ларысы Геніюш не стала. Андрэй Піліпавіч прыехаў са Слоніма яе праводзіць у апошні шлях. А ў памяці, як ён казаў, выразна гучалі радкі з паэмы "З вёскі Залозкі над Нёманам":

*Калі скончыцца дзень і сум душу кране*
*Ўспамінам трывожным нейкім,*
*Дык, здаецца, чутно як калісь, як раней,*
*Быццам плача над доляй жалейка...*

Гэту паэму Ларыса Геніюш прысвяціла сястры Андрэя Вайтовіча – Барбары і яе мужу Мікалаю. У ёй адлюстраваны лёс звычайнай беларускай сям'і – такіх лёсаў на нашай шматпакутнай зямлі было шмат. Паэма гэта таксама знаходзілася ў альбоме Андрэя Піліпавіча. У жніўні 1996 года ён дазволіў мне яе апублікаваць. І яна з'явілася ў зэльвенскай раённай газеце "Праца". Праўда, шмат радкоў Ларысы Геніюш, прысвечаных сваякам Ан-

дрэя Вайтовіча, застаюцца яшчэ неапублікаванымі. Але час на іх яшчэ прыйдзе.

Да сваіх апошніх дзён Андрэй Піліпавіч Вайтовіч заставаўся шчырым беларускім патрыётам, цікавіўся жыццём краіны, перажываў за ўсё тое, што адбываецца на нашай зямлі. Ужо хворы і слабы, ён з кіёчкам у руках прыходзіў у цэнтр горада і, як прафесійны будаўнік, дапамагаў аднаўляць слонімскі Спаса-Праабражэнскі сабор.

Пражыў ветэран беларускага вызвольнага руху 88 гадоў. Яго пахавалі пад бел-чырвона-белым сцягам 1 красавіка 2008 года на слонімскіх могілках.



*Андрэй Вайтовіч з жонкай у царкве*

## Знаёмства адбылося ў Інце

У 1993 годзе я вырашыў сабраць вершы беларускіх паэтаў, прысвечаныя нашай паэтцы і змагарцы Ларысе Геніюш (1910-1983). Напісаў пра гэта невялікую нататку “У вянок Ларысе Геніюш” у тыднёвік “Літаратура і мастацтва”, дзе яе і надрукавалі. А з калектывам Зэльвенскай раённай газеты дамовіўся, што ўсе вершы будуць дасылаць у рэдакцыю, а я іх потым заберу. Завёў спецыяльную папку, падпісаў яе, паклаў рэдактару Ірыне Васілеўка на стол, і чакаў паэтычныя радкі ад беларускіх творцаў. Праз пэўны час завітаў у Зэльву, зайшоў у рэдакцыю, дзе ў папцы ўжо чакалі мяне пісьмы і вершы, прысвечаныя Ларысе Геніюш. Сярод пісем быў ліст і з горада Жлобіна Гомельскай вобласці ад Міколы Канаша. Я хуценька адказаў спадару Канашу і шчыра падзякаваў яму за вершы ў вянок Ларысе Геніюш, які шмат гадоў з ёю сябраваў, даслаў таксама яму свой першы паэтычны зборнічак “Шчырая Шчара” з вершам “У хаце Ларысы Геніюш у Зэльве”. Так мы сталі перапісвацца.

Пазнаёміліся Мікола Канаш і Ларыса Геніюш у Інце ў 1949 годзе. Жаночы чацвёрты ОЛП (особые лагера политических) у якім знаходзілася Ларыса Геніюш, быў недалёка ад мужчынскага лагера – кіламетраў чатыры. Там адбываў тэрмін за прыналежнасць да СБМ (Саюз беларускай моладзі) і Мікола Канаш. Паміж



*Янка Генюш, Мікола Канаш і Ларыса Генюш сустрэліся ў Зэльве*

лагерамі працавала пошта, хоць нярэдка здараліся і правалы. Паэтка вяла вялікую перапіску і кожнаму адрасату давала псеўданім. Міколу часцей за ўсё называла сынам ці братам. Ён працаваў у шахце, на адбойным малатку, штодня выбіваючыся з сіл. Праца гэтая лічылася найцяжэйшай. Выкарыстоўвалі на ёй пераважна маладых і хто меў тэрмін зняволення ў 25 гадоў. Але час для перапіскі Мікола Канаш знаходзіў. Лісты ад яе хаваў у самой шахце, а некаторыя проста нішчыў. Праўда, сустрэцца ў ссылцы ніяк не атрымлівалася.

Пасля смерці Сталіна, у 1954 годзе, яму ўсё ж удалося першы раз спаткацца з беларускай паэткай. Аднойчы, калі Ларыса працавала на таварнай базе – адкідвала снег ад дзвярэй, прабівала пад'езды, яны сустрэліся. Але ў хуткім часе Міколу Канаша пагналі па этапах, і сувязь паміж імі перарвалася. Але аднаго дня ў рукі яму трапіла газета "Уголь стране", што выдавалася ў Інце спецыяльна для зняволеных. На адной са старонак ён убачыў верш на рускай мове "Уголь". Пад ім стаяў подпіс – "Лариса Гениуш". Яны зноў наладзілі, на гэты раз ужо афіцыйную перапіску.

У 1955 годзе паэтку ўзялі на этап з лагера пасёлка Абяз і павезлі ў Казахстан. З таго часу іх сувязі зноў перарваліся. І толькі ў 1970 годзе, тады Мікола Канаш яшчэ жыў у Комі АССР, пошта прынесла яму ліст з роднай Беларусі. Ларыса Антонаўна пісала: “Столькі часу мінула… Я цябе шукала і думала па-рознаму… Чакаю ў госці…”.

Спадар Канаш сядае на самалёт і ляціць у Беларусь аж у Гродна. Адтуль аўтобусам у Зэльву. Пастукаў у дзверы. Адчыніла незнаёмая яму жанчына.

– Вам каго? – спытала яна.

– Мне Ларысу Антонаўну.

– Я і ёсць. А хто будзеце вы?

– Я – Мікола Канаш.

– А чым вы гэта дакажаце?..

– Пастараюся даказаць…

– То заходзьце ў хату, – запрасіла спадарыня Геніюш…

Так яны спаткаліся. А потым, калі Мікола Канаш у 1973 годзе назаўсёды пераехаў з Комі на Беларусь, сустракаліся часцей. У інтэрв’ю Алесю Карлюкевічу (ЛіМ, 10 снежня 1993 года) Мікола Канаш прыгадваў: “Я тады быў яшчэ малады, і па спартыўнай выпраўцы і вопратцы многія мяне лічылі супрацоўнікам органаў дзяржбяспекі. Наведваўся, а праз дзень ці два знікаў у невядомым напрамку. Літаральна праз некалькі гадзін мог аказацца ў Вільні ці ў Мінску, альбо ў Латвіі ці ў Паставах. А з сабою вёз новыя вершы, сфатаграфаваныя на пазітыўную плёнку, праяўленую там жа, у Ларысы Антонаўны. Плёнка займала вельмі мала месца і пры зразумелых абставінах магла быць знішчана ці выкінута ў дарозе. Прыязджаў у Зэльву без шапкі і акуляраў, а недзе ў Баранавічах надзяваў і тое, і другое. Магчыма, усё гэта было і залішне, але, прайшоўшы праз многія выпрабаванні, сутыкнуўшыся з мноствам прадажных стукачоў, вымушаны мы былі так рабіць. Ларыса Геніюш у гэтых адносінах была вельмі прадбачлівая. І многіх наведвальнікаў проста з парога выпраўляла з ветрам…”.

Мікола Канаш, адбыўшы сталінскія лагеры, а потым адпрацаваўшы шмат гадоў шахцёрам, меў добры заробак і пенсію. Таму ён часта высылаў Геніюшам пасылкі, асабліва, калі адпачываў на

Поўдні, то адтуль слаў апельсіны, лімоны, іншую на той час экзатычную садавіну ў Зэльву. Гэта дзякуючы Міколу, мы маем сёння дзясяткі, а то і сотні фотаздымкаў з выявамі Геніюшаў, іх сваякоў і сяброў, фотаздымкі хаты, пакояў, дзе жыла вялікая паэтка. Бо ў хаце Ларысы Антонаўны і Івана Пятровіча ён заўсёды быў самым дарагім госцем.

Лісты Міколы Канаша, якія захоўваюцца ў маім хатнім архіве, ён пісаў да мяне, адказваў на мае пытанні, рабіў каментар, разважаў, прыгадваў сваіх сяброў.

*Лісты Міколы Канаша*

*Шаноўны Сяргей Мікалаевіч, добрага дня Вам!*

Па-першае, вялікі і шчыры Вам дзякуй за зборнічак вершаў “Шчырая Шчара” з аўтографам. Ён зойме на паліцы ў мяне ганаровае месца сярод іншых выданняў пісьменнікаў з аўтографамі, і ў першую чаргу Ларысы Геніюш, Дануты Бічэль-Загнетавай[1], Уладзіміра Арлова[2], Ніла Гілевіча[3] і іншых вядомых пісьменнікаў з пажаданнямі сціплых і родных слоў сардэчнасці. Спадзяюся, што ён будзе не апошнім тваім выданнем...

Прачытаў яго за адзін прысед, нібы праглынуў глыток гаючай вады святой Жыровіцкай крынічкі.

Дасылаю Вам сем здымкаў. На мой погляд, яны яшчэ нідзе не друкаваліся, хаця маю значна больш, але іх трэба яшчэ рабіць, негатывы захоўваюцца, а многія раздаў. Відаць, адзін з іх Вам ужо вядомы тым, што Вы ўспамінаеце ў сваім вершы: “Хвартух адзеўшы свой квяцісты, гасцей любіла сустракаць...”. Так, сапраўды, і было. Дык вось на гэтым фота каля ўваходу на ганак, відаць стаіць бетонная ваза, у якой заўсёды раслі кветкі. І калі Ларыса засталася адна без мужа – нехта-злачынца паваліў яе ўздоўж ступеняк і ваза старой перашкаджала праходзіць, а сілы адкаціць не было. І так доўгі час праз яе Ларысе прыходзілася перапаўзаць. Я збіраўся прыехаць і адцягнуць яе, але атрымаў ліст ад Ларысы, дзе яна пісала, што наведаўшы яе адзін з мастакоў адкаціў вазу далёка да плоту.

[1] Данута Бічэль (нар.1938) – беларуская пісьменніца з Гародні, сябравала з Ларысай Геніюш.

[2] Уладзімір Арлоў (нар. 1953) – беларускі пісьменнік і гісторык.

[3] Ніл Гілевіч (1931-2016) – народны паэт Беларусі.

Вы пытаецеся пра Зосю Каліноўскую, то яна жыве ў Зэльве на Савецкай вуліцы № 5, кв.4, што побач з Ларысіным. Па мужу яна Марцінчык.

Ад В.Супруна я меў адзін толькі ліст, але гэта было дзесьці больш года таму. Неяк з ім наша сувязь не атрымалася. Я ж ніякі не літаратар, і пішу з памылкамі і не цікава. Відаць, гэта і з'явілася спыненнем нашых суадносін. Але мне ягоныя вершы падабаюцца, якія я сустракаў у друку, даволі крылатыя, смелыя. Там, у зняволенні, мы не сустракаліся. Ён, відаць, быў на другім ОЛПе. Віталя Губарэвіча я сустракаў толькі ў зняволенні, захаваў каля двух дзясяткаў ягоных вершаў з тых часоў. Яго ўжо няма ў жывых, ён памёр, дзесьці ў сябе на радзіме ў сярэдзіне ці пачатку 1970-х гадоў. Ведаю, што ў яго жывая яшчэ маці. А больш падрабязна пра В.Губарэвіча можа Вам расказаць яго блізкі зямляк Іван Мароз, які таксама быў у зняволенні ў тыя страшныя часы і сустракаўся з яго маці. Ён быў маім сябрам па лагеру. Даю Вам ягоны адрас, ён жыве ў Мінску. Іван Мікалаевіч Мароз – даволі адукаваны чалавек, пасля вызвалення закончыў Мінскі палітэхнічны інстытут. Жыве па адрасе: 220092 г.Мінск, вул. Берута, 4, корп.4, кв.26.

Добра сябраваў з Ларысай Антонаўнай у лагеры (таксама мой сябра), ведаю, што аднойчы ў Зэльву ён прыязджаў, пра гэта мне пісала Ларыса і Прыстаўка Вячаслаў. Ён жыве ў Віцебскай вобласці ў Шаркаўшчыне, вул. Даватара, 10. Між іншым, Ларыса ў сваёй "Споведзі" ўспамінае і яго двума словамі. З ім я пасля вызвалення ніколі не сустракаўся. Неяк напісаў ліст яму, але адказу не атрымаў. І яшчэ адзін адрас: 225320 г.Баранавічы, вул. Камуністачная, 10, кв.65. Рашэтнік Пётра А[4]. Ён таксама ў зняволенні добра ведаў Ларысу Геніюш. З ім я некалькі разоў ездзіў да Ларысы Антонаўны ў Зэльву. У зняволенні з Пётрам за сустрэчу з Ларысай нам дваім далі па 15 сутак "Буру". Пра гэта некалі пісала газета "Рэанімова", якая выдавалася неафіцыйна ў Гродне.

І апошняе. Маё інтэрв'ю журналісту А. Карлюкевічу[5] такса-

[4] Рашэтнік Пётр (1926-2008) – беларускі грамадскі дзеяч, быў рэпрэсаваны, сябраваў з Янкам і Ларысай Геніюшамі. Жыў і памёр у Баранавічах.

[5] Алесь Карлюкевіч (нар. 1964) – краязнавец і журналіст.

ма друкавалася не толькі ў “ЛіМе”, але і ў нашай раёнцы “Новы дзень”. Але ў абодвух выпадках дапушчана была памылка ў вершы “Краіна родная, не плач слязьмі крывавымі”. У чацвёртым радку слова “далёй воляю”, трэба чытаць: “далёкай воляю, пад новы ўраджай”.

Усе гэтыя вершы ёсць у інтэрв’ю, калі Вас цікавіць, цалкам магу даслаць. Яны даволі цікавыя, але ў “ЛіМе” іх не надрукавалі, а, значыць, так зрабілі і ў перадруку.

*З павагай да Вас – Мікола Канаш, 21.03.1994 г.*

*Добрага дня Вам, Сяргей Мікалаевіч!*

Атрымаў другі ліст, дзякую за шчырасць. Усе Вашы пытанні не з лёгкіх. Адносна вершаў Ларысы Геніюш, дык шмат дзе яны друкаваліся, а адсачыць усе, жывучы ў жлобінскай рускамоўнай глыбінцы, не так проста, дзе беларускасцю не пахне ў кніжных лаўках. Хаця прыкладна ведаю ўсё ж, што ёсць такія, але для іх не наступіў яшчэ спрыяльны час, каб друкаваць. Адносна здымкаў – іх шмат, хопіць на цэлы альбом, але справа не ў грошах, а ў паперы і хімікатах, каб здымкі зрабіць. А іх у нашых крамах няма. Дый веснавы час пачаўся, глеба кліча да працы, хаця і сілай ужо не пахвалішся, бо гады бяруць сваё. Дасылаю Вам яшчэ фота. На адным з іх – Ларыса Геніюш у накінутай вялікай хустцы ў кветкі. Ведаю, што такую падараваў ёй Максім Танк, але дакладна сёння не магу сказаць, што менавіта гэта тая самая хустка і ёсць. Каб упэўніцца, прыйдзецца Вам удакладніць у Зосі Каліноўскай ці, магчыма, у Дануты Бічэль-Загнетавай. На пахаванні Ларысы мімалётна ставілася гэта пытанне, каму хустка дастанецца ў спадчыну. Вядома, лепш было б, каб трапіла яна ў музей. Другі здымак зроблены ў гародчыку на лавачцы сярод кветак. Як вядома, Ларыса вельмі любіла кветкі, іх старанна даглядала, каб добра раслі. Аднойчы ў канцы траўня ці ў пачатку чэрвеня, калі вучні развітваліся са школай, нехта ноччу залез у гародчык і зрэзаў аж 200 кветак цюльпанаў. Але не хачу грашыць на шкоднікаў, бо большасць з іх адносіліся да Ларысы з вялікай павагай, многіх яна хрысціла, бывала на вяселлях, адпраўляла ў салдаты, хадзіла на нараджэнні і г.д. Ёсць нават у мяне і такія вершы,

відаць, яны ў зэльвенцаў захоўваюцца да сёння, захоўваюцца тыя, каму яна прысвячала.

Ларыса Геніюш моцна верыла ў Бога. І калі мы развітваліся, то заўсёды мяне жыгнала і таму мне шанцавала ў дарозе. Апошні раз, калі я развітваўся ў хаце на парозе, выйшаў да веснічак каля варот, хацеў аглянуцца і памахаць яшчэ рукой, бо адчуваў, што яна стаіць яшчэ на ганачку, і, толькі хацеў павярнуць галаву, пачуў, як яна закрычала: "Не адварочвайся. Інакш гэта будзе апошні раз...". Але я левым вокам усё ж паспеў угледзяць Ларысу. Паверыш, і, сапраўды, гэта была наша апошняя сустрэча. Праз некалькі месяцаў яе не стала. Прабач, я адхіліўся ад той думкі, якую пачаў. І вось трэці здымак, рука партакрата, бракуе вядома на ёй зоркі, думаю здагадаліся з якіх меркаванняў. Яшчэ ў 1954 годзе Ларыса пісала:

*І ў магіле патраплю я жыць.*
*Трэба тысячу кобравых жалаў,*
*Каб біццё майго сэрца спыніць...*

У першым лісце даслаў Вам віншавальную картку, арыгінал значна большы і каляровы, яна ёй вельмі ганарылася і стаяла яна на палічцы з кнігамі пад шклом у пакоі, дзе прымала гасцей. Ёсць і ў яе свая гісторыя.

У 1980 годзе, за два месяцы да юбілею, я быў у Зэльве і зрабіў тры варыянты здымкаў, дзе Ларыса Геніюш прадзе за калаўротам. Адзін такі здымак змешчаны быў у "Споведзі" (негатыў захаваўся). У той час сябры прасілі Ларысу, каб болей пісала вершаў. Адказ быў такі: няма ахвоты, зараз займаюся толькі пражай, вядома, і пасылала ім здымкі. І вось тады ў кагосьці з мастакоў нарадзілася такая думка зрабіць віншавальную картку...

А цяпер да Вас пытанне, Сяргей Мікалаевіч. Скуль Вы ведаеце, што Віталь Губарэвіч пісаў добрыя вершы? Я Вам даслаў толькі адзін, прысвечаны Ларысе Геніюш. Але я не сказаў бы, што вершы Губарэвіча вельмі добрыя, пісаў ён іх у лагеры экспромтам, захаваць магчымасці добрай не меў. Ён казаў мне, што ўсуну ў бутэльку і закапаю, магчыма, нехта натрапіць, але шансу на гэта не было ніякага. Таму ўзяў я іх сабе, перачытаў і, лепшыя

на мой погляд, вывучыў на памяць, іншыя – прыхаваў у шахце. І толькі пасля выхаду на волю, пачаў прыводзіць да парадку. І, такім чынам, што захаваў, тое маю і сёння. Усе іншыя, відаць, прапалі, як ён пісаў сам. І ўсё ж, вядома, мне хацелася нейкім чынам зрабіць так, каб пачулі іх людзі. Я стараўся падобнае рабіць, але поўнай галоснасці дасягнуць так і не змог. Па-першае, вершы неабходна яшчэ адшліфаваць і толькі потым пусціць у друк, а гэта не так і проста. Па-другое, ёсць у Губарэвіча вершы і на расейскай мове, значыць, іх трэба перакласці на нашу родную мову. Але я не паэт, таму брацца не за сваё я не мог. Вось адзін з вершаў дасылаю Вам.

*Нет терпенья, струны мои порвались,*
*Дни ползут караваном тягучим,*
*Вокруг сердца тернистой змеёй обвились,*
*В душу впились железом колючим.*
*Да, я жизнь отдал Вам люди,*
*Своей кровью хотел искупить ваш грех.*
*Близок час мой, чахоткою сушит мне груди,*
*Сердце давит тоска погребальная. Эх!*
*Не арабский пророк я и не иудей,*
*Я родился в семье белоруса,*
*Я хочу умереть, умереть за людей,*
*Но не смертью святого Иисуса.*
*И стоять не хочу у стенки камней,*
*И чекист, чтобы руку вскидывал.*
*Я хочу умереть, чтобы смерти моей*
*Мой коварный бы враг позавидовал.*
*Я хочу умереть в самой гуще врагов,*
*Допьяна его крови напиться,*
*И последним рывком, всею силой зубов*
*В его горло проклятое впиться.*
*На могиле хочу, чтоб не камень лежал*
*Над простором полей, гор и рек.*
*В славных песнях своих, чтоб народ мой сказал,*
*Как за правду погиб человек.*
*На могиле хочу, чтобы камень лежал*
*Целых тысяча лет, не один только век,*

*А на камене на том, чтоб народ написал*
*Слова три: «Здесь лежит человек!».*

*Інта, 1955 год.* *Мікола Канаш. 11.04.1994 г.*

*Добры дзень, шаноўны Сяргей!*

Дабра і творчых поспехаў жадаю табе ва ўсіх пачынаннях. Вялікі дзякуй, вуснамі Ларысы Геніюш, кажу я вам дваім – табе і Міхасю Скоблу[6], за факсімільнае выданне кнігі Ларысы Антонаўны "Ад родных ніў", якую вы выдалі ў Слонімскай друкарні. І Міхасю дзякуй асабліва, што даслаў мне – і гэтым самым даставіў мне вялікую ўцеху. Добрую справу вы зрабілі, хлопцы. Зрабілі на карысць нашага грамадства, для сумленных беларусаў адкрылі вочы на рэчаіснасць. Дык няхай вам спорыцца!

А цяпер дасылаю табе, Сяргей, тры фотакарткі. На адной з іх – помнік Івану Пятровічу, дзе ўказаны дата нараджэння па-стараму стылю – 1902 г. 21 лютага і дата смерці па-новаму стылю каляндара – 1979 г. 8 лютага. А далей словы Ларысы:

*Па сонца асветы ўзлятаў, нібы птах*
*З палоскі сялянскае вузкае.*
*Адзін толькі ведаў у жыцці сваім шлях –*
*Пачэсны, цяжкі, беларускі!*

На другім здымку – Ларыса Геніюш каля помніка, дзе відаць агароджа, бетонныя слупкі. Уверсе – трубка з нержавейкі, уваход да помніка, замест веснічак – ланцужок, які з аднаго боку здымаецца. Сам помнік быў выраблены ў Навагрудку, агароджа – сябрамі ў Баранавічах. Ні сын, ні ўнукі ўдзелу ў пабудове надмагілля не прымалі, праўда, здымак Івана Пятровіча прывёз сын з Беластока. І трэці здымак – Геніюшы на сваім ганку ў Зэльве на Савецкай вуліцы, 7а. Цяпер ганак мае зусім іншы выгляд, і зусім не падобны на той, які быў пры жыцці гаспадароў.

Жыццёвы шлях Івана Пятровіча Геніюша вельмі добра апісала Ларыса Антонаўна ў сваёй "Споведзі". Але "Споведдзю" яна тады не называлася, а проста я папрасіў Ларысу, каб яна напісала

[6] Міхась Скобла (нар. 1966) – беларускі паэт, літаратуразнавец, журналіст.

сваю аўтабіяграфію. Вось вытрымка з яе ліста да мяне 14.09.1976 года: "Просьбу тваю я выканаю, але на гэта, каб напісаць аўтабіяграфію, трэба крыху часу. Давядзецца табе пачакаць". Калі на наступны год я прыехаў у Зэльву, Ларыса Антонаўна паказала мне першых 90 лістоў надрукаваных на машынцы. Яна сказала: "Можаш пачытаць і забраць". Я адказаўся і папрасіў пакінуць напісанае да наступнага майго прыезду, калі запашуся пазітыўнай плёнкай  і зраблю, што трэба. Пачуўшы нашу размову, Іван Пятровіч дадаў: "Што там надрукавана, магчыма, важней за ўсе яе вершы". І калі я прыехаў зноў і спытаў пра абяцанае, Ларыса Антонаўна адказала: "Усё тое напісанае знаходзіцца ў надзейных руках". Я болей нічога не пытаўся, бо для мяне ўсё было зразумела.

А цяпер крыху пра самога Янку. Іван Пятровіч вельмі любіў кнігі, купляў іх сам і прасіў у сяброў, каб тыя куплялі і прысылалі ў Зэльву. Калі я жыў у Комі АССР, ён мне ў кніжнай лаўцы ў Зэльве падпісаўся на Беларускую Савецкую Энцыклапедыю. І калі паступалі першыя тамы, то дасылаў мне ў Комі. Трымаў заўсёды сабаку, які быў прывязаны на ланцужку і ноччу бегаў ад ганка да хлява па нацягнутым дроце. Вельмі шкадаваў, калі здохла аўчарка Альма, якая была першым дэгустатарам цукерак, смятаны, якую прыносілі суседзі, што і было прычынай яе смерці. Іван Пятровіч, пасля звароту з Варкуты ў 1956 годзе, працаваў лекарам у Зэльвенскай раённай паліклініцы. У яго кабінеце вісеў партрэт Францішка Скарыны[7]. Многія хворыя, якіх ён прымаў, пыталіся: хто гэта на партрэце? Доктар Геніюш з усімі размаўляў толькі на беларускай мове. Часта чуў, як хворыя, стоячы ў чарзе перад дзвярыма казалі: "З лекарам размаўляйце толькі па-беларуску, інакш не дасць бюлетэню". Калі на вуліцы з Янкам віталіся па-руску, то ён рабіўся глухім і нічога не адказваў, калі віталіся па-беларуску, то Іван Пятровіч здымаў з галавы капялюш, нізка кланяўся і адказваў: "Дзень добры!". Хадзіў ён з ляскай, бо меў хворыя ногі, якія ў апошнія гады жыцця пухлі. Прымаў хворых і дома, быў вялікі практык па неўралогіі, сексалогіі, венерычных

[7] Францішак Скарына (каля 1490-каля1551) – беларускі і ўсходне-славянскі першадрукар, асветнік-гуманіст, пісьменнік, грамадскі дзеяч, прадпрымальнік, вучоны-медык.

захворваннях, ведаў добра хірургію і тэрапію, а таксама лячэбныя травы. Адным словам, дапамог многім зэльвенцам у нядугаг, людзі яго вельмі цанілі.

З першага жніўня 1976 года Янку звольнілі з працы і адправілі на пенсію. Спачатку ён нерваваўся і перажываў. "Я ж была рада, што нарэшце будзе дома сядзець", – пісала мне Ларыса. Янку далі 84 рублі і 8 рублёў яшчэ выдзелілі на Ларысу, і таго разам атрымалася 92 рублі на дваіх. Трэба было купіць дровы, дарагія лекі Янку. А ў канцы снежня 1976 года Ларыса лезла на гару, паслізнулася драбіна і разам з ёю паляцела ўніз. Жанчына зламала нагу і пакалечыла руку. Ёй наклалі гіпс. І вось – абое хворыя. Янка нічога гатаваць не можа. Па ваду да студні хадзіць далекавата. Людзі баяліся дапамаць, праўда, толькі школьнікі прыходзілі і дапамагалі. Янка час ад часу выходзіў на ганак, як казала Ларыса, пагрэць на сонцы нос. Відаць было, як штомесяц ён марнеў. І хутка для яго наступіў апошні дзень жыцця.

*Апошні дотык рук на твары чую,*
*Тваіх знямоглых, цяжкасхвараваных,*
*Апошні раз мой муж мяне цалуе,*
*З невысказаным да канца каханнем.*
*Залегла грозна цішыня ў хаце,*
*Не вымавіць таго, што чуе сэрца,*
*Хвораму целу з ложа не падняцца,*
*Няўмольна смерць суровая крадзецца.*
*Як воск ад свечкі, памаленьку тае,*
*Малы агеньчык, ужо амаль не свеціць,*
*Смерць, быццам злодзей, моўчкі падступае,*
*Што ж, усё яшчэ смяротнае на свеце...*
*О колькі раз я на тваіх далонях,*
*Выплаквала свой горкі боль да рання,*
*Як затрымаць жыццё тваё мне сёння,*
*Усё не дасказана шчэ, не дакахана.*
*Не адлятай ў нязнаную дарогу,*
*Не пакідай, каб сэрца не балела,*
*Здаецца мне, што дзён гэтак нямнога,*
*Пражытых разам мігам праляцела...*

*Прайшлі гады, а для мяне хвіліны,*
*Супольных мараў, сноў аб Беларусі,*
*Ў нас дзве душы, а шлях наш быў адзіны,*
*Як жа цяпер сама я застануся?..*

Была адпраўлена паніхіда ў царкве, шмат было народу, вянкоў ад розных гарадскіх прадпрыемстваў і арганізацый, музычнай школы. Памятаю, чысцілі ад снегу дарогу да могілак бульдозерам. Сын прыехаў з Беластока з усёй сям'ёй. Былі сябры з Мінска, Баранавіч, Гродна, Полацка. Не прайшло і тыдня пасля паховінаў, як камуністы пачалі рабіць свае чорныя справы.

Адзін сваяк Янкі, ужо не малады, але камуніст (прозвішча не памятаю), нёс наперадзе драўляны крыж, то за гэта атрымаў вымову і аштрафавалі яго на 50 рублёў. А дачка ягоная была настаўніцай у школе, дык ёй прапанавалі напісаць заяву і добравольна адказацца ад працы ў школе, інакш звольняць з "воўчым білетам".

Ларыса Антонаўна тады напісала добры ліст да Пятра Машэрава[8] і звярнулася, як да настаўніка і кіраўніка дзяржавы, каб паспачуваў і нейкім чынам падзейнічаў на гарадскіх самадураў. Але яе ліст не апусцілі ў паштовую скрынку ў Зэльве, інакш ён не трапіў бы ў рукі Машэраву. А знайшліся людзі, якія аддалі пісьмо ў прыёмную Машэрава. Адказу на ліст Ларыса не дачакалася. Але меры былі прыняты. Нехта інкогніта прыехаў у Зэльву, даў добрага наганяю ўсім у гаркаме партыі, і ўсё стала на сваё месца: настаўніца засталася на працы, а той, хто нёс крыжа, рэабілітаваны.

Дарагі Сяргей, апрацуй гэты ліст належным чынам, як лічыш патрэбным для сябе. Жадаю поспехаў і моцнага здароўя.

*З павагай – Мікола Канаш, 11.03.1996 г.*

*Добры дзень, Сяргей Мікалаевіч!*

Вялікі дзякуй за ліст і за беларускі тыднёвік "Ніва" з Бе-

[8] Пётр Машэраў (1918-1980) – партыйны і дзяржаўны дзеяч Беларусі. Ліст Ларысы Генію́ш да Машэрава апублікаваны ў кнізе "Каб вы ведалі" (Мн., 2005. С. 330-331).

ластока. Прыемна было ў думках сустрэцца з далёкай мінуласцю. Дзякуй Вам за тое, што вялікую справу робіце для нашай грамадскасці. Але трэба спяшацца, бо губляюцца сілы і зарастаюць сцежкі даўняй мінуласці…

Я ў сярэдзіне сакавіка захварэў, падхапіў інфаркт сэрца, ледзь выкарабкаўся, але і зараз адчуваю сябе неякавата, крыху хаджу каля хаты, прымаю лекі.

Пра Сямёна Раманчука[9] амаль нічога не ведаю. Чуў, што ў Слоніме ці ў Гародні ён канчаў школу падхарунжых. Быў шчырым беларусам. У Інце працаваў на паверхнасці, жыў у зусім іншым бараку ад шахцёраў. Думаю, што больш падрабязна пра яго зможа расказаць Пётра Рашэтнік з Баранавіч, пра якога я пісаў раней. Не так даўно ён мне званіў і казаў, што ляжыць у шпіталі з сэрцам. Цяпер, магчыма, ужо дома. Ён жыве адзін у кватэры, жонка памерла. Я Вам паведамляў, што з ім у Ларысы Геніюш у Зэльве я быў шмат разоў, а ў лагеры за спатканне з Ларысай атрымалі па 15 сутак ізалятара.

Пра Міхася Вітушку[10] я нічога ніколі не чуў.

Дам Вам, Сяргей, яшчэ адзін адрас былога сталінскага нявольніка з Інты, які працаваў увесь час на паверхнасці і зараз жыве недалёка ад Вас. Але адразу хачу папярэдзіць, што ён можа не адразу пойдзе з Вамі на кантакт. Гэтага хлопца павінен ведаць і В.Супрун, які яго прыгадвае ў сваіх успамінах: 223710, г. Салігорск, Паркавы завулак, 26/13. Агейка Міхась[11]. Пакуль усё. Да пабачэння. Мікола, 9.07.1996 г.



[9] Раманчук Сямён (1916-1951?) – беларускі вайсковы дзеяч, быў рэпрэсаваны, рыхтаваў паўстанне ў канцлагеры ў Інце.

[10] Міхась Вітушка (1907-2006) – кіраўнік узброенага супраціву на Беларусі ў 1946-1950-я гады.

[11] Міхась Агейка (нар.1928) – удзельнік беларускага патрыятычнага падполля ў 1946-1947 гадах у Баранавіцкай вобласці.

## З кагорты беларускіх патрыётаў



*Віталь Губарэвіч, Інта, 1954 г.*

Сябра Саюза вызвалення Беларусі, паэт Віталь Губарэвіч нарадзіўся 3 студзеня 1926 года ў вёсцы Наваельня Дзятлаўскага раёна. Калі яму споўнілася два гады памерла маці. Бацька Віталя спачатку працаваў псаломшчыкам у царкве, а потым, калі прыйшлі саветы, на чыгунцы. Але аднойчы ў іх дом завіталі людзі ў цывільным з наганамі, зрабілі ў хаце вобыск, ператрэслі ўсе кнігі, але нічога крымінальнага і падазронага не знайшлі. Тым не менш бацьку Віталя Губарэвіча Міхася арыштавалі. Больш сын і ўсе родныя ніколі Губарэвіча старэйшага не бачылі, нават нічога не змаглі даведацца пра яго далейшы лёс.



*Віталь Губарэвіч (пасярэдзіне) з сябрамі каля аптэкі ў вёсцы Дварэц Дзятлаўскага раёна, 1965 г.*

Падчас вайны Віталь працягваў вучобу ў вячэрняй школе, а таксама падпрацоўваў на чыгунцы, каб дапамагчы сям'і. Немцы неяк запрыкмецілі на чыгунцы юнака і хутка яго адправілі на працу ў Германію. Па іншай інфармацыі Віталь быў арыштаваны ў Вільні, там ён знаходзіўся ў роднай сястры. Выйшаў на рынак і трапіў у аблаву, дзе яго і схапілі. У Германіі ён цяжка працаваў на адным з ваенных заводаў.

На Дзятлаўшчыну юнак вярнуўся вясной 1945 года. Адразу пачаў працаваць, а таксама працягваў вучобу ў вячэрняй школе. Тады зачытваўся творамі беларускай літаратуры, сам пісаў вершы, але нікому іх не паказваў. На радзіме шукаў аднадумцаў, сяброў, якія б яго разумелі, з якімі ён мог бы падзяліцца сваімі думкамі і планамі.

У 1946 годзе Віталь Губарэвіч становіцца сябрам Саюза вызвалення Беларусі (СВБ). Найперш упаўнаважаным СВБ

на Дзятлаўшчыне. Супрацоўнікі НКУС яго часта затрымлівалі, выклікалі юнака на допыты, але стопрацэнтных доказаў знайсці не змаглі. І хоць Віталю было толькі 20 гадоў, за гэты час ён шмат бачыў і перажыў, меў пэўны жыццёвы вопыт. Але ўлады хацелі зламаць яго дух. Як жа так: бацька быў ворагам народа, сам Віталь падчас вайны знаходзіўся ў Германіі, а вярнуўшыся дамоў заўсёды размаўляў па-беларуску, пісаў вершы… За Віталем пастаянна сачылі. І неяк сярод сяброў СВБ знайшоўся здраднік, які іх выдаў НКУС. Сяброў арыштавалі: адных саслалі ў Сібір, іншых расстралялі. Не ўдалося толькі арыштаваць Губарэвіча. Але аднойчы такі момант здарыўся. У вячэрняй школе, дзе вучыўся Віталь, вісеў партрэт Сталіна. Неяк нехта выкалаў дыктатару вочы. Доўга шукалі вінаватага, пакуль, нарэшце, сын дырэктара школы не сказаў, што гэта зрабіў Губарэвіч, хаця ён да гэтай справы ніякага дачынення не меў. Хутка Віталя арыштавалі і далі яму 10 гадоў, адправіўшы ў Варкуту, а потым у Інту. Адбылося гэта ў траўні 1947 года.

У лагерах дзятлаўскаму хлопцу было невыносна цяжка, але дух юнака не зламалі. У яго пачаліся сухоты. Ад гэтай хваробы і ад цяжкай працы паміралі дзясяткі сяброў. Але Віталь трымаўся сваіх землякоў, якія разам дапамагалі адзін аднаму выжыць. Там ён пазнаёміўся з Ларысай Геніюш, перадаваў праз сяброў ёй свае вершы, спрачаўся, разважаў. Адзін з вершыў нават прысвяціў паэтцы. У ім ёсць і такія радкі:

*…Ты гамаю акордаў мілагучных*
*Напоўніла мне сэрца да краёў,*
*І вобразаў так родных, неадлучных*
*Чарга перад вачыма ўстала зноў.*
*І я за ліру ўзяўся міма волі,*
*І грозна песня загула мая,*
*Яна пяе братам маім аб волі,*
*Аб нашых родных, дарагіх краях.*
*Але не плач у песні гэтай льецца –*
*Яна гучыць, як атамана кліч,*
*Пракляццем грозным з сэрца майго рвецца,*
*Ўздымае помсты ўсенародны біч.*




*Магіла Віталя Губарэвіча ў вёсцы Дварэц Дзятлаўскага раёна*

На родную Бацькаўшчыну Віталь Губарэвіч вярнуўся ў 1956 годзе, тады яму было толькі 30 гадоў. У Наваельні на Дзятлаўшчыне ён здаў экзамен за курс сярэдняй школы і паступіў на фармацэўтычны факультэт Ленінградскага хіміка-фармацэўтычнага інстытута, які скончыў, атрымаўшы спецыяльнасць правізара-фармацэўта. Працаваў у аптэках вёскі Наваельня, у Навагрудку, а потым яго прызначылі аптэкарам ў вёску Дварэц.

Вёсцы пашанцавала, бо, акрамя сваёй працы, Віталь вёў актыўнае грамадскае жыццё. Ён іграў у Наваельнянскім духавым аркестры, арганізаваў тэатральны гурток у мясцовым клубе. Вясковыя артысты часта паказвалі пастаноўкі па творах беларускіх драматургаў. Сам Віталь выдатна граў камедыйныя ролі, пісаў розныя вершаваныя гумарэскі на тэмы вясковага жыцця і выконваў іх на сцэне. У вольны час ён спрабаваў пісаць вершы, займаўся перакладамі гумарэсак з польскага часопіса "Шпількі", які выпісваў. Збіраў і запісваў у вёсках Дзятлаўшчыны легенды і паданні.

Але страчанае здароўе ў Германіі і 9 гадоў лагераў рана забралі ў яго жыццё. Віталя Губарэвіча не стала ў 1976 годзе. Яго пахавалі на могілках у вёсцы Дварэц Дзятлаўскага раёна, дзе да сённяшніх дзён стаіць сціплы помнічак.



## Дабрасельцы – радзіма Васіля Захаркі

У вёсцы Дабрасельцы Зэльвенскага раёна даўно не быў. Так хутка бяжыць час, што здаецца зусім нядаўна наведваў гэту далёкую зэльвенскую вёску. Напярэдадні 100-годдзя Беларускай Народнай Рэспублікі вырашыў зноў завітаць у Дабрасельцы, дзе нарадзіўся і пэўны час жыў актыўны палітычны дзеяч у перыяд станаўлення беларускай дзяржаўнасці, чацвёрты прэзідэнт Беларускай Народнай Рэспублікі Васіль Іванавіч Захарка (1877-1943).

### *У Зэльве*

Перш чым завітаць у Дабрасельцы, вырашыў спыніцца ў Зэльве. Прайсціся па вуліцах гэтага райцэнтра, а раптам там памятаюць пра свайго знакамітага земляка зэльвенцы. У самым цэнтры пасёлка каля райвыканкама стаіць помнік Леніну, а ў цэнтральным скверыку здалёк бачны помнік жарабяці. Маўляў, з першай паловы XVII стагоддзя штогод 26 ліпеня ў Зэльве адкрываўся адзін з буйнейшых у Беларусі кірмашоў – Ганненскі. Адной з характэрных рысаў кірмашу быў гандаль коньмі. У асобныя гады іх прадавалі па некалькі тысяч. Таму помнік жарабяці ў цэнтры Зэльвы ўвасабляе той далёкі гістарычны Ганненскі




кірмаш. Вядома ж, замест жарабяці ці Леніна ў цэнтры Зэльвы мог бы стаяць помнік слаўнаму сыну Зэльвеншчыны Васілю Захарку. Але пакуль Васіль Іванавіч такога помніка і памяці не заслужыў. Ды і вуліцы ў яго гонар няма ў Зэльве, няма і шыльды, нічога няма. Нават зэльвенцы, калі я пытаўся ў іх, хто такі Васіль Захарка, ці чулі пра такога чалавека – здзіўлена глядзелі на мяне, паціскаючы плячыма, што першы раз пра такую асобу чулі. Хаця ў Зэльве ёсць нямала людзей з прозвішчам Захарка. Зусім нядаўна ў Дзярэчыне Зэльвенскага раёна жыў шчыры беларус, настаўнік, літаратар, кіраўнік зэльвенскага раённага літаб'яднання "Зоры над Зальвянскай" Пятро Марціноўскі (1932-2006). У зборніку вершаў "Зоры над Зальвянкай" (Слонім, 2008) апублікавана шмат яго вершаў-песень, музыку да якіх напісаў мясцовы кампазітар Уладзімір Захарка.

З цэнтра Зэльвы іду па Савецкай вуліцы да Свята-Троіцкай царквы. На цвінтары царквы стаіць бюст паэтцы і змагарцы Ларысе Геніюш (1910-1983). І ў самой царкве прымацавана мемарыяльная шыльда ад удзячных нашчадкаў на 90-я ўгодкі паэткі. Ёсць у царкве і музейны пакой Ларысы Геніюш. А насупраць



*Васіль Захарка*

царквы на Савецкай вуліцы захаваўся дом, дзе жылі Ларыса і Янка Геніюшы. У 2010 годзе да 100-годдзя паэткі спрабавалі мы адкрыць на доме мемарыяльную шыльду, але мясцовыя вертыкальшчыкі не дазволілі. І хоць шыльда ўжо была прымацавана да сцяны дома, яе сарвалі і адвезлі ў Зэльвенскі РАУС. Хочацца верыць, што наступіць час і гэта шыльда вернецца на належнае ёй месца.

Дарэчы, у канцы 1980-х-пачатку 1990-х гадоў, калі рэдактарам зэльвенскай раённай газеты "Праца" была Ірына Васілеўка, на старонках раёнкі былі апублікаваны сотні вершаў Ларысы Геніюш, дзясяткі артыкулаў пра яе лёс і творчасць. А 1 чэрвеня 1993 года "Праца" надрукавала мой вялікі артыкул на дзвюх старонках "Ён быў прэзідэнтам Рады БНР". Пасля зыходу Ірыны Васілеўка з пасады рэдактара пра Ларысу Геніюш і Васіля Захарку Зэльвенская раёнка не прыгадвае.

## *З успамінаў Ларысы Геніюш*

Чаму я пачаў размову пра Ларысу Геніюш, ды таму, што яна была сваячніцай Васіля Захаркі. Праўда, многія думалі, што Геніюш – пляменніца Захаркі, але гэта не так. Хаця заўсёды Ларыса Геніюш Васіля Іванавіча называла проста дзядзька Васіль ці дзядзька Захарка. У кнізе «Споведзь» Ларыса Геніюш успамінае: "З дзядзькам Васілём жылі мы вельмі дружна. Старэнькі любіў заехаць да нас. Ён не спадзяваўся, што з ганарыстага маяго Янкі будзе такі добры муж. Цешыўся гэтым. Янка цікавіўся болей літаратурай і прыгожымі дамамі й зусім мала палітыкай, а дзядзька Васіль толькі палітыкай..."(Ларыса Геніюш. Споведзь. Мінск, 1993. С. 35).



*Валянціна Быкава*

Далей у “Споведзі” Ларысы Геніюш – самыя сумныя радкі ўспамінаў: “Дзядзька Васіль захварэў на лёгкія. Пад сакрэтам сказала мне пані Крэчэўская, што ягоны нейкі вельмі падазроны кватарант парнуў яго ў бок нажом… З якой прычыны – магу толькі дадумацца сяньня, калі болей ведаю “мэтады”. Дзядзька адмовіўся ад варункаў, якія яму давалі немцы, і яму, і Беларусі, і дрыжучы даставаў дапамогу ад Чырвонага Крыжа й чакаў нядобрага. Ратавала яго, як і доктара Градзіла, радыё. Дзядзька быў дэмакрат, і аператыўнае мудрае Бі-бі-сі толькі яго й трымала на духу. Ён вельмі баяўся, каб якія самазваныя фюрэры не паявіліся ў нас і не павялі дрэнна палітыкі. Ён пазнаў немцаў і сказаў мне так: “Няма ў нас выбару: альбо – альбо. Калі выйграюць немцы, дык вынішчаць усіх нас, калі выйграюць саветы, дык вынішчаць інтэлігенцыю й асымілююць народ. Але гэта лепей, чымсьці сьмерць усяго народу… Трэцяга выхаду няма…”. У Богніцах за Прагаю ў санаторыі для цяжкахворых туберкулёзам дажываў свой век Васіль Іванавіч Захарка. Толькі я ад яго вярнулася, як за пару




*Тут стаяла хата Васіля Захаркі*

дзён атрымала ад яго паштовую картку, запырсканую крывёю. Прасіў мяне: "Донечка, хутчэй прыязджай" і г. д. Прыехала якраз і пані Крэчэўская, якая сказала мне, што дзядзька вельмі аслаб, у яго горлам кінулася кроў, і ён неадкладна хоча мяне бачыць. Дзядзька даўно ўжо прасіў мяне, каб я часцей да яго наведвалася, ён баяўся іншых людзей, нікога не хацеў бачыць. Дзядзька быў накрыты сваёю коўдраю, белая наўлечка якой была ўся ў крыві. Ён сказаў мне, што прыходзіць канец яго жыцьця, што ён быў адным з тварцоў акту Дваццаць Пятага Сакавіка 1918 года, пасьля сьмерці А. Крэчэўскага зьяўляецца Старшынёй БНР і, як выбраны народам сябра ўраду, адыходзячы, хоча перадаць свае паўнамоцтвы дастойнаму чалавеку. Што рабіць? Няма адпаведнага чалавека, ёсьць толькі такая жанчына, а жанчына ня можа быць прэзідэнтам. Што ж, гэта быў 1943 год… Не, кажу, так рабіць нельга! Нельга браць у магілу ідэі незалежнасці нашага народу! "Нікому ня веру, донечка. Ёсьць многа людзей, але ў кожнага на некага арыентацыя, а тут трэба быць верным толькі народу. На гэтае становішча я мог бы паставіць толькі цябе, каб ты не была

жанчынай". Тады я запрапанавала Абрамчыка. Я доўга даказвала дзядзьку ўсю паважнасьць, прадбачлівасьць і любоў да Беларусі гэтага чалавека. Я толькі не сказала, што Мікола крыху замяккі, крыху задобры, каб стаць на такое змаганьне. Мікола ведаў мовы, вельмі добра арыентаваўся ў палітыцы, ненавідзеў немцаў, умеў выкарыстаць любую нагоду, каб толькі нешта вартаснае зрабіць для Беларусі. Дзядзька папрасіў падаць яму папер. Я паправіла яму падушку, ён сеў і пачаў пісаць тэстамэнт, які прасіў мяне перапісаць у трох экземплярах на машынцы й назаўтра яму прынесьці. Пані Косач-Шыманоўская, сястра Лэсі Украінкі, хараша перапісала мне гэты тэстамэнт, і назаўтра дзядзька Васіль падпісаў іх, яшчэ паправіўшы дробныя памылкі. У тэстамэнце Мікола Абрамчык назначаўся Прэзідэнтам Беларускай Народнай Рэспублікі, Ларыса Геніюш – Генеральным Сакратаром БНР. На нас абаіх пераходзіў архіў БНР, які быў у кватэры дзядзькі Васіля... Я была радая хоць тым, што Мікола мог яшчэ ўбачыць дзядзьку й з яго ўласных рук атрымаць гэты дакумент. Першы экземпляр далі мне, другі Міколу, а трэці пакінуў сабе дзядзька Васіль. Ніхто пра гэта нічога не ведаў, усё рабілася тайна... Спакавалі мы з Міколам пару чамаданаў нашага дзяржаўнага архіву, і ён павёз гэта ўсё да сябе з думкай усё гэта перапраціць у Францыю. Я й да сёньня ня ведаю, як яму й ці яму гэта ўдалося... А дзядзька згасаў з кожным днём. 13 сакавіка 1943-га года ў нядзелю я наведала яго. Заўважыла, што яго перавялі да найцяжэйшых хворых. Ляжаў ён жоўты, слабы. Хацеў, каб падалі яму судна. Я папрасіла, каб не ўстыдаўся мяне, ён ужо мала на што рэагаваў. Прасіў толькі, каб я так хуценька не хадзіла, каб крыху прысела ля яго. Аддаў мне свой экзэмпляр тэстамэнту й папрасіў, каб гадзіньнік яго я пакінула сабе. Я яму абяцала гэта. Мы разьвіталіся..."(Ларыса Геніюш. Споведзь. Мінск, 1993. С. 53–61).

14 сакавіка 1943 года Васіля Захаркі не стала. Пахаванне яго адбылося на Альшанскіх могілках у Празе, якая была акупавана немцамі. Развітацца з прэзідэнтам Рады Беларускай Народнай Рэспублікі прыехалі дэлегацыі ад розных народаў. Але сказаць развітальнае слова ім гестапа забараніла. Таму атмасфера ў

гэты час была надзвычай цяжкая. Яна больш згусцілася, калі пачалі труну апускаць у магілу. У гэты момант інжынер Мікола Абрамчык, ён ужо прэзідэнт Рады БНР, усё ж прайшоў да магілы і выступіў з невялікай прамоваю. Пасля яго некалькі слоў сказаў і прадстаўнік ад украінскай моладзі. А ўкраінскі прафесар Мазепа вымавіў толькі адзін сказ: «Нічога, мы шчэ будэмо маты оказыю промовіты іншым разом». Больш за ўсіх шкадавала дзядзьку Васіля Ларыса Геніюш. Калі пачалі засыпаць магілу, яна самлела. Спявак Міхась Забэйда-Суміцкі і інжынер Васіль Русак выносілі яе на руках… Смерць Васіля Захаркі выклікала вялікі рэзананс у Еўропе. Але нямецкая цэнзура не дазваляла друкаваць у газетах артыкулы-некралогі, а таксама кантралявала, каб гэтая сумная вестка не дайшла да Беларусі. Але часопіс “Новы шлях” (1943, № 8) на старонцы 15 апублікаваў некралог “Памяці В.Захаркі” і здымак. Некралог пачынаўся так: “14-га сакавіка бягучага году ў Праскай санаторыі для сухотнікаў на 66 годзе жыцьця памёр стары беларускі дзеяч, член эміграцыйнага Беларускага Ўраду Васіль Захарка. Ад 1928 году, пасьля сьмерці старшыні Рады Беларускае Народнае Рэспублікі, Пётры Крачэўскага, Васіль Захарка, як заступнік старшыні Рады БНР, абараняў і рэпрэзэнтаваў інтарэсы Беларускага Народу перад міжнароднымі ўстановамі. У шматлічных нотах і мэмарандумах, а таксама і ў друку асьвятляў ён ганебныя мэтады ўціску беларускага народу, робленыя ў Заходняй Беларусі палякамі, а ў Цэнтральнай і ў Усходняй Беларусі бальшавікамі… і г.д.”.

Так што тая памяць пра Ларысу Геніюш, якая ёсць у Зэльве сёння, мае дачыненне і да Васіля Захаркі. І Ларыса Геніюш, і Васіль Захарка з’яўляліся грамадзянамі Беларускай Народнай Рэспублікі, а таксама кіраўнікамі БНР.

З Зэльвы еду ў накірунку Ваўкавыска. Праехаўшы некалькі кіламетраў зварочваю на вёску Холстава. Пасля Холстава будуць яшчэ Янаўшчына, Тулава, Міжэрычы, Рудзевічы, а потым ужо Дабрасельцы – вёска, дзе нарадзіўся Васіль Захарка. Да сённяшніх дзён у вёсцы Дабрасельцы пражывае шмат сем’яў з прозвішчам Захарка. І некаторыя з іх з’яўляюцца далёкімі і блізкімі сваякамі Васіля Іванавіча Захаркі.

*З біяграфіі*

Васіль Захарка нарадзіўся 1 красавіка 1877 года. Маладыя гады былі вельмі цяжкімі. Хлопец хацеў вучыцца, а грошай не хапала, бо бацькі-сяляне былі бедныя. Калі юнаку споўнілася шаснаццаць гадоў, памерлі маці і бацька. Васіль Захарка застаўся круглым сіратою, маючы пад сваёй апекаю сястру і двух братоў. Летам ён вёў гаспадарку, а зімою спрабаваў вучыцца. У 1895 годзе хлопец з Дабрасельцаў вытрымаў экзамены на настаўніка царкоўнапрыходскай школы і нават атрымаў працу. Але тады ў гэтых школах настаўнікам плацілі вельмі мала, таму праз два гады Васіль звальняецца з працы і ўладкоўваецца пісарам. У сярэдзіне кастрычніка 1898 года Васіля Захарку забіраюць на вайсковую службу. Чатыры гады ён вучыцца ў ваенна-юнкерскім вучылішчы, а пасля звальняецца як афіцэр запасу. Але з выбухам руска-японскай вайны яго зноў забіраюць на вайсковую службу. За час службы вайсковец з Зэльвеншчыны набраўся добрага вопыту. У 1906 годзе ён быў справаводам брыгады, у 1914 годзе – памочнікам начальніка аправізацыі арміі Паўночна-заходняга фронту, у 1916 годзе – загадчыкам канцылярыі штабу 10-й арміі. А з красавіка 1917 года – намеснікам старшыні ваеннага суда штаба 10-й арміі…

У канцы кастрычніка 1917 года Васіль Захарка вяртаецца ў Мінск і прымае актыўны ўдзел у арганізацыі з’езда беларускіх вайскоўцаў Заходняга фронту, а пасля становіцца сакратаром Цэнтральнай Беларускай Вайсковай Рады. У снежні 1917 года ў Мінску адбыўся Першы Усебеларускі кангрэс, дзе спадар Захарка быў абраны сябрам Рады. Калі Кангрэс пачалі разганяць бальшавікі, ён трапляе ў палон. Уцёкшы з палону, Васіль Захарка пачынае разам са сваім сябрам Кастусём Езавітавым арганізоўваць збройнае паўстанне супраць бальшавікоў. 19 лютага 1918 года Мінск быў ачышчаны і ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі выйшаў з падполля… У першым урадзе БНР Васіль Захарка займаў становішча дзяржаўнага скарбніка, а пасля меў розныя пасады ў міністэрстве. У 1919 годзе прэзідэнтам Рады БНР быў абраны Пётр Крэчэўскі, а яго намеснікам стаў Васіль Захарка. 2 чэрвеня 1920 года, калі бальшавікі выказалі жаданне весці

перамовы з урадам БНР, Васіль Захарка быў прызначаны старшынёй Надзвычайнай беларускай дыпламатычнай місіі. Але не дамовіўшыся з бальшавікамі, Захарка вяртаецца з Масквы і вядзе далейшае змаганне за незалежнасць Беларусі. У сакавіку 1928 года памірае прэзідэнт Рады БНР Пётр Крэчэўскі. Новым прэзідэнтам Беларускай Народнай Рэспублікі становіцца Васіль Захарка. Гэта быў нялёгкі час як для прэзідэнта, так і для Беларусі. З утварэннем СССР новаму прэзідэнту са сваёй канцылярыяй прыйшлося эмігрыраваць. Васіль Захарка пасяліўся ў сціплай хатцы ў ваколіцах Прагі, хоць чэшскі ўрад з прызнаннем СССР прыпыніў афіцыйныя дыпламатычныя стасункі з БНР. Але прэзідэнт Васіль Захарка не падаў духам і не паддаваўся на розныя правакацыі. Ён, дарэчы, адхіліў таксама ўсе прапановы наконт супрацоўніцтва і з немцамі...

### *Дабрасельцы*

Шмат Захаркаў знайшлі свой апошні спачын на вясковых могілках у Дабрасельцах. Амаль на палову могілак помнікі з прозвішчам Захарка. Ёсць там і сваякі Васіля Іванавіча. Пра гэта нагадала мне ў Дабрасельцах праўнучка Захаркі Валянціна Іванаўна Быкава. “Добра было б якую шыльдачку паставіць на могілках, што тут пахаваны пляменнікі і ўнукі Васіля Іванавіча. Усё ж ён вялікая асоба ў маштабах нашай краіны. Але пра яго тут мала хто ведае, хаця Захаркаў у нас шмат”, – сказала Валянціна Іванаўна.

Вёска Дабрасельцы, дзе нарадзіўся чацвёрты прэзідэнт Рады Беларускай Народнай Рэспублікі – глыбінка Зэльвенскага раёна, ад райцэнтра да вёскі каля 20 кіламетраў. У канцы XIX стагоддзя вёска і маёнтак былі ўласнасцю Ігната Шырмата, які меў 799 дзесяцін зямлі. На пачатку XX стагоддзя ў Дабрасельцах жылі каля 400 чалавек. Але з кожным годам вяскоўцаў станавілася ўсё менш і менш: у 1971 годзе іх была 288, у 2003 – 161 жыхар, а цяпер, па словах вяскоўцаў, чалавек 80. Паміраюць людзі, асабліва мужыкі.

У Дабрасельцы, калі ехаць з Зэльвы і Міжэрычаў, можна дабрацца з двух бакоў вёскі. Бо сама вёска – гэта адна доўгая заасфальтаваная вуліца. Праўда, некалькі дамоў стаяць крыху ўбаку ад галоўнай вясковай вуліцы. Мне патрапіць у Дабрасельцы давялося з боку праваслаўнай царквы Святога Антонія, пабудаванай у 1893 годзе. Але на той час у царкве нікога не было, таму прыйшлося ехаць да вясковай крамы – у другі бок вёскі, каб пагутарыць з вяскоўцамі. У краме ў Дабрасельцах было людна, вяскоўцы куплялі тавары, вялі розныя гутаркі пра сваё жыццё-быццё.

*Сваякі Васіля Захаркі*

Калі я шэсць гадоў таму быў у Дабрасельцах, то ў пошуках слядоў Васіля Захаркі мне дапамагла Вера Іванаўна Міхальчык – родная сястра Валянціны Іванаўны. Тады мяне сустрэла невялікага росту бабуля, але яшчэ жвавая, зацікаўленая і гаваркая. Павітаўся і сказаў жанчыне мэту свайго візіту ў Дабрасельцы. Вера Іванаўна ўзрадавалася, запрасіла ў адзін з пакояў хаты і сказала, што ведае пра Васіля Іванавіча Захарку.

– Мама мая Васілю Захарку была блізкай сваячкай, – расказвала падчас першай сустрэчы Вера Іванаўна – Пры маёй памяці ён у Дабрасельцы прыязджаў два разы, але я яго не бачыла. Адзін раз, калі ён прыязджаў, я хварэла. Але я яму пісала лісты, дарослыя дыктавалі, а я пісала. Я вучылася ў царкоўнапрыходскай школе, пісаць і чытаць умела. А вось жонку яго Пелагею бачыла некалькі разоў, яна родам з суседняй вёскі Бязводна…

Цяпер сустрэцца з Верай Іванаўнай Міхальчык мне не ўдалося. За гэтыя шэсць гадоў яна пахавала двух сваіх сыноў і цяпер цяжка хварэе. Хата яе на замку. Таму пра ўсё я пытаўся ў роднай сястры Веры Міхальчык – Валянціны Іванаўны.

– А дзе яго была хата, дзе ён жыў? – пытаюся ў жанчыны.

– Побач з нашай хатай, дзе жыве сястра. Сястры нумар дома 15. Там асобная вуліца, якую вяскоўцы называюць Куток, а тут, каля крамы – Сяло. Вось там і стаяла хата Захаркаў. Але хаты той даўно няма, толькі месца засталося, дзе яна стаяла.

– Я памятаю тое месца, я туды пад'еду, – кажу Валянціне Іванаўне. – Гэта месца мне паказвала ваша сястра.

Валянціна Іванаўна Быкава жыве недалёка ад крамы ў вялікім доме. Вуліца каля яе хаты заасфатаваная, да яе часта заходзяць вяскоўцы, калі ідуць у краму па хлеб і іншыя прадукты.

– Такі вялікі дом вы пабудавалі сабе ў Дабрасельцах? – пытаюся ў спадарыні Валянціны.

– Ды гэта не мой. Тут жыў Герой Сацыялістычнай Працы Аляксандр Жамойцін. А калі ён памёр, мы выкупілі ў калгаса гэты дом. Вось цяпер адна тут і жыву, муж памёр, – сказала Валянціна Іванаўна.

– А за што Аляксандр Жамойцін атрымаў такое вялікае званне?

– Атрымаў ён гэта званне ў 1972 годзе за поспехі ў павелічэнні вытворчасці і продажу дзяржаве прадуктаў земляробства. Вось за гэта тады давалі такія вялікія званні.

– Спадарыня Валянціна, а ці ёсць у вас здымкі Васіля Захаркі?

– Былі два, але забрала дачка. Яна жыве ў Маладзечанскім раёне.

– А што гэта былі за здымкі?

– На адным – Васіль Захарка з жонкай Пелагеяй. Ён сядзіць, а яна стаіць побач з ім, паклаўшы яму руку на плячо. Здаецца, здымак быў зроблены ў 1920-х гадах. І на другім здымку – Васіль Захарка ў Коўне.

– Я ведаю гэтыя здымкі. Яны друкаваліся ў часопісе “Спадчына” ў 1994 годзе.

– Спадарыня Валянціна, а ці ведалі вы такую паэтку Ларысу Геніюш, ці бачылі яе хоць раз?

– Вядома ж бачыла. Калі мы з мамай ездзілі ў царкву ў Зэльву, то там сустракалі Ларысу Антонаўну, яна таксама наша далёкая сваячка, яна ведала Васіля Іванавіча. І калі мы прыязджалі ў Зэльву, хадзілі ў царкву, а пасля царквы Ларыса Антонаўна нас запрашала заўсёды ў госці. Яе хата ў Зэльве знаходзілася праз вуліцу каля царквы. Яна нас частавала гарбаткай, пячэннем, цукеркамі ці пірагамі, а потым на аўтобусе мы ехалі ў Дабрасельцы…

Калі я развітваўся з Валянцінай Іванаўнай Быкавай, жанчына сказала, што, магчыма, не дажыве да таго часу, калі яе сваяку Васілю Захарку паставяць у Зэльве помнік. Я запэўніў яе, што дажыве, і што падчас адкрыцця помніка, яна з дзецьмі і ўнукамі выступяць са шчырай прадмовай.

*Шыльда, дзе стаяла хата Васіля Захаркі*

Я сеў у машыну і паціху з горкі па гразкай вуліцы паехаў у вясковы Куток. Паехаў туды, дзе стаяла хата Васіля Захаркі. Да самага месца пад'ехаць не змог, бо дужа вузкая вуліца. Выйшаў з машыны і пайшоў далей пяшком. Калі я падыйшоў бліжэй да таго месца, дзе стаяла хата, то быў здзіўлены. На заросшым травой і закінутым смеццем фундаменце збоку ўбачыў шыльдачку: "Тут стаяла хата прэзідэнта БНР Васіля Захаркі (1877-1943)". Хто паставіў шыльдачку – мне даведацца не ўдалося. Тым больш у Кутку шмат пустых хат, людзей там у поўдзень сустрэць і пагутарыць не ўдалося...

Самога Васіля Захарку на Альшанскіх могілках у Празе пахавалі побач з яго жонкаю Пелагіяй (Палінай) Захарка. Магіла, дарэчы, была загадзя закуплена і разлічана на дваіх. Да помніка з выяваю Пагоні, які паставіў Васіль Іванавіч сваёй жонцы, пазней прымацавалі толькі шыльдачку з прозвішчам Васіля Захаркі.

...Калі я пакідаў Дабрасельцы і вяртаўся ўбок Зэльвы, падумалася, што ўсё ж некалі наступіць час, калі чацвёртаму прэзідэнту Беларускай Народнай Рэспублікі паставяць у Зэльве помнік. Яго імем будуць названы вуліцы, а ў Дабрасельцах з'явіцца і музей Васіля Захаркі. Эх, дажыць бы...

2018 г.

## Пятро Марціноўскі – аўтар “Нашай Лоркі”



*Пятро Марціноўскі*

Настаўніка, публіцыста, кіраўніка Зэльвенскага раённага літаб’яднання Пятра Марціноўскага не стала 1 лютага 2006 года. Але здаецца, што ён жыве і сёння: зараз выйдзе на панадворак, сустрэне, абдыме, мы сядзем у яго «Жыгулі» і паедзем у вандроўку па роднай Гродзеншчыне. Ён нас, маладых, любіў як родных дзяцей, пра нас пісаў, друкаваў нашы творы на старонках Зэльвенскай раёнкі, прапагандаваў нашу творчасць, арганізоўваў вечары і сустрэчы. Гэта быў чалавек апантаны і ўлюбёны ў жыццё, у літаратуру і ў родную Бацькаўшчыну.

Дом Пятра Мікалаевіча Марціноўскага ў Дзярэчыне Зэльвенскага раёна сябры беларускай творчай інтэлігенцыі жартоўна называлі домам літаратараў. Калі б ні прыехаў у старажытны Дзярэчын – ноччу ці днём, у

святы ці ў гарачы будзень – з усмешкай і з бацькоўскай цеплынёй Пятро Мікалаевіч заўсёды запрашаў у сваю светлую і прасторную хату. І не проста запрашаў, а смачна частаваў кумпячком ці вэнджанай кілбаскай і абавязкова наліваў самаробнага вінаграднага віна, якому мы далі назву «Marcini» (ад прозвішча Марціноўскага). І за гэтым частаваннем гадзінамі, а то і суткамі, лілася гутарка пра лёс роднай мовы, пра літаратуру, гісторыю і пра Беларусь наогул.

У доме Пятра Марціноўскага пабывала шмат вядомых пісьменнікаў, мастакоў, журналістаў, музыкантаў. Але часцей за ўсё ў Дзярэчын прыязджалі землякі – Павел Сцяцко, Міхась Скобла, Юрка Голуб, Уладзімір Ягоўдзік, Валянцін Дубатоўка. А ў прыватнай бібліятэцы гаспадара захоўваліся кнігі з аўтографамі Максіма Танка, Янкі Брыля, Ларысы Геніюш, Ніла Гілевіча, Дануты Бічэль, Сяргея Законнікава – ці не паловы сяброў Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Пра свае сустрэчы, знаёмствы і гутаркі Пётр Мікалаевіч планаваў напісаць і выдаць кнігу. І верылася, што яму гэта ўдасца... Не ўдалося, не паспеў. Бог яму адмераў 74 гады.

Сам Пятро Марціноўскі быў родам з вёскі Катчыно Мастоўскага раёна, хаця амаль усё жыццё ён пражыў у Дзярэчыне – у малым Версалі, як назваў гэту вёску некалі беларускі эмігрант з ЗША Ян Пятроўскі.

У 1944 годзе Пётр Марціноўскі паступіў у пяты клас Дзярэчынскай сярэдняй школы. Пачаў пісаць замалёўкі, вершы, інфармацыйныя паведамленні ў Зэльвенскую раённую газету. У школьныя гады захапляўся яшчэ музыкай. Нядрэнна іграў на мандаліне. Нават марыў з адной дзяўчынай паступаць у кансерваторыю.

Пасля службы ў войску Марціноўскі вярнуўся на радзіму і пачаў працаваць настаўнікам у Дзярэчынскай сярэдняй школе. Працу ў школе сумяшчаў з завочнай вучобай у Гродзенскім педінстытуце. А з 1969 года і да пенсіі працаваў у гэтай школе намеснікам дырэктара па навучальна-выхаваўчай рабоце. Пра стыль работы і пра метады навучання ў Дзярэчынскай СШ напісаў і выдаў брашуру «У нагу з часам» (1986).




Першыя селькораўскія карэспандэнцыі Пятра Марціноўскага былі надрукаваны напачатку 1950-х гадоў у Зэльвенскай раённай газеце. Пасля матэрыялы на самыя розныя тэмы з'яўляліся на старонках газет «Звязда», «Гродзенская праўда», «Літаратура і мастацтва», «Наша слова» і ў многіх іншых рэспубліканскіх выданнях. Усё свядомае жыццё дзярэчынскага настаўніка хвалявалі пытанні адраджэння беларускай мовы, літаратуры і культуры. Адсюль вынікала і тэматыка ягоных публікацый.

Самымі светлымі старонкамі ў жыцці Пятра Марціноўскага былі сустрэчы і шчырае сяброўства з беларускай паэткай Ларысай Геніюш і яе мужам Янкам Геніюшам. З ёй ён пазнаёміўся ў канцы 1950-х гадоў, пасля таго, як паэтка была рэабілітавана і вярнулася ў 1956 годзе ў Зэльву. У 2002 годзе ў Слоніме выйшла з друку невялікая кніга ўспамінаў пра Ларысу Геніюш Пятра Марціноўскага «Наша Лорка». Справа ў тым, што Ларыса Геніюш часта гасціла ў Марціноўскіх у Дзярэчыне, дый яны неаднаразова наведвалі хату Геніюшаў у Зэльве...

Кнігу "Наша Лорка" я дапамагаў Пятру Мікалаевічу выдаць, напісаў прадмову да яе. Туды ўпершыню былі ўключаны і ўрыўкі з незакончанай паэмы Ларысы Геніюш. Там ёсць і радкі пра тое, як яе дапытваў міністр дзяржаўнай бяспекі БССР Лаўрэнцій Цанава:

*"На якой мове з табой гаварыць,*
*Знаеш расейскую,*
*Можа выклікаць перакладчыка,*
*Можа па-чэску?".*
*Гляджу адважна, не, не баюся:*
*"Не знаю рускай,*

*Вы жа міністр на Беларусі*
*Дык гаварыце, як тут належыць,*
*Па-беларуску!”.*
*“Не, па-расейску ты загаворыш”, –*
*Грыміць Цанава.*
*Мовы ён нашай знаці – не знае,*
*Ад злосці шэры.*
*Біч для народу, скула ліхая,*
*Піяўка на сэрцы!*
*Бесіцца люта і мне жадае.*
*Суддзі не суддзі,*
*Быццам не людзі,*
*Скалы сядзяць:*
*“За беларускасць няхай вам будзе:*
*Лет 25!”.*
*Так паўстагоддзя разам абоім,*
*Годзе...*

Пятро Марціноўскі ўсё жыццё пражыў у глыбінцы, але ніколі не старэў душой, не заставаўся ўбаку ад тых падзей, якія адбываліся ў нашым паўсядзённым жыцці. Калі выдаваўся вольны час, настаўнік ехаў у Мінск, Гродна, прымаў удзел у рэспубліканскіх і абласных літаратурна-мастацкіх мерапрыемствах. Ён быў дэлегатам I, II, III і IV з’ездаў Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны, выбіраўся сябрам Рэспубліканскай Рады Таварыства беларускай мовы. За сумленную працу Пятро Марціноўскі ўзнагароджаны юбілейным медалём “За доблесную працу”, Граматай Вярхоўнага Савета БССР, ганаровымі граматамі абласнога і раённага ўзроўняў.



## Разам прайшлі сталінскія лагеры



*Васіль Супрун пасля сталінскіх лагераў*

Васіль Супрун жыў побач са мной на Брэсцкай вуліцы ў Слоніме. Таму я яго сустракаў амаль кожны дзень: то ідучы ў краму, то ён ехаў на дачу, то кудысьці спяшаўся на сустрэчу. Пры спатканнях Васіль Рыгоравіч стараўся гаварыць мала, ён больш любіў слухаць, а потым адным сказам ціха падводзіў вынікі ўсёй гутаркі. Ён да самай смерці быў асцярожным і маўклівым. Але я намагаўся яго трохі разварушыць і гучна пытаўся: “Як справы, Васіль Рыгоравіч, чым займаецеся, над чым працуеце?”.

– Вось сонейка выглянула вясновае, дык на дачу еду, варушуся там крыху. Цяжка ўжо працуецца ў маім узросце, не хапае сіл і здароўя, каб працаваць, пісаць. Хоць жаданне зрабіць тое-сёе яшчэ ёсць, – заўсёды з лагоднай ус-

мешкай, але ціха адказваў ён. Заўсёды інтэлігентны, шляхетны, быццам не з сялянскай сям'і выйшаў шукаць вольную ад паноў і таварышаў беларускую Беларусь. Ён моцна перажываў за Беларусь, казаў, што сёння ў нашай апазіцыі не хапае самаахвярнасці. А без гэтага – мы ніколі не пераможам.

Чаму ён так казаў, таму што сам са сваімі аднагодкамі ў 1946 годзе стварыў патрыятычную антысталінскую арганізацыю "Чайка", удзельнікі якой жылі ў Слоніме, Баранавічах, Навагрудку, Пінску і ў іншых гарадах, а таксама мястэчках. За гэта ён быў пакараны 25 гадамі зняволення.

Пра "Чайку" мы даведаліся толькі ў канцы 1980-х гадоў. Да гэтага часу ён нам ніколі нічога не казаў пра антысавецкае падполле. Калі выйшаў у 1956 годзе годзе на волю і праз год вярнуўся на родную Слонімшчыну, быў пазбаўлены магчымасці працаваць настаўнікам, хоць меў педагагічную адукацыю: скончыў Слонімскую настаўніцкую семінарыю і Ганцавіцкае педагагічнае вучылішча. Настаўнікам працаваць не дазволілі, і Васіль Супрун мяняў занняткі і прафесіі. Працаваў спачатку будаўніком у роднай вёсцы, быў тэхнікам-будаўніком у СПТВ у Слоніме, а потым у пошуках заробку выехаў у Крым, дзе знайшоў працу праекціроўшчыка ў падводным марскім клубе ДТСАФ СССР. Працуючы далёка ад Беларусі, паступіў на гістарычны факультэт БДУ, які завочна скончыў у 1969 годзе.

Калі вярнуўся з Крыма на Радзіму, то зноў пайшоў працаваць на будоўлю. Адначасова займаўся ў вольны час археалагічнай разведкай і раскопкамі на Гродзеншчыне і Брэстчыне. Пасля пісаў пра гэта ў мясцовым друку, у часопісе "Помнікі гісторыі і культуры Беларусі". Так і дажыў да пенсіі… Але гэта было пасля вяртання з ГУЛАГу, пасля 1957 года. А да гэтага была "Чайка".

Напачатку 1946 года ў асяродку настаўніцтва і моладзі Слонімшчыны ўзнікла ідэя арганізаванага супраціву камуністычнаму руху і гвалтоўнай русіфікацыі Беларусі. З гэтай мэтай у пачатку траўня 1946 года ў Слоніме быў праведзены ўстаноўчы сход, на якім было прынятае рашэнне стварыць падпольную беларускую арганізацыю з канспіратыўнай назвай «Чайка», якая ставіла б сваёй мэтай змаганне за нацыянальныя правы і год-



*Васіль Супрун (стаіць крайні злева) у Геніюшаў у Зэльве, 1950-я гады*

насць свайго народу, яго культуры, мовы, гісторыі і, урэшце, за свабоду і незалежнасць Беларусі. Арганізацыя не планавала займацца тэрорам, а індывідуальнай працай будзіць свядомасць беларусаў. Была прынятая праграма дзейнасці, асновы канспірацыі і абранае кіраўніцтва. У сходзе ўдзельнічалі Васіль Супрун (які быў абраны кіраўніком), Міхась Ракевіч, Міхась Чыгрын, Алесь Гардзейка, Леакадзія Кавальчук і Ніна Карач (сакратар). У сувязі з няяўкай Ніны Карач на пазнейшыя нарады і парушэннем канспірацыі, дзяўчаты былі адхіленыя ад удзелу ў падполлі, змененыя яўкі. Дарэчы, пазней Ніна Карач была асуджана на 10 гадоў. Яе забяруць ужо студэнткай Інстытута народнай гаспадаркі. І што цікава, бацька Ніны быў некалі засланы з Расіі ў Польшчу для навядзення прапаганды на карысць Саветаў. А дачка, як бачыце, вырасла свядомай беларускай.

З агульнай згоды сяброў Васілю Супруну было загадана заснаваць патрыятычнае падполле ў Баранавіцкім настаўніцкім

інстытуце, Міхасю Ракевічу – у Брэсцкім чыгуначным тэхнікуме, Міхасю Чыгрыну – у Жыровіцкім сельскагаспадарчым тэхнікуме, і Алесю Гардзейку – сярод моладзі Слонімшчыны.

У хуткім часе патрыятычныя групы падполля былі утвораны і ў Баранавічах (з дапамогай Уладзіміра Салаўя – студэнта настаўніцкага інстытуту), у Брэсце, Жыровічах і ў іншых гарадах і мястэчках.

"Чайка" за нейкі месяц дзейнасці выйшла далёка за межы Слонімшчыны, што патрабавала паглыбленай распрацоўкі праграмы і схемы ўнутранай будовы арганізацыі. А праз пэўны час узнікла і неабходнасць стварэння так званага Цэнтра Беларускага Вызваленчага Руху (ЦБВР), які павінен быў ажыццяўляць агульнае кіраўніцтва рухам. Кіраўніком Цэнтра быў абраны Васіль Супрун, намеснікам па арганізацыйна-палітычнай рабоце стаў Аляксандар Барэйка, а адказным за ваенізаваны рух – Міхась Ракевіч. Акрамя таго дарадчымі членамі Цэнтра былі прызначаныя Мікалай Макарэвіч, ён жа – кіраўнік Брэсцкага абласнога падполля, Міхась Агейка – ад баранавіцкай інстытуцкай групы і Уладзімір Салавей – ад слонімскіх груп. Кантакты Васіля Супруна з А. Барэйкам і М. Ракевічам былі рэгулярнымі, з астатнімі членамі Цэнтра – пры неабходнасці.

Цэнтрам была прапанаваная так званая «колавая» схема кіравання. Ад Цэнтра мела адыходзіць (акружаць яго) першае кола, гэта значыць, абласныя кіраўнічыя структуры, вакол якіх павінны размяркоўвацца раённыя групы – другога кола, а вакол апошніх – перыферыйныя групы – трэцяе кола. Пры гэтым прапаноўвалася своеасаблівая схема канспірацыі і кансервацыі падполля. На пэўным этапе, калі нейкая тэрыторыя будзе арганізацыяй ахоплена, яна павінна быць закансерваваная да спрыяльнай палітычнай сітуацыі, пры якой па камандзе з Цэнтра павінна была быць гатовая да любых дзеянняў...

Але за беларускімі хлопцамі і дзяўчатамі пільна сачыла спецгрупа МДБ. І ў чэрвені 1947 года патрыётаў пачалі арыштоўваць. Быў арыштаваны і Васіль Супрун. Амаль паўгода знаходзіўся ў баранавіцкай следчай турме «Крывое кола» і мінскай «амерыканцы». 21 лістапада 1947 Ваенны трыбунал войскаў МУС

Беларускай акругі ў Мінску паводле артыкулаў 63[1] і 76 КК БССР (здрада радзіме і антысавецкая агітацыя) асудзіў Супруна на 25 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў паражэння ў правах з канфіскацыяй маёмасці. Такім суровым быў прыгавор перш за ўсё за ўпартасць, нязломнасць, адмову нагаворваць на сябе і іншых, карацей – за характар, за тыя яго рысы, якіх берыеўцы не чакалі ад вясковага настаўніка, маладога народнага інтэлігента, маладога беларуса.

Пакаранне Васіль Супрун адбываў у лагерах Інты і Варкуты. У зняволенні падтрымліваў тайную міжлагерную перапіску з беларускай паэткай Ларысай Геніюш:

*Бачыш? Вялізныя шрамы па краю –*
*Лагеры, зоны, драты.*
*Там ні за што, як і мы, дагараюць*
*Нашы ў няволі браты.*

Вершы з перапіскі Васіля Супруна і Ларысы Геніюш упершыню былі апублікаваныя ў тыднёвіку "Літаратура і мастацтва" вясной 1989 года. Іх публікацыя была тады вялікай падзеяй ў беларускім літаратурным жыцці. Асобнай кнігай вершаваная перапіска Васіля Супруна і Ларысы Геніюш пабачыла свет у 1998 годзе. Кніга называлася "Жыць для Беларусі". У анатацыі да яе напісана, што ў кнізе змешчаны ўнікальны блок цудам ацалелага ва ўмовах ГУЛАГу паэтычнага ліставання Ларысы Геніюш з Васілём Супруном, які ў поўным выглядзе быў надрукаваны ўпершыню. Аказалася, што Васіль Супрун усё жыццё пісаў вершы, найбольш патрыятычныя. А першы ягоны верш быў надрукаваны ў "Баранавіцкай газеце" яшчэ ў 1943 годзе. І толькі праз 50 гадоў дзяржаўнае выдавецтва "Мастацкая літаратура" выдала невялікі зборнічак вершаў Васіля Супруна пад назвай "Крык" з прадмовай прафесара Алега Лойкі. Вершы ў ім былі напоўненыя духоўнай сілай і верай, нязломнасцю духа ды бясконцай любоўю да роднага краю:

*Так, каб жыць, каб тварыць, каб змагацца, любіць,*
*Трэба ўмець супроць хваляў і гора*
*Непакорна плысці, сваё Заўтра знайсці –*
*Яно лепей, чым нашае ўчора.*

Потым свет пабачылі яшчэ некалькі кніг вершаў і краязнаўчых артыкулаў Васіля Супруна. Яго прынялі ў Саюз беларускіх пісьменнікаў.

Васіль Супрун быў вельмі таленавітым чалавекам. Ён умеў добра фатаграфаваць, маляваць, выдатна іграў на скрыпцы, любіў прыроду. Некалькі разоў ён звяртаўся ў вышэйшыя мінскія інстанцыі, каб яго рэабілітавалі, так і не дачакаўся гэтага. Але для тых, хто ведаў Васіля Рыгоравіча, ён застаўся маральным аўтарытэтам назаўсёды.




*Кнігі Васіля Супруна*

## Ён дапамагаў Ларысе Геніюш

З 85-гадовым Вячаславам Берастоўскім пазнаёміўся нядаўна. Жыве ён у Слоніме адзін, бо жонка некалькі гадоў таму памерла. Вячаслаў Канстанцінавіч, нягледзячы на свой сталы ўзрост, выглядае даволі ўпэўнена і моцна. Высокі і прыгожы мужчына сустрэў мяне ветліва і шчыра. Невялікая дзвюхпакаёвая кватэра нагадвае своеасаблівы музей. Асабліва прыцягваюць увагу круглыя драўляныя рамачкі з надпісамі і партрэцікамі. На адной з іх – Тадэвуш Касцюшка і тэкст: “Воля, роўнасць, незалежнасць”. На другой круглай рамачцы пазнаю Міхала Казіміра Агінскага і тэкст: “Слонім, М.Агінскі”. На трэцяй – буслы ў гняздзе і словы: “Воля і гонар. Жыве Беларусь”. “Гэта маё хобі, я з маленства люблю што-небудзь майстраваць з дрэва”, – прызнаўся Вячаслаў Канстанцінавіч.

Атрымаць вышэйшую адукацыю ў жыцці слонімец не змог. Амаль усе гады ён адпрацаваў токарам на слонімскай фабрыцы “Тэкстыльшчык”. Але ён пра гэта не шкадуе. Бо была праца, добрая сям’я, выгадавалі дзяцей, растуць унукі і праўнукі. А яшчэ Вячаслаў Канстанцінавіч вельмі цікава і доўга можа распавядаць пра сваіх сваякоў і родных людзей, якія жылі ў ХХ стагоддзі і якімі ён да сённяшніх дзён ганарыцца і часта ўспамінае. Прыгадаў Вячаслаў Канстанцінавіч і свайго дзеда Васіля Берастоўскага,

які ў Слоніме летам 1944 года выратаваў лакамабіль. А справа была вось як.

10 ліпеня 1944 года савецкія войскі ўвайшлі ў Слонім. Гарматныя раскаты яшчэ патрасалі паветра, непрыбіты дажджом попел дыміўся на руінах. Загарэлыя чырвонаармейцы імкліва рухаліся на Захад. Ад груды развалін, дзе ўзнімаліся клубы дыму і чырвоныя языкі полымя сям-там далізвалі абгаркі разбуранага лесазавода, аддаліўся чалавек. Не выпускаючы з рук рыдлёўкі, ён заклапочана паказваў на пажарышча: “Сыночкі, дапамажыце, аднаму не пад сілу. Перакінецца агонь – згарыць машына”. “Куды перакінецца? Якая машына?”, – пыталіся стомленыя салдаты. “Новенькаму лакамабілю, што стаіць побач, пагражае знішчэнне”, – адказваў Васіль. Байцы хутка зразумелі. Разам з Берастоўскім яны выратавалі лакамабіль. І пайшлі далей. Але Васіль не пакідаў пажарышча. Ён вінцік за вінцікам сабіраў і складваў усё, што можа спатрэбіцца для аднаўлення завода. На беразе ракі Шчары з’явіўся збіты з абгарэлых дошак склад. Сюды, як найбольшыя каштоўнасці, зносіў Васіль рэшткі абсталявання. І кожны раз, калі ён праходзіў каля лакамабіля, шчыра накіроўваў свой позірк на ўцалелую машыну. І глыбока ў сэрцы старога тлеў агеньчык веры і надзеі.

Неўзабаве са Слоніма і з навакольных вёсак адзін за адным пачалі з’яўляцца на пажарышча людзі, рос калектыў будаўнікоў. На расчышчанай пляцоўцы першую цагліну ў падмурак паклаў дзед Вячаслава Берастоўскага Васіль. А хутка наступіў і самы радасны дзень: сцёрты з зямлі слонімскі лесазавод № 16 даў першую прадукцыю…

Гэта адзін з успамінаў Вячаслава Берастоўскага. А такіх гісторый слонімец мог распавядаць сотні. “Ці праўда, – пытаюся ў Вячаслава Канстанцінавіча, – што вы былі знаёмыя з беларускай паэткай Ларысай Геніюш, якая жыла ў Зэльве?”. “Так, – адказвае Васіль Берастоўскі. – Я сустракаўся з ёй тры разы ў Зэльве…”. І стары слонімец пачынае прыгадваць той час і хуткія спатканні ў гарадзе над Зальвянкай.

Справа ў тым, што ў 1930-х гадах цётка Вячаслава Берастоўскага Алімпіяда была замужам за Аляксандрам Панасікам.



*Вячаслаў Берастоўскі*

Спадар Аляксандр быў даволі багатым чалавекам, у Зэльве ён меў некалькі будынкаў, у адным з іх пасля вайны знаходзілася пошта. Кім працаваў і чым займаўся спадар Панасік – Берастоўскі не ведае. І куды ён знік, як прыйшла ў 1939 годзе ў Зэльву савецкая ўлада, таксама ніколі не чуў. Магчыма, Аляксандра Панасіка арыштавалі органы НКУС і расстралялі. А жонка яго Алімпіяда Панасік з дачкой выехалі ў Польшчу і жылі ва Ўроцлаве. Алімпіяда больш замуж ніколі не выходзіла. Але ў той час, калі ўсе да вайны шчасліва жылі ў Зэльве, Панасікі шчыра сябравалі з Ларысай Геніюш. Яны хадзілі адзін да аднаго ў госці, у іх былі маленькія дзеці: у Алімпіяды – дачка, у Ларысы – сын Юрка, які нарадзіўся ў 1935 годзе ў Зэльве.

– Першы раз я паехаў у Зэльву ў 1968 годзе, – пачаў успамінаць Вячаслаў Берастоўскі. – Мяне туды завёз сябра на матацыкле. Прывёз ён на Зэльвенскую аўтастанцыю. Там я адразу ўзяў зваротны білет на аўтобус у Слонім. Калі купіў білета, то хуценька



*У першым радзе сядзяць: Аляксандр Панасік і яго жонка Алімпіяда Панасік, стаяць: Аксана Садоўская і Канстанцін Берастоўскі – бацька Вячаслава Берастоўскага, Зэльва, 1929 г.*

пайшоў шукаць вуліцу і хату. Недалёка ад хаты да мяне падыйшла нейкая жанчына і спытала: ці не Ларысу Антонаўну я шукаю? Я сказаў, што менавіта так. Потым неяк непрыкметна з'явілася і сама паэтка, якой я хутка перадаў 500 савецкіх рублёў па тым часе. Яна іх ўзяла і адразу схавала. А мне ў рукі дала адну срэбную манету (сярэбранік). Я ўзяў манету і хуценька пайшоў на аўтастанцыю, бо праз пэўны час павінен быў прыехаць аўтобус да Слоніма. Білет у мяне ўжо быў. На аўтастанцыі да мяне падыйшоў невядомы мужчына і спытаў да каго я ў Зэльву прыязджаў. А потым сам дададаў: да паэткі? Я сказаў, што да паэткі і купіў у яе сярэбранік. Але далей наша размова спынілася, бо прыехаў аўтобус і я заскочыў у салон. А мужчына мне ў адказ яшчэ паспеў сказаць: мы яшчэ сустрэнемся і спадзяюся хутка. Але я ўжо ад'язджаў у Слонім.

– Ці чапаў Вас хто пасля гэтага першага візіту ў Зэльву?

– Не, ніхто.

– А хто Вас накіраваў у Зэльву да Ларысы Геніюш?

– Цётка мая, якая жыла ў Слоніме. Яна неяк мне сказала, што ў Зэльве жыве адна бабка, вельмі трэба ёй завесці грошы, але так, каб ніхто мяне не бачыў там і зрабіць гэта трэба як найхутчэй. Бо выканаць такую просьбу прасіла цётка Алімпіяда Панасік з Уроцлава – сястра майго бацькі. Гэту цётку я бачыў у жыцці толькі два разы.

– Потым Вы зноў вазілі грошы Ларысе Геніюш. Так?

– Другі раз у Зэльву я паехаў рэйсавым аўтобусам у 1969



*Алімпіяда Панасік – сяброўка Ларысы Геніюш. Зэльва, 1929 г.*

годзе. Быў я больш смялейшым, бо ведаў, дзе яе хата. Выйшаў у Зэльве на аўтастанцыі і смела пайшоў у належным кірунку. Смела ўвайшоў у хату і прывітаўся. Ларыса Антонаўна была ў хаце адна. Жылі Геніюшы дужа сціпла, гэта было бачна. Я перадаў грошы, Ларыса Антонаўна паставіла на стол чакушку нейкай настоечкі, мы па чуць з ёй выпілі, яна спытала, як жыве цётка Алімпіяда, і я хуценька пабег на аўтастанцыю. Ніхто мяне не затрымліваў і не чапаў...

А трэці раз я вазіў дапамогу Ларысе Антонаўне ў 1972 годзе. Калі прыйшоў да яе ў хату, яна хацела мяне пачаставаць, але я сказаў, што мне нельга тут доўга затрымлівацца. Паэтка абняла мяне, паляпала па плячы, і я пайшоў на аўтастанцыю...

Калі Вячаслаў Берастоўскі наведаў польскі горад Ольштын і гасціў у роднай бацькавай сястры Аксаны Садоўнік, другая цётка з Уроцлава Алімпіяда Панасік кампенсавала ўсе фінансавыя сродкі, якія былі перададзены Ларысе Геніюш. Цётка Алімпіяда шчыра дзякавала за дапамогу і казала, што Ларыса Геніюш – гэта наша сапраўдная змагарка і патрыётка і дапамаць ёй – гэта для яе быў найвялікшы гонар у жыцці.

Даследчык творчасці Ларысы Геніюш Міхась Скобла неяк сказаў, што Алімпіяда Панасік у 1943 годзе сустракалася з Ларысай Геніюш у Празе...

Дарэчы, у тыя 1968-1972 гады, жывучы ў Зэльве, Ларыса Геніюш шчыра сябравала і перапісвалася з Міколам Прашковічам, Ірынай Крэнь, Алесем Белакозам, Юркам Голубам, Зоськай Верас, Сяргеем Панізьнікам, Адамам Мальдзісам, Максімам Тан-

кам ды іншымі. Сяброў тады ў нашай паэткі і патрыёткі было шмат, але і ворагі вакол яе не драмалі…

Калі я развітваўся з Вячаславам Берастоўскім, ён сказаў, што даўно не быў у Зэльве і вельмі хоча паглядзець на хату, дзе жыла Ларыса Геніюш, наведаць яе магілу на мясцовых могілках. Я паабяцаў Вячаславу Канстанцінавічу, што мы туды ў бліжэйшы час абавязкова з’ездзім.



*Ларыса і Янка Геніюшы на ганку сваёй хаты ў Зэльве*

# Будзіць беларускае сумленне




*Міхась Скобла забірае шыльду з Зэльвенскага РАУС*

Беларускі пісьменнік і журналіст Міхась Скобла шмат зрабіў і робіць дзеля ўшанавання памяці Ларысы Геніюш. З яго добрай рукі з друку выйшлі яе «Выбраныя творы» (Мінск, 2000) «Каб вы ведалі: з эпісталярнай спадчыны 1945–1983 г.» (Мінск, 2005), «Лісты з Зэльвы» (Гародня–Уроцлаў, 2012), «Асоба і час: Ларыса Геніюш» (Мінск, 2010), Збор твораў у 2 тамах (Мінск, 2010) і іншыя. А гадоў восем таму паразмаўляў з ім пра  Ларысу Геніюш. Гэтая гутарка застаецца актуальнай і сёння.

– Міхась, давай пагутарым пра нашу вялікую і мужную паэтку Ларысу Геніюш. Тым больш, ты нямала зрабіў па ўшанаванні яе памяці, выдаў некалькі збор-

нікаў яе твораў і эпісталярнай спадчыны. Нядаўна ў Беластоку выйшла аўдыёкніга Ларысы Геніюш «Птушкі без гнёздаў» – начытаная народнай артысткай Беларусі Зінаідай Бандарэнкай «Споведзь». Пад гэткай жа зmененай назвай рыхтуецца і выданне ўспамінаў пісьменніцы на польскай мове. Ці варта было мяняць назву, якая ўжо прыжылася?

– Гэта звычайная практыка – калі пэўны твор у перакладным варыянце набывае новую назву. Скажам, многія кнігі Васіля Быкава ў перакладзе ці пасля экранізацыі атрымлівалі абсалютна адрозныя ад аўтарскіх назвы. Прыкладам, «Сотнікаў» стаў «Узыходжаннем». Што да назвы «Птушкі без гнёздаў», то гэтая назва, кажучы бюракратычнай мовай, ужо запатэнтаваная – так называўся пастаўлены на «Беларусьфільме» ў сярэдзіне 1990-х гадоў па «Споведзі» мастацкі фільм. Ён дрэнны ва ўсіх адносінах, апрача, хіба, ролі Васіля Захаркі, якую выканаў Павал Кармунін. Рэжысёр Віталь Дудзін увёў у фільм эпізоды, якіх не было і не магло быць у тэксце Ларысы Геніюш. Скажам, у адным з такіх эпізодаў Ларыса Антонаўна ўцякае ад польскіх паліцыянтаў, хаваючы за пазухай чырвоны сцяг… Я гады два таму размаўляў з выканаўцай ролі Ларысы Геніюш артысткай Маладзечанскага тэатра Таццянай Кавалеўскай, дык яна прызналася, што паняцця не мела пра «Споведзь», не разумела, каго яна грае; ёй падсунулі расейскамоўны сцэнар і спехам адправілі на здымачную пляцоўку… Так што на месцы выдаўцоў і спадчыннікаў я не стаў бы вяртацца да назвы «Птушкі без гнёздаў». Мемуары Ларысы Геніюш пад назвай «Споведзь» выходзілі ў свет ужо шэсць (!) разоў, пад гэтым знакавым імем яны ўжо замацаваліся ў чытацкай свядомасці. Споведзь – гэта ж не толькі замольванне нейкіх грахоў, спавядацца – гэта распавесці шчыра, нічога не хаваючы. Я так разумею.

– Чаму да Ларысы Геніюш у Беларусі да гэтай пары нейкае няпэўнае стаўленне? З аднаго боку, выходзяць яе кнігі (у тым ліку і ў дзяржаўных выдавецтвах), экранізуюцца яе творы. З другога боку – яе стогадовыя ўгодкі ў Зэльве адзначаць было забаронена, памятную шыльду з яе хаты зэльвенскія ўлады знялі.

– Звязана гэта з тым, што Ларыса Антонаўна па сённяшні

дзень застаецца нерэабілітаванай. Абсурд поўны – даўно няма той краіны, якая яе асудзіла, у сучасным беларускім прававым кодэксе і блізка няма артыкулаў, якія ёй інкрымінаваліся («спрыянне сусветнай буржуазіі» і г. д.), а пісьменніца да гэтай пары лічыцца злачынцам. У пачатку 1990-х гадоў рэабілітацыяй рэпрэсаваных за саветамі грамадзян займалася камісія ў Вярхоўным Савеце, якую ўзначальваў Ніл Гілевіч. І я ў яго спытаўся: «Ніл Сымонавіч, як так сталася, што ў вялікі спіс рэабілітаваных не трапіла Ларыса Геніюш?» І ён мне шчыра прызнаўся: «Забыліся». Сучасныя ідэолагі гэта скарыстоўваюць. Плюс тое, што Геніюшы жылі ў акупаванай немцамі Празе, удзельнічалі ў працы беларускіх грамадскіх арганізацый. Адзін высокапастаўлены чыноўнік напярэдадні 100-годдзя паэткі мне так і заявіў: «Какое ўшанаванне? Она же состояла в переписке с Гитлером!» Вось такі дурдом у асобна ўзятай галаве... Ларыса Геніюш і сучасны антыбеларускі рэжым – рэчы несумяшчальныя. Таленавітая і праўдзівая творчасць Геніюш будзіць беларускае сумленне, служыць гэткай своеасаблівай прышчэпкай ад страху. У сённяшняй Беларусі Ларыса Геніюш выконвае тую ж ролю, якую ў XIX стагоддзі выканаў Францішак Багушэвіч, а ў першай палове XX стагоддзя Янка Купала. І значнасць яе творчасці будзе з цягам часу толькі ўзрастаць.

– У цэнтры Зэльвы стаяць помнікі Леніну і жарабяці... Ці з'явіцца калі ў горадзе помнік Ларысе Геніюш?

– Ён ужо з'явіўся – на цвінтары зэльвенскай Свята-Троіцкай царквы. Калі яго ў 2003 годзе ўсталявалі, зэльвенскае начальства месца сабе не знаходзіла. Выклікалі мясцовага святара айца Аляксандра ў выканкам і загадалі ў трохдзённы тэрмін помнік дэмантаваць. А той адказвае чыноўнікам: «Дабраславенне на ўсталяванне помніка ад Уладыкі Філарэта маю, а на дэмантаж – не». Так помнік і застаўся – рукі ў начальства аказаліся закароткімі. І цяпер штогод 9 жніўня каля гэтага помніка мы праводзім ушанавальныя імпрэзы. Прайшла там і прэзентацыя кнігі Ларысы Геніюш «Лісты з Зэльвы». У царкве, дарэчы, два гады таму святаром айцом Георгіем была адкрытая невялікая музейная экспазіцыя, прысвечаная Геніюш, поруч, праз дарогу –

хата. Так што без санкцыі ўладаў у Зэльве ўзнік цэлы музейны комплекс пісьменніцы. А на плошчы, пад вокнамі выканкама – помнік каню. Што ж, кожнаму – сваё. Хай на каня глядзяць. Конь у спалучэнні з Леніным – вельмі арыгінальнае архітэктурнае рашэнне. Гэта вельмі яскрава сведчыць пра культурны ўзровень сённяшніх зэльвенскіх уладаў.

– Ты падрыхтаваў да выдання зборы эпісталярнай спадчыны Ларысы Геніюш «Каб вы ведалі» (2005) і «Лісты з Зэльвы» (2011). Ці шмат яшчэ нявыдадзеных лістоў?

– У згаданых табою кнігах, а таксама ў «Выбраных творах» (2000), юбілейным двухтомніку (2012) і альманаху «Асоба і час» (2012) мною апублікавана больш за 1200 лістоў Ларысы Геніюш. Я называю іх Геніюшаўскім летапісам, у якім зафіксаваны безліч самых розных падзеяў – эпахальных і прыватных. Публікацыя прыватных лістоў заўсёды спалучаная з пэўным сумневам: што ў людскіх адносінах можна выносіць на суд чытача, а што – не. Тым большае гэты сумнеў, калі лісты належаць нейкай вялікай асобе, чыё прыватнае жыццё паступова ператвараецца ў жыццяпіс і аб’ект для адмысловых даследаванняў. Падобныя сумневы давялося перажыць і мне, я стараўся да купюравання лістоў звяртацца як мага радзей. Памятаю, доўга раіўся з людзьмі, якія сябравалі з Ларысай Антонаўнай, якія разумеюць значнасць кожнага яе слова. Вось што напісала мне паэтка Данута Бічэль у лісце ад 18 сакавіка 2010 года адносна друкавання лістоў, у якіх закраналіся сямейныя адносіны Геніюшаў: «Прыватныя лісты – гэта самыя праўдзівыя сведкі часу, бо яны пасылаюцца непасрэдна ад сэрца да сэрца. Гэтыя лісты каштоўныя дэталямі, якія звычайна губляюцца ў памяці, каштоўныя эмоцыямі паэткі. Што да адносінаў Ларысы Геніюш з нявесткай Валянцінай, то яны развіваліся ў традыцыях нашага этнасу – класічна. Віна нявесткі перад свекрывёй была толькі ў тым, што Валя прымала свякроў па-хатняму, як свякроў, а не як вялікую паэтку і пакутніцу. Гэта неяк павінны зразумець і чытачы, і Валянціна, і нашчадкі. Чытанне лістоў – гэта акт любові, які вучыць нас любіць яшчэ мацней». Мне здаецца, Данута Бічэль мае рацыю – кожная дэталь у жыццяпісе вялікага чалавека каштоўная. Але публікацыі чакаюць

не толькі пазасталыя лісты Ларысы Геніюш (іх шмат; прыкладам, толькі ў архіве Зоські Верас зберагаецца 307 лістоў), але і невядомыя вершы. Архіў Ларысы Антонаўны ў бібліятэцы Нацыянальнай Акадэміі Навук, які калісьці ўратаваў і вывез з Зэльвы прафесар Адам Мальдзіс, яшчэ мала дачледаваны. Я працую ў ім ужо гадоў дзесяць, але яшчэ не ўсе папкі дэталёва прагледзеў. Заклікаю даследчыкаў далучацца да геніюшазнаўства. Бо аўдыёкніга і зборнік «Маці і сын», выдадзены ў Беластоку ў 1992 годзе, – даробак сціплаваты. Калі я чую, што ў Беларусі мала выдаецца і даследуецца спадчына Ларысы Геніюш, што Ларыса Геніюш – гонар Беласточчыны, бо род яе паходзіць адтуль, то мне хочацца ўсклікнуць у стылі сярэдневяковых рытараў: «Пяро і кампутар вам у рукі, спадары! Працы – непачаты край, і разам мы зробім нашмат болей».

– А што новага і цікавага ты знайшоў за апошнія гады з жыцця і творчасці Ларысы Геніюш?

– З ласкі дырэктара Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганны Запартыкі я цяпер апрацоўваю перапіску Ларысы Геніюш і Кастуся Езавітава. Сярод іншага там гаворка ідзе пра архівы БНР… А зусім нядаўна мне патэлефанавала незнаёмая спадарыня Вікторыя Тарасевіч з Гародні і сказала, што гатовая перадаць у дар аўтэнтычны зборнік Ларысы Геніюш «Ад родных ніў» (1942). Я адклаў усе справы і паехаў у Гародню. Мы сустрэліся, і я пачуў незвычайную гісторыю. Муж Вікторыі Палікарпаўны Георгій Тарасевіч (пазней – вядомы архітэктар) быў вывезены на прымусовыя работы ў Нямеччыну і там набыў кнігу Геніюш. Ён пранасіў яе с сабою тры гады, нават у шахце з ёю не расставаўся, амаль усю вывучыў на памяць. А пасля таго, як Ларыса Геніюш вярнулася з савецкага лагера, ён паехаў да яе ў Зэльву з тою зачытанай літаральна да дзірак кнігай. Прызнанне ў любові ад такога чытача да слёз узрушыла Ларысу Антонаўну, яна пра гэта напісала ў адным з лістоў. Кніга без вокладкі, у ёй не хапае ўсіх старонак, але і ў такім выглядзе яна мне найдаражэй за любыя кніжныя рарытэты.

2012 г

## Аўтары – маці і сын

Беларускае літаратурнае аб’яднанне «Белавежа», якім кіруе Ян Чыквін, выпусціла ў Беластоку кніжку «Маці і сын» (Беласток, 1992). Пад вокладкай – раней невядомыя вершы Ларысы Геніюш і паэтычныя абразкі яе сына Юркі Геніюша.

Вершаваная падборка Ларысы Геніюш названа «Сэрца». Добрая назва, бо ўсе вершы тут сапраўды напісаны ад шчырага сэрца, з вялікай любоўю да Беларусі, яе людзей, з любоўю да нашай роднай зямлі. Уступнае слова «Яна лічыла сябе яцвяжкай» да вершаў паэткі напісала Данута Бічэль: «Ларыса Геніюш і яе хата, як сонейка, прыцягвалі ўсё яшчэ жывое на Беларусі – пісьменнікаў, мастакоў, навукоўцаў, сялянак. І ўсе бітыя, пакрыўджаныя, параненыя знаходзілі той ганак удзень і ўночы, стукалі ў сенцы, не зважаючы на суседку, якая бяссонна стаяла на варце ў суседніх дзвярах. Іх там кармілі, адпойвалі, суцяшалі словамі…».

Сапраўды так, бо толькі сэрцам можна напісаць радкі:

*Не хачу быць дома эмігрантамі!*
*Гаспадыня тут я – а ня госьць!*
*Гаварыць на дзікім «эсперанта»,*
*Калі мова матчыная ёсць?!*



*Ларыса Геніюш з сынам Юркам*

Трыццаць дзевяць невядомых раней вершаў Ларысы Геніюш увайшлі ў беластоцкі зборнік «Маці і сын». Кожны радок і кожная страфа адметныя тым, што яны трывала прывязаны да родных ніў, родных беларускіх хат, дзе спрадвечна і нязгасна жывуць лепшыя традыцыі і звычаі беларусаў.

Ларыса і Юрка Геніюшы амаль усё жыццё жылі ў ростані. Сустракацца выпадала рэдка. І гэта добра, што пад адной вокладкай, пад адным літаратурным дахам сышліся яны – маці і сын. Падборка Юркі Геніюша мае назву «Да свету». Яе напісаў Сакрат Яновіч. Прадмова невялікая, але шчырая і простая: «Юрка Геніюш пісаў мала, няшмат пакінуў у спадчыну існа літаратурных твораў. Больш займаўся публіцыстыкай, якая, як вядома, рэдка вытрымлівала выпрабаванне часам. Засталося па ім – колькі вершаў, нізка паэтычнае прозы, трохі апавяданняў, некалькі п’ес (для дзяцей сцэны перша за ўсё)...».

Талент Юркі Геніюша больш праявіўся ў паэтычнай прозе. Менавіта яна ў асноўным і прадстаўлена ў гэтай кнізе. Яго ма-




ленькія розныя па тэматыцы лірычныя абразкі чытаюцца лёгка, зразумелыя ўсім. Сюды, праўда, увайшло і некалькі вершаў, якія напісаны на фальклорна-міфалагічнай аснове.

Шмат можна пісаць і разважаць над творамі Геніюшаў. Але хочацца проста шчыра і сардэчна падзякаваць беларускім літаратарам з Беласточчыны за добрую кніжку твораў тых, каго мы любім і цэнім. Такое выданне ў гісторыі беларускай літаратуры ажыццёўлена ўпершыню, а гэта ж вялікая радасць – пад адною вокладкаю выдаць творы маці і сына.

1992 г.



*Паэтка Данута Бічэль выступае ў Зэльве, 2015 г.*

## Са званіцы Юркі Геніюша

У лістападзе 1985 года з Беластоку прыйшла сумная вестка: памёр Юрка Геніюш, таленавіты беларускі празаік, драматург, паэт і публіцыст, сын Ларысы Геніюш.

Па трагічных для сям'і Геніюшаў абставінах большую частку свайго жыцця пражыў без бацькоў у Беластоку. Тут пабудаваў свой дом, меў добрую сям'ю. Пісьменніцкі лёс Юркі Геніюша непарыўна звязаны са станаўленнем і развіццём беларускага тыднёвіка «Ніва» і Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы, у дзейнасці якога ён прымаў актыўны ўдзел.

Дэбютаваў Юрка Геніюш на старонках «Нівы» у кастрычніку 1964 года – гэта было апавяданне «Прыкметы». Пісаў Юрка Геніюш таксама і сцэнічныя творы. Прыкладам можа служыць «Зборнік сцэнічных твораў», які ён выдаў у 1976 годзе ў Беластоку супольна з Сакратам Яновічам. Пахаваны пісьменнік Юрка Геніюш у Беластоку, на праваслаўных могілках, у Петрашоўскім квартале горада.

У 1993 годзе праграмная рада тыднёвіка «Ніва» ў Беластоку з удзелам Міністэрства культуры і мастацтва Рэспублікі Польшча, якое было фундатарам, выдала асобную празаічную кнігу Юркі Геніюша «З маёй званіцы». У кнігу ўвайшлі фельетоны, гумарыстычныя абразкі і апавяданні. Празаік трапна, лаканічна,



*Усе Геніюшы разам*

у звычайнай вобразнай форме расказвае пра смешныя моманты з жыцця сваіх землякоў. Аб чым толькі ён не гутарыць! Чаго тут чытач не пачуе! Чаму ў каровы хвост уніз расце? Чаму пра цябе адну мару, найхарашэйшая мая? Як чэрці свіней у балота сцягнулі? Як я сына ў сярэднюю школу кіраваў? На гэтыя і дзясяткі іншых смяхотлівых пытанняў дае жыццёвыя адказы Юрка Геніюш. Гэтыя адказы простыя і зразумелыя, як анекдоты. У іх шмат арыгінальных прыказак і прымавак, багата яркіх і запамінальных фразеалагізмаў, народных выслоўяў і рэплік: «шлюбнай жонцы ніколі ні ў чым не адмаўляй», «сабака брэша, дзеці пішчаць, жонка сварыцца, матор гудзе», «вочы ў зямлю ўваб'е», «сыцее і сыцее – пад нож даспявае», «пад лыжачкай смокча» і многія іншыя.

Творы Юркі Геніюша мне чымсьці нагадваюць прозу Андрэя Мрыя. Яны, кажучы словамі Максіма Гарэцкага, «агульнадаступныя, лёгкія, у духу свайго дня з рознымі слоўнымі эфектамі». Да кнігі «З маёй званіцы» невялікае слова згадкі напісаў Сакрат Яновіч. Ён, дарэчы, адзначыў: «Успамінаючы драматычную



*Ларыса Генілюш за кудзеляю*

смерць Юркі (20 лістапада 1985 года), прыходзіць на думку і такая канстатацыя: яго згубіў нядобры час! Будучы па сваёй натуры паэтам, ён балюча перажываў бясслаўную эпоху, прытым нажыўшы сабе ворагаў сярод грубаскурных здаволенцаў і наменклатурных паноў. Як кожны пісьменнік, дабіваўся друкавання, што было такому заняткам на тую пару вычарпальным. Выхаваны ў стараеўрапейскай Празе і маючы бацькоў патомных інтэлігентаў, не паддаваўся маніпуляцыі. Не дазваляў калечыць свае тэксты. Не пагаджаўся запісваць у іх тое, чаго не напісаў. І ён заплаціў гэтую чортаву даніну – не толькі ў выглядзе неапублікаванага, але таксама хваробамі, стратай нерваў, урэшце, заўчаснай смерцяй у свае пяцьдзясят».

1994 г.



*Сакрат Яновіч*

## “Снуецца з песнямі льняное прадзіва”

Вывучаючы беларускія народныя песні, паэтка Ларыса Геніюш і сама шмат распрацавала матываў народнай творчасці. У сваёй літаратурнай дзейнасці яна заўсёды звярталася да фальклору як да крыніцы, якая можа даць для творчасці кожнага паэта ўзоры высокай мастацкай вобразнасці і паэтычнага майстэрства. Паэзія Ларысы Геніюш была простай, мудрай, народнай:

*Не згінай мяне, я не сагнуся,*
*Не баюся ні страхаў, ні зла.*
*Нездарма я з зямлі беларускай*
*Непахіснай сасною ўзрасла.*

Першыя вершы паэтка напісала яшчэ да вайны. У іх выказаны пратэст супраць сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту заходнебеларускага насельніцтва, вера ў тое, што, нарэшце, узыдзе «волі зелейка», якое трэба паліваць не толькі слязьмі, але і «крывёю ўласнай». Лірычны герой праграмнага верша «Тры дарогі» (1937) свядома выбірае шлях служэння свайму народу,

сваёй Бацькаўшчыне. З кожным годам лірыка Ларысы Геніюш станавілася ўсё больш аптымістычнай. Склад думак паэткі, выяўлены ёю ў мастацкіх творах, вызначаецца сваёю народнасцю. Паэтычная вобразнасць, матэрыялам для якой служыць жыццё і побыт працоўнага чалавека, прастата і задушэўнасць, якімі прасякнуты яе творы – усё гэта ідзе ад народнай творчасці, ад фальклору:

*Што тут было – зямлі амаль няўцям,*
*Мінае ўсё у ветру перагудзе.*
*Галоўнае – пульс вечнага жыцця,*
*Галоўнае, што заўтра ў полі будзе.*

Народнай творчасцю абумоўлены многія асаблівасці паэтычнай мовы Ларысы Геніюш, яе выразнасць і лаканічнасць. Традыцыйныя эпітэты і азначэнні, якія часта сустракаюцца ў мове паэткі, ідуць ад фальклору: дубовае карыта, шэрае беднае зрэб'е, цуглі срэбныя, льняное прадзіва, слязінка скупая, адвечная роля, нітка льняная… Сувязь яе з фальклорам выявілася ў характары параўнанняў, якія ўжываліся паэткай:

*Не зязюлька пяе ля ракі –*
*Тчэ дзяўчына сабе ручнікі.*
*Раным раннем ўсё стук, стук, стук,*
*А чаўночак слізгаецца з рук.*

На народны матыў напісаны верш «Дзяўчына»: пан загледзеўся на прыгожую дзяўчыну, у якой «цвілі вясной ясна вочанькі ў полі сінімі васілёчкамі». Ён хоча, каб яна стала яго жонкай і жыла ў «месце каменным». Але дзяўчына адмовілася:

*Не пакінула ракі Нёмана,*
*Ні лясоў сівых з ціхім гоманам.*
*Сяла роднага, краю мілага,*
*Каб быць паняю, не пакінула.*
*У сяле сваім песняй, словамі*
*Сэрца цешыла Міхасёвае.*

Фальклорныя вобразы, фальклорная рытміка ўдала вы-

карыстаны ў вершах «Явар з ветрам хіліўся», «Над рэчкаю», «Дзед», «У сёлах даўно не прадуць» і г. д. Звяртаючыся да народных узораў, паэтка ўзнімае іх да вышынь сапраўднай сучаснай паэзіі.



*На Зэльвеншчыне гэткую хустку называлі “казьмяроўка”*

Ёсць у Ларысы Геніюш і паэма «Куфар», напісаная ў 1965 годзе. Разам з аўтарам чытач адчыняе века старадаўняга бабулінага куфра і любуецца адмыслова вытканымі посцілкамі і палотнамі, дыванамі і хусткамі, паясамі і світкамі. Даматканыя вырабы ўвабралі ў сябе ўсе колеры вясёлкі. Яны захоўваюць цяпло чалавечых рук, якія выткалі ўсю гэту прыгажосць. Таму паэма «Куфар» успрымаецца як гімн чалавеку-працаўніку, чалавеку-мастаку. Частае ўжыванне паэткай паўтораў таксама ідзе ад народнай творчасці, для якой гэты прыём з’яўляецца вельмі характэрным:

*Ваду конікі пілі чыстую,*
*Хвалі беглі ў даль серабрыстую,*
*Пілі конікі, напіваліся,*
*Вочы хлопцавы недзе рваліся.*

У прадмове да кнігі вершаў «На чабары настоена» Данута Бічэль адзначыла: «Ларыса Геніюш стварае свае вершы, быццам прадзе дзівосны кужаль і тчэ на бабуліных кроснах узоры

ў ромбікі з беларускіх патаемных слоў...». Ткацтва, прадзіва – улюбёныя дэталі мастацкіх знаходак Ларысы Геніюш. Як нашы бабулі ўмелі па-майстэрску ткаць на кроснах дзівосныя ромбікі, так і Ларыса Антонаўна ўмела выкарыстаць ткацкае рамяство ў паэзіі:

*Снуецца з песнямі льняное прадзіва,*
*Пасаг бы з кужалю танчэй саткаць.*
*Жартоўна кросенцы мае разладзілі,*
*Уток заблыталі – не разблытаць.*

У вершах, якія звязаны з народнай творчасцю, мацней адчуваецца еднасць Ларысы Геніюш з Бацькаўшчынай, для шчасця і росквіту якой яна аддала ўсе свае сілы:

*Адзінай мэты не зракуся*
*І сэрца мне не задрыжыць:*
*Як жыць – дык жыць для Беларусі.*
*А без яе – зусім не жыць.*

*****

*Сярод бураў стыхіі сусветных*
*Мы сягодня ў імклівых радах.*
*Беларусь – наша светлая мэта,*
*А над намі крывіцкі наш сцяг.*

*****

*Народнае шчасце мы выкупім ў бої,*
*Пад вёсны засеем зялёную рунь –*
*Шумець будуць нівы над вольнай Дзвіною,*
*Над Бугам, над Нёмнам: "Жыве Беларусь!".*

# Эпісталярны раман Ларысы Геніюш

Гэту кнігу міжволі ўзважваеш на далоні, нібы ёмістую цагліну з гістарычнага падмурку Беларушчыны. Узважваеш з нялёгкім уздыхам: глыбока ў душу, трывожна і пранікліва яна, гэта кніга, углядаецца вачыма мужнай і таленавітай беларускай паэткі Ларысы Геніюш. Гэта кніга незвычайная і арыгінальная. Кніга, якую чытаеш як гістарычны раман. Падобнага выдання ў Беларусі яшчэ не было. Яшчэ ніколі не выходзіла эпісталярная спадчына асобным выданнем у Беларусі ні пісьменнікаў, ні вучоных, ні палітыкаў. Нарэшце напачатку XXI стагоддзя такое выданне ў нашай рэспубліцы з'явілася. Вядома, беларусы спазніліся, можа, на цэлае стагоддзе ў плане выдання эпісталярнай спадчыны асобнымі выданнямі. А выдаваць у нас ёсць каго. Найперш гэта лісты У. Сыракомлі, А. Вярыгі-Дарэўскага,



В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, А. Ельскага, Я. Лучыны, А. Гурыновіча, Я. Купалы, М. Багдановіча, У. Караткевіча, М. Танка, В. Быкава, З. Верас, У. Дубоўкі, Г. Леўчыка, А. і Л. Луцкевічаў, Г. Каханоўскага, дзеячаў беларускай эміграцыі і многіх-многіх іншых. Іх лісты ўжо друкаваліся на старонках зборніка «Шляхам гадоў», гадавіка «Скарыніч», часопісаў «Полымя», «Маладосць», «Куфэрак Віленшчыны», у зборах твораў. Але асобнымі выданнямі іх эпісталярная спадчына, на вялікі жаль, не выдавалася. Па выданнях эпісталярнай спадчыны мы адстаём ад палякаў, літоўцаў, украінцаў і рускіх. У Расіі амаль штомесяц выдаюцца ў розных выдавецтвах асобнымі кнігамі пісьмы вялікіх людзей, найперш пісьменнікаў. Вось нядаўна ў Іркуцку выйшла перапіска Віктара Астаф’ева з крытыкам Аляксандрам Макаравым пад назваю «Твердь и посох», свет пабачылі асобнымі выданнямі лісты С. Даўлатава, Д. Меражкоўскага да П. Перцава і іншыя.

Пісьменніцкі эпісталярый – гэта даволі рэдкі жанр (таму, магчыма, што пісьменнікі рэдка рэдка пішуць лісты з-за сваёй прафесіі і занятасці). Менавіта Ларыса Геніюш і стала першым за доўгія гады паэтам у Беларусі, чые лісты становяцца набыткам не вузкага кола спецыялістаў, а шырокіх чытацкіх мас. Эпісталярная спадчына Ларысы Геніюш пад назваю «Каб вы ведалі» дзякуючы Міхасю Скоблу, які беражліва, далікатна і прафесійна ўклаў пісьмы паэткі, напісаў да кнігі ўступнае слова, зрабіў каментарый, пабачыла свет у мінскім выдавецтве «Лімарыус» (2005 г.) накладам 500 асобнікаў.

Эпісталярная спадчына Ларысы Геніюш «Каб вы ведалі» – цэлы пласт яе жыцця і творчасці. У кнігу ўвайшлі 355 лістоў паэткі, якія былі ёю напісаны на працягу 38 гадоў, пачынаючы са студзеня 1945 да студзеня 1983 гадоў. Найперш гэта лісты, адрасаваныя яе мужу Янку Геніюшу, Міколу Прашковічу, Максіму Танку, Юрку Голубу, Зосьцы Верас, Міхасю Чарняўскаму, Міколу Канашу, Міколу Ермаловічу, Валянціне Трыгубовіч, Дануце Бічэль, Алесю Белакозу, Раісе ЖукГрышкевіч, сыну Юрку Геніюшу, Надзеі Караткевіч, Ірыне Крэнь і іншым. Найбольш у кнізе надрукавана пісем Ларысы Геніюш да літаратуразнаўцы, крытыка, перакладчыка, кандыдата філалагічных навук

Міколы Прашковіча (1932–1983), які ў свой час быў звольнены з Інстытута літаратуры за «беларускі нацыяналізм». Мікола Прашковіч быў самым актыўным карэспандэнтам Ларысы Геніюш. Копіі гэтых пісем (а іх ажно 156) перадала Міхасю Скоблу Ірына Крэнь – даследчыца беларускага школьніцтва, якой сёлета не стала. «Каб вы ведалі» – эпісталярны раман Ларысы Геніюш. Раман праўдзівы, шчыры, глыбокі, суб'ектыўны і аб'ектыўны. Ён нібы з'яўляецца працягам яе вядомай «Споведзі», гэта споведзь у лістах да сяброў, знаёмых, родных. Па пісьмах адчуваеш, як паэтка дасканала ведала гісторыю Беларусі, жыццё і дзейнасць знакамітых беларусаў. Па гэтых лістах можна напісаць падручнік па гісторыі Беларусі. Паэтка шкадуе і нават папракае сама сябе, што слаба ведае гісторыю Беларусі, хаця веды на ніве гісторыі ў яе на той час былі фенаменальныя. У пісьме да Міколы Прашковіча Ларыса Геніюш у студзені 1964 года пісала: «Будзе Вам праца, дарагі мой сябра, пакуль перагледзіце раскіданую па сьвеце 40-тамовую Мэтрыку Вялікага Княства Літоўскага. Я калісьці напісала паэму аб Рагнедзе. Я задыхалася ад нястачы матэрыялу. Гэта было ў Празе. Пасьля пачала пісаць аб Эўфрасіньні Полацкай, таксама не хапала матэрыялу. Я вымольвала начамі вобразы ў свае фантазіі. Адзін раз я з захапленьнем слухала даўгую лекцыю аб нашай Зофцы Гальшанскай, чацьвёртай жонцы караля Ягайлы. Яшчэ мне давялося чуць з рукапісу аб хрысціянстве на нашых землях. Ягайла ж быў хрышчаны да таго, як жаніўся зь Ядвігай і зусім ня быў горшы ад хваляных польскіх вяльможаў. Напрыклад, я ведаю, што Ядвіга залажыла ў Празе Чэскай інтэрнат для беларускай моладзі, якая там студ'явала...» .

Пісьмы Ларысы Геніюш вельмі падрабязныя, шчырыя і павучальныя. У многіх з іх паэтка дае парады, яны багатыя на крылатыя выслоўі, прыказкі, прымаўкі, прыгожыя, напышлівыя выразы, фразы. Вось некаторыя з іх: «Не дазваляйце болей забіваць...», «Плакаць – гэта абражаць памяць, а яна мусіць жыць...», «Прыяцеляў шаную, але кнігаў не пазычаю...», «Мацярынства – гэта незвычайная з'ява, гэта цуд!», «Інтуіцыя мінулага, адчуваньне сучаснага і прадбачаньне ці лягічнае прадчуцьцё будучых дзён, намаганьне іх сьветлага напрамку – вось вартасьць

паэта!», «Кожны чалавек – як казка», «Бог ня выдасьць – сьвіньня ня зьесьць!», «Паэзія – гэта нейкая ласка і дапамога нябёс у выказаньні і аб'яўленьні праўд і надзеяў, якія ўжо даў зь сябе народ, ня ведаючы аб гэтым. Паэзія, па-мойму, гэта прыгажосьць, сьмеласьць і праўда жыцьця. Паэзія – гэта гуманнасьць!».

У пісьмах Ларыса Антонаўна заўсёды прыгадвае свайго сына Юрку. Калі пісала са сталінскіх лагераў з Абезі, то хвалявалася: як там Юрка, што з ім, дзе ён? Калі ўжо жыла ў Зэльве, то цікавілася яго жыццём на Беласточчыне. Вельмі перажывала за тое, што сын любіў выпіць. А яна не любіла тых, хто часта заглядваў у чарку. У адным з лістоў да Міколы Прашковіча паэтка папярэджвае: «Я вельмі не хачу, каб Вы пілі хоць капельку гарэлкі!» Праз эпісталярную спадчыну Ларысы Геніюш праходзяць многія пісьменнікі, якіх паэтка любіла, ведала, з якімі сустракалася і перапісвалася. Яна добра разбіралася ў людзях, магла лёгка адрозніць, хто з іх таленавіты, а хто бяздар. І Ларыса Геніюш не памылялася. Вось што прарочыла і казала яна пра тады яшчэ маладых Вольгу Іпатаву, Яўгенію Янішчыц, Алеся Разанава: «Разанаў многаабяцаючы, будзем думаць, што вырасьце ў сілу, якая нам цяпер найболей патрэбная», «Усе мы з захапленьнем чыталі нашу маленькую, надзейную Янішчыц. Як добра, што яна далей вучыцца, але адначасова хацелася б, каб пабыла яшчэ сярод сваіх, каб больш увабрала ў сябе чараў, глыбіні, гутарак, духу і паху роднай зямлі. Яна – добры майстар і зможа ўсё гэта некалі ператварыць тонкай і сільнай жаночай рукою – у вялікае!», «Была ў нас некалькі разоў маладзенькая Оля Іпатава. Нам яна вельмі спадабалася – невялікая, прыгожанькая, разумная, сціплая. Уцякла пасьля нялюдзкіх зьдзекаў ад мачыхі ў дзятдом, гдзе ня чула слова беларускага (у Горадні!), а мова матчына – за ёю, і так цяпер хораша піша...» .

У пісьмах Ларысы Геніюш можна прачытаць добрыя словы і пра Васіля Быкава, Ніла Гілевіча, Янку Брыля, Максіма Танка. І нядобрыя словы пра тых жа Алеся Бажко, Якава Герцовіча, пра інтрыганку Паўліну Мядзёлку і пра іншых. Напісала аўтарка так, якімі яны былі на самой справе, напісала, каб мы ведалі. У пісьмах, якія склалі кнігу, хораша выяўлены ідэйнапалітыч-

ныя, эстэтычныя і творчыя погляды беларускіх, чэшскіх, рускіх, польскіх, нямецкіх, украінскіх дзеячаў літаратуры і мастацтва, культуры і палітыкі. Гэтая спадчына Ларысы Геніюш патрабуе сёння грунтоўнага навуковага даследавання. Эпісталярная літаратура – ад грэчаскага слова epistole – пасланне, пісьмо. Пасланне нашчадкам-беларусам XXI стагоддзя мы атрымалі ад народнай паэткі Беларусі. Праўда, гэта далёка не ўся яе эпісталярная спадчына. Але Ларыса Геніюш упэўнена вяртаецца на Беларусь не толькі вершамі, прозай, але і ліставаннем.

2005 г.



*Ларыса Геніюш з суседкай Зосяй Марцінчык з Каліноўскіх, пляменніцай Васіля Захаркі*

## Гаворкай роднаю заліваў тугу

Дастаю з паліцы кнігу “Беларуская Беласточчына” (Мн., 1973) і на старонцы 49 чытаю: “Бела. Бела. Бела і пуста. Вялізная спакуса. Дзе ж мае фарбікі? А ну, мазнем чырвонай. Гу!..”. Гэта пісаў сорак гадоў таму Юрка Генюш. Слаўны, таленавіты, мужны Юрка Генюш – адзіны сын у бацькоў. Але ў якіх бацькоў!!! Маці Ларыса Генюш – найвялікшая паэтка Беларусі, патрыётка, змагарка, вязень сталінскіх ГУЛАГаў. Бацька Янка Генюш – доктар, выпускнік Пражскага ўніверсітэта, беларускі патрыёт, бібліяфіл, вязень сталінскіх лагераў.




Мужнасці ён вучыўся ў мамы і таты, прафесію выбраў бацькаву, а творчы талент пісаць узяў ад маці. Георгій Валкавыцкі ў сваіх “Вірах” (Беласток,1991), прыгадваючы 1973 год, піша: “Пасля Новага

года аднавіў я шыльду сваёй рубрыкі (Задрыпанка ў сонечных праменнях) і, запрыкмеціўшы ў Юркі Геніюша шчадрынаўскі дух, угаварыў доктара на арэнду суседняй дзялянкі. Канкурэнт пачаў назіраць "З маёй званіцы" пад фірмай "Ларс". І тут ажыў праўдзівы Гарадок (Працаваў Юрка ў Гарадку)".

Ажывалі і сябры, калі з'яўляўся Юрка Геніюш, ажывалі выданні, дзе ён друкаваўся, ажываў і беларускі Беласток. Хаця лёс, сапраўды, Юркі Геніюша быў далёка не белым. І маюць рацыю Уладзімір Арлоў у кнізе "Імёны свабоды" (Радыё Свабода, 2007. С.434) і Міра Лукша ў вершы "Юрка Геніюш", калі прыгадалі яго радкі: "Чаму я чорны, чаму я чорны, мамо – Хоць белы маю твар? Чаму мне вецер заўсёды ў вочы дзьме?". Чорны вецер і вецер халодны часта дзьмулі ў твары Геніюшаў. Але яны выстаялі, не скарыліся, не паддаліся, не здаліся. Хаця ўсё ж скразной лініяй праз усю творчасць Юркі Геніюша праходзіць белы колер. Давайце прачытаем яго творы:

*Зацвіла калінай родная зямля.*
*Белай, белай, белай – сувой палатна...*
*(Верш "Зацвіла калінай родная зямля...")*

*Белай плямай вабіць-вабіць*
*Картка на стале.*
*(Верш "Да свету")*

*Здаецца, сёння белае ўсё. Па белым свеце белыя дарогі... Белы-белы настане дзень... Ды толькі словам бела-бела беларускім прагна чакаеш, каб адгукнуўся хто...*

*(Абразок "Чорным па белым")*

І абразок "Запавет" таксама пачынаецца з белага колеру: *"І падаў снег. І белым вершам астры ўпісалі памяць жывых над прахам небыцця..."*. Здаецца і тут пра белы колер, але ён вельмі самотны, тужлівы, балючы.

Усе гэтыя разважанні прыйшлі да мяне, калі я чытаў новую кнігу ў чорнай вокладцы "Смыком па сэрцы" Юркі Геніюша. Кніга выйшла з друку, дзякуючы прыватным фінансавым ахвяраванням і беларускай Інтэрнэт-Бібліятэкі Kamunikat.org. Зборнік

добра ўклала і напісала сціплую прадмову Міра Лукша, а рэдагаваў выданне Віталь Луба.

Здаецца, пералічыў усіх, хто шчыра працаваў над тым, каб літаратурная спадчына Юркі Геніюша з’явілася на свет. А гэта найбольш поўнае выданне яго разнастайных па жанру твораў. Тут і проза, і паэзія, і драматургія, а таксама шмат цікавых і рэдкіх фотаздымкаў.

У першым раздзеле “У Гарадку і наваколлі” кнігі Юркі Геніюша распавядаецца якраз пра тое, аб чым некалі прасіў пісаць Юрку Геніюша Георгій Валкавыцкі. Складальніца кнігі Міра Лукша вырашыла пачаць выданне менавіта з культурнага і працоўнага жыцця Гарадка і вёсак вакол яго, якія апісваў аўтар. Цікава чытаецца тое, аб чым аўтар паведамляў некалькі дзясяткаў гадоў таму. З кнігі мы даведваемся пра трыкатажны завод (1959-1995), пра дзяржаўнае агенцтва “Эстрада”, пра фарміроўшчыка Гогаля, млынара Лапіча, пра крамы Гарадка, куды нават па тавары прыязджалі гараджане з Беластока, і шмат пра што іншае. Аўтар апісваў усё даволі цікава, шчыра, нават з нейкім светлым гумарам. Калі б і сёння падобныя нататкі з глыбінкі Беласточчыны хтось дасылаў, то рэдактар “Нівы” Яўген Вапа іх абавязкова друкаваў бы. Яны чытэльныя, лёгкія і невялікіх памераў. А сённяшнія чытачы не вельмі любяць чытаць вялікія тэксты, асабліва, калі яны яшчэ без фотаздымкаў.

Чытаючы кнігу Юркі Геніюша “Смыком па сэрцы”, прыхільнікі яго творчасці пабываюць і даведаюцца, як і чым жылі беластоцкія вёскі 30-70 гадоў таму. Аўтар у свой час пісаў пра дзеда Няўдалага з вёскі Скупавічы, які некалі пырнуў віламі нямецкага жаўнера. З кнігі мы даведаемся і пра тое, што некалі ў вёсцы Случанка вельмі дружна жылі вяскоўцы, а ў Меляшках раней смачны пяклі каравай, а ў Падазеры пачаў курсіраваць аўтобус…

Мне падабаецца, што ў кнігу Юркі Геніюша Міра Лукша ўключыла і пяць ягоных п’ес. Гэта п’есы “Хто – каго?”, “Прыгоды Белага Грыба”, “Зямля”, “Вываражыла”, “Дзіўны горад”. Некалі пад адной вокладкай выходзілі п’есы Сакрата Яновіча і Юркі Геніюша. Кніга мела назву “Зборнік сцэнічных твораў” (Беласток, 1969).

Я пытаўся пры жыцці ў Сакрата Яновіча, чаму ён не працягвае пісаць п'ес, на што ён адказаў, што ніколі не збіраўся быць драматургам, а на напісанне п'ес яго натхніў і накіраваў Юрка Геніюш, таму і напісалася іх некалькі.

Друкавалася п'еса Юркі Геніюша і ў "Зборніку сцэнічных твораў". Гэта была бытавая камедыя "Выважыла", якая тады нават атрымала ўзнагароду ў конкурсе БГКТ.

Што датычыць паэзіі Юркі Геніюша, дык яна своеасаблівая, далёка не падобная на паэзію яго маці Ларысы Геніюш. Але сын вучыўся ў маці, спрабаваў, як казаў Ян Чыквін, удыхнуць дух аптымізму, творчую энергію, прывіць імунітэт непадатлівасці на чужыя вірусы, папярэджваў аб устойлівай палітыцы дэнацыяналізацыі розных "дабрадзеяў" з усходу і захаду:

*Пасля ночы будзе-будзе калісь дзень.*
*Мы не можам жыць без свету...*

Юрка Геніюш – быў чалавек кампанейскі, меў шмат сяброў, у яго хапала энергіі і сіл на знаёмствы і сустрэчы, меў добрую памяць, шмат ведаў вершаў, анекдотаў, любіў іх распавядаць. Ён быў казачнік-выдумшчык і літаратар з гумарам. Мне вельмі падабаецца яго аповед "Як чэрці свіней у балота зацягнулі". Нагадаю чытачам сюжэт. Прасілі дзеці дзядзьку Рыгора расказаць пра гэта. І ён расказаў. Аднойчы пасвіў у пана свіней, але пан мала плаціў, а малады Рыгор некалі задумаў жаніцца на прыгожай дзяўчыне. Тады ён вырашыў прадаць свіней пана гандлярам, але паадрэзваў у свіней хвасты. А потым гэтыя хвасты пазасоўваў у балота. А пану сказаў, што чэрці свіней пазавалакалі ў балота, толькі хвасты відаць. Пабег пан глядзець, схапіў за хвасты і "адарваў" іх. А Рыгора выгнаў з працы. Але за грошы Рыгор хутка ажаніўся на прыгожай Алесі... Цікавейшая рэч. Вельмі добра чытаецца, проста не адарвацца. І такіх твораў у Юркі Геніюша шмат. Па іх можна нават вясёлыя мультфільмы і фільмы здымаць.

А цяпер пра ліст да Віктара Шведа. Я думаю, што вядомы беларускі паэт з Беластока Віктар Швед заўсёды памятаў і памятае тое, што некалі яму пісаў і казаў Юрка Геніюш. А казаў ён вось



*Беларускае літаратурнае аб’яднанне “Белавежа” (Беласток). Стаіць крайні злева Юрка Геніюш, 1970 г.*

што: “І памятай, што хай цябе там нават клічуць Шведам – для нас ты быў і будзеш беларус”.

І апошняе з нагоды выхаду кнігі “Смыком па сэрцы”. А ці ведаеце вы, шаноўныя сябры, чым пры жыцці Юрка Геніюш заліваў тугу? А заліваў ён яе – гаворкай роднаю. Дык давайце і мы далучымся да Юркі Геніюша і будзем яшчэ мацней любіць наша беларускае Слова. Памятаеце, ён пісаў: “Бойцеся Слова! Прад ім трапячыце. У ім Ваша смерць, нягоднікі ды злыдні…”. Няхай ворагі баяцца наша Слова, а мы будзем жыць доўга: “Бела. Бела. Бела і пуста. Вялізная спакуса. Дзе ж мае фарбікі? А ну, мазнем чырвонай…”.

2014



# Успаміны пра Ларысу Геніюш

У суботу, 8 жніўня, 2015 года ў Зэльве каля помніка Ларысы Геніюш беларускі даследчык літаратуры і журналіст Міхась Скобла прэзентаваў кнігу “Духу магутныя чары…”, якая выйшла ў мінскім выдавецтве “Лімарыус”  у вядомай ужо серыі “Беларуская мемуарная бібліятэка”. Гэта кніга ўспамінаў пра выдатную нашу паэтку Ларысу Геніюш.




Кнігу склаў, напісаў прадмову да яе і каментар літаратуразнавец Міхась Скобла, які шмат робіць і зрабіў дзеля ўшанавання памяці Ларысы Геніюш. Гэта дзякуючы яму шмат новага пра таленавітую паэтку даведаліся чытачы з кніг “Лісты з Зэльвы” (2012), , “Асоба і час. Ларыса Геніюш” (2010), “Каб вы ведалі” (2005), “Выбраныя творы” (2000) Ларысы Геніюш і іншых выданняў, якія Міхась Скобла ўкладаў, да якіх пісаў прадмовы і каментарыі.




*Помнік Ларысе Геніюш у Зэльве каля Троіцкай царквы*

У кнігу "Духу магутныя чары..." складальнік уключыў успаміны пра паэтку тых асобаў, якія яе ведалі, сябравалі, ці хоць раз у жыцці з ёю сустракаліся. Гэта вядомыя ў Беларусі людзі – Алесь Белакоз, Масей Сяднёў, Уладзімір Калеснік, Данута Бічэль, Алесь Траяноўскі, Зянон Пазняк, Мікола Купава, Сяргей Панізнік, Уладзімір Арлоў, Міхась Чарняўскі, Аляксей Пяткевіч, Вольга Іпатава, Адам Мальдзіс, Аляксей Марачкін, Здзіслаў Сіцька і многія іншыя. Усе яны пакінулі ці спецыяльна для кнігі напісал свае згадкі пра Ларысу Геніюш.

Ёсць у кнізе і ўспаміны малавядомых у творчых колах людзей, але і яны таксама мелі непасрэднае дачыненне да сяброўскіх адносін з паэткай і яе мужам Янкам Геніюшам. Пра сваю суседку Ларысу Антонаўну цікава прыгадвае Зося Марцінчык (Каліноўская) – зэльвенская прыяцелька і суседка Ларысы Геніюш. У 1982 годзе паэтка падаравала ёй сваю кнігу з надпісам: "Дарагой маёй Зосі Марцінчык, што пры мне з дапамогаю. Зэльва, 1982".

Зося Марцінчык смела распавядае пра зэльвенскіх суседзяў паэткі: "Ларысу ў Зэльве моцна праследавалі. Як куды ўдасца вывесці яе, у Мінск ці Гродню, так і пачынаюць тут правяраць. Яна і сама мне расказвала – пазнавала, што ў хаце за час яе адсутнасці пабывалі чужыя людзі. Марыя Пятроўна Парцяная, дэпутат пасялковага савета да яе была падасланая. Суседка Канюшэўская таксама – праз гарышча ў хату да Геніюшаў лазіла. Падкупленая была, па-відзімаму. Семярнічыха, суседка Ларысы з другога канца хаты, расказвала: неяк прыйшла дадому, распранулася ўжо,



*Першая кніга Ларысы Генюш*

заходзіць у спальню – сядзіць чалавек, прыборы наставіў, слухае, што за сцяной у Геніюшаў робіцца. Семярнік, можа, дазволіў, а яна ўзяла і выгнала. Нарабіла крэчу на мужа, каб больш такога не было… Валя Рудко, што была медсястрою ў Зэльве, так ужо дружыла – і палавічкі мыць брала, і ўсё на свеце. А сама ўсё дакладвала куды трэба…”.

Вось пад такім наглядам суседзяў і КДБ жыла Ларыса Геніюш у Зэльве. Праўда, не ўсе такія былі суседкі. Яніна Шматко прыгадвае і шкадуе, што “пераехаўшы з радзімы мужа ў Зэльву ў 1977 годзе, я не праявіла цікаўнасці і не пазнаёмілася з Ларысай Геніюш. Цэлых шэсць гадоў жыла ў адным мястэчку з чалавекам-легендай і не зацікавілася яе лёсам! Бачыла зрэдку ў крамах, любавалася яе інтэлігентным выглядам, яе гордай паставай, уменнем прыгожа аздобіць адзенне вялікай хусткай-шаляноўкай (здаецца, без хусткі я яе і не бачыла). Падысці і загаварыць самой – такога, памятаю, і ў думках не ўзнікла: пра што я магла спытаць? А выпадкова сустрэцца сам-насам не пашчасціла…”.

Успаміны людзей, якія ведалі Ларысу Геніюш, вельмі шчырыя, адкрытыя і цікава чытаюцца. З іх паўстае вобраз жанчыны-змагаркі, жанчыны-паэткі, жанчыны-беларускі. Штогод 9 жніўня да яе ў Зэльву на дзень нараджэння прыязджала каля 40 чалавек. Міхась Скобла на прэзентацыі кнігі ў Зэльве прапанаваў уявіць, як такі дзень народзінаў праходзіў: «Вось Ніна Мацяш, прыехаўшы з Белаазёрска, спявае для Ларысы Геніюш сваю славутую песню «Калыханка маме». Вось устае з Баранавічаў Пятро Рашэтнік, запявае сваім магутным барытонам «Пад звон чары поўнай станьма браты…». Гэта быў іх гімн».

Кніга ўспамінаў “Духу магутныя чары…” – гэта гімн беларускай паэтцы, якая заслугоўвае вялікай пашаны і павагі. Бяда ў тым, што час Ларысы Геніюш у Беларусі яшчэ не наступіў, не прыйшоў. Ён толькі паціху, па крупінцы вяртаецца да беларусаў. І вяртаецца кнігамі яе твораў, здымкамі, лістамі, успамінамі.

Прадмову да кнігі напісаў Міхась Скобла. У ёй я звярнуў увагу на тыя радкі, дзе аўтар прызнаецца, што сустрэчы з Ларысай Геніюш у яе хаце – гэта быў нейкі цуд, цуд пасвячэння ў беларусы, калі, напрыклад, “наведвальнік пасля гутаркі з Ларысай Антонаўнай выходзіў на вуліцу чалавекам іншай якасці”. А хіба гэта не цуд, калі аднойчы, пасля пабыўкі ў Зэльве, гісторык Мікола Ермаловіч пачаў пісаць вершы?

Успаміны пра паэтку дапаўняе другі раздзел кнігі – эпісталярны. А гэта лісты да Ларысы Геніюш, якія ў розны час ёй адрасавалі Кастусь Езавітаў, Юльян Сергіевіч, Васіль Захарка, Уладзімір Караткевіч, Васіль Супрун, Мікола Прашковіч, Алесь Траноўскі, Пятро Марціноўскі, Аксана Сенатовіч, Юлія Бібіла, Іван Гнацюк, Язэп Найдзюк, Фёдар Янкоўскі, Вацлаў Пануцэвіч.

Палітычны і грамадскі дзеяч, сакратар ваенных спраў у першым урадзе БНР, генерал-маёр Кастусь Езавітаў (1893-1946) у лісце ад 15 красавіка 1943 года да паэткі выказваў спачуванні ў сувязі са смерцю Васіля Захаркі. Езавітаў піша, што ён не ведаў, што Захарка быў дзядзькам Ларысы Геніюш. А яшчэ генерал-маёр пісаў, што на Ларысе Геніюш ляжыць “абавязак парупіцца, каб Васіля Захаркі персанальныя і грамадскія архівы не загінулі, бо яны маюць надзвычайна важнае значэнне для гісторыі нашага Адраджэнскага Руху”.

У другім пісьме ад 18 красавіка 1943 года да Ларысы Геніюш Кастусь Езавітаў паведамляе, што “калі-небудзь з гонарам перавязём Васіля Захарку ў Беларускі пантэон у Менск, хаця ж і не скора яшчэ тое будзе!”.

А Язэп Найдзюк у пісьме да Ларысы Геніюш ад 2 траўня 1981 года паведамляў, што “Вы не павінны непакоіцца лёсам сына Юркі, нявесткі, унукаў. Ім жывецца добра. Праўда, Юрка крыху пахудзеў, крыху нервовы, але чуецца добра. Пераканаўся я ў гэтым, калі перад Вялікаднем быў у Беластоку і адведаў

іх… У найбліжэйшым часе ў Беластоку выйдзе з друку маленькі зборнічак – 16 бачын – апавяданняў Юркі, друкаваных у дзвюх мовах – па-беларуску і па-польску. Выдае той зборнічак Клуб пісьменнікаў у Беластоку. Я бачыў ужо карэкту гэтага зборніка. Апавяданні напісаныя добра і цікава. Юрка цешыцца з гэтага, я – таксама…”.

У раздзеле “Dubia” у кнізе публікуецца артыкул Ніла Гілевіча “З рук Васіля Быкава”. Справа ў тым, што ў 1970 годзе Васіль Быкаў перадаў Нілу Гілевічу лагерныя вершы паэткі і машынапіс артыкула групы зэльвенскіх інтэлігентаў, землякоў Ларысы Антонаўны. Іхні артыкул быў інспіраваны публікацыяй Гілевічавага – на гэтую ж тэму, аб бядотным становішчы беларускай мовы ў Беларусі. І вось праз сорак тры гады Ніл Гілевіч перадаў гэты артыкул Міхасю Скоблу, які ён упершыню апублікаваў у кнізе. Артыкул ад імя зэльвенцаў, відавочна, пісала сама Геніюш.

У канцы кнігі Міхась Скобла апублікаваў свае гісторыі з жыцця Ларысы Геніюш “Чайка з лётам арліным”, якія вельмі пасуе да гэтай кнігі, падводзіць вынікі жыцця і дзейнасці мужнай паэткі. Жыццёвыя гісторыі складаюцца з невялікіх, але вельмі цікавых аўтабіяграфічных фактаў, якія датычаць сям’і Геніюшаў і іх лёсу. Пачынаецца ўсё з раскулачвання Міклашэвічаў, з Залатой Прагі, дзе паэтка напісала дзве свае кнігі вершаў – “Ад родных ніў” і “Рукапісны зборнік” (1945-1947), які пабачыў свет толькі ў 1992 годзе ў Лондане; з газеты “Раніца”, дзе на яе старонках паэтка апублікавала каля сотні вершаў; з Другога Усебеларускага кангрэса, у якім паэтка не ўдзельнічала; з чэхаславацкага грамадзянства, якое не абараніла Геніюшаў ад Гулага; з дэпартацыі з Чэхаславакіі без права вяртання ў краіну; з суда ў Менску, дзе Ларысу Геніюш асабіста дапытваў міністр дзяржбяспекі БССР Цанава; з архіва БНР, які патрабаваў Цанава ад паэткі; са сталінскіх лагераў, дзе паэтка і яе муж адбывалі 25 гадоў; з вяртання на Бацькаўшчыну; са зборніка “Невадам з Нёмана”, які пабачыў свет, дзякуючы Максіму Танку і Уладзіміру Караткевічу; са “Споведзі” і з сяброў, з куфэрка Быкава і з Геніюшаўскага крупніка; з “Песняроў” і з пахавання. А таксама з факсімільнага выдання першага зборніка Ларысы Геніюш “Ад родных ніў”, які аўтару гэтых

радкоў і Міхасю Скоблу разам з Валянцінам Дубатоўкаў – удалося выдаць у 1995 годзе ў Слонімскай друкарні накладам 3000 асобнікаў…

Пра ўсё гэта чытачы даведаюцца з выдатнай кнігі памяці пра народную паэтку Беларусі Ларысу Геніюш “Духу магутныя чары…”, якую хочацца чытаць і перачытваць, думаць і асэнсоўваць лёс вялікіх змагароў за нашу Бацькаўшчыну.

2015 г.



*Міхась Шавыркін, Юрка Голуб, Уладзімір Някляеў і Аляксей Пяткевіч у Зэльве каля бюста Ларысы Геніюш, 2008 г.*




## Ларыса Геніюш на паштоўках, канвертах і каляндарыках

Першая паштоўка, прысвечаная беларускай паэтцы-змагарцы, вязню сталінскіх лагераў Ларысе Геніюш (1910-1983) з’явілася напрыканцы 1954 года. Яе намаляваў сябра падпольнай антысавецкай арганізацыі “Чайка”, паэт і педагог, вязень ГУЛАГу Васіль Супрун (1926-2007). Паштоўка была намалявана ў Варкуце і даслана Ларысе Геніюш. На ёй адлюстраваны падкова з бел-чырвона-белым сцягам, вясковая хата пад снегам і словы: “ З Новым 1955 годам – Ларыска!”.

У 1993 годзе Анатоль Белы выдае паштоўку з выяваю карціны Сямёна Геруса, прысвечаную Ларысе Геніюш. На ёй мастак адлюстраваў партрэт паэткі за кратамі і калючым дротам. А таксама словы паэткі: “Бацька і маці, і родная мова для беларусаў – пытаньне жыцьця”.

У Слонімскай друкарні ў 1998 годзе мне пашанцавала выпусціць паштоўку з партрэтам Ларысы Геніюш і з бел-чырвона-белым банцікам. Паштоўку намалявала слонімская мастачка Людміла Лобач.







Фонд Анатоля Белага і сядзіба музея выяўленчага мастацтва ў Старых Дарогах у 2003 годзе выпусцілі паштоўку з выяваю помніка Ларысы Геніюш у Зэльве скульптара Міхася Інькова. Паштоўка была надрукавана на чатырох старонках. На ёй таксама адлюстраваны здымак тых, хто прымаў удзел у адкрыцці помніка ў Зэльве 29 лістапада 2003 года каля Зэльвенскай Траецкай царквы. І спіс тых, хто ахвяраваў грошы на помнік. Гэтыя прозвішчы хочацца нагадаць і цяпер: Святлана і Анатоль Белыя, Кастусь Вайцяхоўскі, Кацярына Вініцкая, Мікола Грэбень, Марыя Дзямковіч, Генадзь Дылеўскі, Уладзіслаў Завальнюк, Віталь Каляда, Пётр Краўчанка, Мікола Латушкін, Аляксей Марачкін, Ганна і Кастусь Мерлякі, Уладзімір Набагез, Мацвей Рэпкаў-Смаршчок, Аляксандр Семяняка, Іаан Харашэвіч, Міхась Чарняўскі, Аляксей Шынкевіч, Алесь Шатэрнік і Леанід Шчамялёў.

Да 100-годдзя Ларысы Геніюш у 2010 годзе ў Маладзечне, дзякуючы краязнаўцу Міхасю Казлоўскаму і мастаку Генадзю Сянькоўскаму, таксама свет пабачыла паштоўка з партрэтам паэткі.




Помнік Ларысе Геніюш
у Старых Дарогах



**ВЯЛІКІЯ БЕЛАРУСЫ XX ст.**

*Сядзіба Музея выяўленчага мастацтва*
*Фонд Анатоля Белага*
*г. Старыя Дарогі*






адрас адпраўшчыка і індэкс прадпрыемства сувязі






100 ГАДОЎ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ

*Беларусь мая ясная,*
*сіняя казка,*
*Схіліліся дрэвы*
*над хатай ў журбе,*
*Як жа мне сёньня*
*нясказана цяжка*
*І хораша разам*
*жыць для цябе...*



Ларыса Геніюш
1910–1983

Каму

Куды

індэкс

# ЛАРЫСА ГЕНІЮШ
## 1910-1983



## ВЯЛІКІЯ БЕЛАРУСЫ XX ст.

*Помнік Ларысе Геніюш на цвінтары Траецкай царквы ў Зэльве.*



Зэльва. Падчас адкрыцця помніка Ларысе Геніюш. 29.11.2003г.

"БОЖА, БАРАНІ БЕЛАРУСЬ"
ЛАРЫСА ГЕНІЮШ
УСТАЛЯВАНЫ З ДАБРАСЛАВЕННЯ
**МІТРАПАЛІТА**
МІНСКАГА І СЛУЦКАГА
ПАТРЫЯРШАГА ЭКЗАРХА ЎСЯЕ
БЕЛАРУСІ **ФІЛАРЭТА** ў 2003г.
КІРАЎНІК ПРАЕКТУ АНАТОЛЬ БЕЛЫ
СКУЛЬПТАР МІХАСЬ ІНЬКОЎ

Не засталося ўбаку Таварыства Беларускай мовы ад ушанавання Ларысы Геніюш. Сябры таварыства ў 2000 годзе выпусцілі кішэнны каляндарык з партрэтам паэткі і змагаркі, які намаляваў Алесь Мара. На каляндарыку былі змешчаны і паэтычныя радкі аўтаркі:

*Сёньня на пласе родная мова.*
*Вырваць жывую належыць з агню.*
*Слова "кахаю" – слабае слова,*
*Мужнае слова – "абараню"!*

Да 100-годдзя Ларысы Геніюш ТБМ сумесна з кампаніяй "Будзьма" таксама выпусцілі кішэнны каляндарык з партрэтам маладой Ларысы Геніюш.

У 2010 годзе парадавала Белпошта, якая надрукавала паштовы канверт да 100-годдзя з дня нараджэння паэткі. Канверт выйшаў накладам 30 тысяч асобнікаў. На ім адлюстраваны партрэт Ларысы Геніюш і яе цудоўныя словы:

*Беларусь мая ясная, сіняя казка,*
*Схіліліся дрэвы над хатай ў журбе,*
*Як жа мне сёньня няказана цяжка*
*І хораша разам жыць для цябе...*

Вось і ўсе папяровыя выданні, прысвечаныя Ларысе Геніюш, якія маю ў асабістым архіве. Хочацца спадзявацца, што паштоўкі, каляндарыкі і канверты, прысвечаныя нашай таленавітай і мужнай паэтцы, будуць выдавацца і надалей.



# ЗМЕСТ

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Чыгрын** Сяргей Мікалаевіч

Вяртанне да Ларысы Геніюш
Літаратурна-краязнаўчыя артыкулы

Рэдактар *Васіль Герасімчык*

Набор *Сяргея Чыгрына*

Вокладка, макетаванне *Алесь Рыжы, Ілья Рыжы*

У кнізе выкарыстаны фотаздымкі з асабістага архіва аўтара і Інтэнэта

